РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

Кошт 200 рублёў

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №14 (123). 6 КРАСАВІКА 1994 ГОДА.

СЁННЯ:





## ЗОЛАТА НА ДАЛОНІ



Сенсацыя

Вось яно, першае золата нашай дзяржавы!

Здабытае ў нязведаных нетрах беларускай зямлі, сабранае, вылушчанае па драбінках з пароды, яноператварылася ў сонечны Злітак Надзеі для ўсіх нас.

Вось ён,першы залаты злітак, горды і велічны, адліты для таго, каб увайсці ў аналы нацыянальнай гісторыі. Магчыма, неўзабаве прыстанішчам яму будуць служыць аксамітавая драпіроўка і музейная цішыня. А пакуль ён - на далоні чалавека, які разведаў золата Беларусі і даў магчымасць нашым карэспандэнтам першымі ў свеце занатаваць гэты сенсацыйны факт...

Эксклюзіўны матэрыял пра незапатрабаваныя пакуль скарбы рэспублікі і пра тое, як яны могуць узбагаціць бюджэт незалежнай краіны, чытайце на стар. 3, 4.

## У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ

- У чацвёртую паездку па Іспаніі і Партугаліі выправілася вялікая група спевакоў Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь. Іспанская публіка ўбачыць спектаклі «Севільскі цырульнік» Расіні, «Тоску» і «Чыо-Чыо-Сан» Пучыні, «Бальмаскарад» Вэрдзі, пачуе арыі ў выкананні беларускіх оперных зорак Наталлі Кастэнкі і Марата Грыгорчыка, іншых вядучых артыстаў; пазнаёміцца з маладымі салістамі Тацянай Варапай і Сяргеем Драбышэўскім. Гастролі працягнуцца два з паловай месяцы.
- *5* красавіка ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі была паказана сумесная музычная праграма Рэспубліканскага Палаца піянераў і школьнікаў і пазашкольнай установы «Фуксбаў» з Берліна. Эстрадна-сімфанічны аркестр палаца і музычны маладзёжны тэатр «Фуксбаў» выканалі творы Я.Глебава, Р.Паўлса, Д.Гершвіна. У другім аддзяленні паказаны мюзікл «Дождж — гэта казка».
- *5* красавіка на Малой сцэне Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра Рэспублікі Беларусь адбылася прэм'ера спектакля паводле п'есы Аляксандра Карпава «Хто там?»
- *5* красавіка ў мінскай Зале камернай музыкі (пр.Ф.Скарыны, 44-а) у рамках Міжнароднага фестывалю музыкі «Мінская вясна-94» у праграме «Вялікоднае музычнае прынашэнне» прайшоў канцэрт ансамбля старадаўняй музыкі «Калегіум музікум» з Валгаграда.
- З *5* па 8 красавіка ў сталічным Доме афіцэраў мінскі шматфункцыянальны выставачны комплекс «На ростанях» праводзіць гарадскі фестываль сатыры і гумару «Камаедзіца». На фэст запрошаны Сямён Альтаў, Грыгорый Горын, Аляксандр Шырвінт, Міхаіл Дзяржавін.
- 6 красавіка ў мінскай Зале камернай музыкі (пр.Ф.Скарыны, 44-а) на Міжнародным музычным фестывалі «Мінская вясна-94" у рамках праграмы «Вялікоднае музычнае прынашэнне» выступіць ансамбль старадаўняй музыкі Белдзяржфілармоніі «Кантабіле». Прагучаць творы Альбіноні, Банк'еры, Сэймаса, Радзівіла, Беразоўскага, Пашкевіча.
- 6 красавіка ў мінскім Доме літаратара — прэзентацыя першага тома «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» і энцыклапедыі «Археалогія і нумізматыка Беларусі».
- 6 красавіка ў мінскім прадстаўніцтве заходнегерманскай фірмы «Дойчэ Мессэ АГ» пройдзе прэс-канферэнцыя па выніках міжнароднай выставы тэлекамунікацыі, аргтэхнікі і сродкаў сувязяў ЦэБІТ-94, што прайшла ў Гановеры, у якой бралі ўдзел і прадстаўнікі Беларусі.
- 7 красавіка ў Доме дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі Таварыства «Беларусь-Ізраіль» сумесна з амбасадай Ізраіля на Беларусі наладжваюць вечар з нагоды Дня катастрофы, што пазначаны ў ізраільскім календары.
- 7, 8 красавіка ў памяшканні Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь на суд беларускай публікі будзе прадстаўлена праграма «Барыс Майсееў і ягоныя лэдзі». У ёй возьмуць удзел Ірына Панароўская, Людміла Чурсіна, Ірына Оціева, Алена Свірыдава, балетны ансамбль «Барыс Бойз», трыо «Экспрэсія» і іншыя вядомыя расійскія артысты.
- 8 красавіка ў мінскім Доме літаратара адбудзецца вечарына беларуска-ўкраінскіх сувязяў з нагоды 180-х угодкаў нараджэння Тараса Шаўчэнкі.
- 9 красавіка ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі ў праграме «Новыя імёны», «Юныя таленты» разам з Дзяржаўным камерным аркестрам Рэспублікі Беларусь — мастацкі кіраўнік і дырыжор Інга Эрнст Райль (Германія) — выступяць вучні ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі: Цімур Шчарбакоў (фартэпіяна), Уладзімір Красуля (габой), Юлія Шчарбакова (фартэпіяна).
- 10 красавіка ў Дзяржаўным рускім драматычным тэатры Рэспублікі Беларусь будзе паказаны спектакль «Галем» па адной з легенд «Кабалы» (пастаноўшчык Бруна Абрахам Крэмер) з удзелам вядомых французскіх выканаўцаў Бруна Абрахама Крэмера і Крысцін Шарырон.

«ЭКАНОМДАЙДЖЭСТ»

# ЭХ, КАБ НАШАМУ ЎРАДУ — ДЫ МЕЖЫ НЕ ПЕРАШКАДЖАЛІ!..

### ШТО ЛЮДЗІ КАЖУЦЬ

«... Сёння Рэспубліка Беларусь стала зонай не проста неспрыяльнай для прадпрымальніцтва, але нават небяспечнай. Зарабіць тут цяпер можна толькі вывозячы з яе рэшту сыравіны і нешматлікія канкурэнтаздольныя тавары, а ўтаргаваныя грошы пакідаючы, натуральна, за мяжой...»

*Валеры КРУКОЎСКІ, кандыдат эканамічных навук ("Белорусский предприниматель", N 12, 1994г.).*

«... Што можна сказаць пра тых кіраўнікоў, якія жадаюць захаваць стратную вытворчасць за кошт крэдытаў, надрукаваць «пустыя» грошы і жыць прыпяваючы? Гэта дэманструе іх няздольнасць мысліць і дзейнічаць на здаровай эканамічнай аснове, у новых умовах рынычных адносін. Гэта абсалютнае няведанне рынычных прынцыпаў гаспадарання. Напэўна, палавіну такіх кіраўнікоў трэба замяніць, а другую палову — перавучыць...»

*Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ, старшыня Праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь ("Дело (Восток-Запад)", N 8-9, 1993г.).*

«... Праблемы ўваходжання рэспублікі ў рублёвую зону нельга вырашыць па наступных прычынах.

Па-першае, Расія сёння перажывае дэфіцыт наяўных грошай для выплаты заработнай платы нават сваім грамадзянам.... Непазбежна вымыванне расійскіх рублёў беларускімі, што праз кароткі тэрмін прывядзе да абарачэння ў рэспубліцы толькі хутка інфлюючых беларускіх разліковых білетаў...

Па-другое, уваходжанне ў рублёвую зону не можа ў доўгатэрміновай перспектыве садзейнічаць вываду эканомікі Рэспублікі Беларусь з крызісу... Беларусь усё роўна ў перспектыве будзе вымушана купляць паліва па сусветных цэнах...

Па-трэцяе, уваходжанне ў рублёвую зону прывядзе да падзення канкурэнтаздольнасці прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў...

Чацвёртае, уваходжанне ў рублёвую зону прывядзе да залежнасці тэмпаў інфляцыі ў РБ не толькі ад унутраных фактараў, але і ад інфляцыі ў Расіі...

Пятае, уваходжанне ў рублёвую зону створыць цяжкасці для развіцця нацыянальнага капітала і прывядзе да ўзмацнення залежнасці рэспублікі ад Расіі...

Выйсце з эканамічнага крызісу неабходна шукаць не ва ўваходзе ў рублёвую зону, а найперш, у стварэнні эфектыўнай фінансава-крэдытнай сістэмы, што робіць мэтазгодным увядзенне ўласнай беларускай валюты».

*Аляксандр ЛУЧАНОК, кандыдат эканамічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута эканомікі АН Беларусі, Прэзідэнт фінансавай кампаніі «Фінэк» ("Минский меридиан", N6, 1994г.).*

«... Можна было б зрабіць з Беларусі «Швейцарыю Усходняй Еўропы»...

... Калі мы будзем распрацоўваць падобную канцэпцыю, неабходная нацыянальная ідэя з вялікай літары, якая б стала мэтай для ўсяго народа...»

*Валеры МАЦУЛЕВІЧ, Прэзідэнт кампаніі «ВІТТ».*

«... Я высока ацэньваю пісьменныя дзеянні кіраўніцтва Расіі. Ні ў якай ступені не хачу падацца русафобам. У мяне маці беларуска і бацька — рускі. Але ў дадзеным выпадку я выступаю як патрыёт нацыянальнага бізнесу. Расія нас пісьменна акцыянуе. Мы можам стаць калоніяй, якая патрэбна для транзіту — машын, матэрыялаў, чаго заўгодна. На наш рынак непазбежна прыйдзе інвестар — аднак не заходні, а расійскі. Там вялікія грошы, але надта многа — «дзікіх»...»

*Аляксандр ЯЛОВІК, Прэзідэнт кампаніі «Інтэркантыненталь» ("Фемида", N7, 1994г.).*

«... Расійскі ўрад, або тыя колы ў расійскім урадзе, якія выступаюць за найбольш хуткае аб'яднанне грашовых сістэм дзвюх дзяржаў, разглядаюць гэтую акцыю... як нешта абсалютна неістотнае. Яны наогул не задумваюцца аб эканамічным баку пытання... Гэтага рабіць нельга. Але раз гэта ўсё ж робіцца, дык амаль няма сумненняў у тым, што ў аснове ляжаць чыста палітычныя прычыны.

Не магу доказна сцвярджаць, што зводзяцца яны да імкнення ў далейшым правесці больш поўную і глыбокую не толькі эканамічную, але і палітычную інтэграцыю дзвюх дзяржаў, а потым вярнуцца да старога саюза. Калі дадзенае пытанне і абмяркоўваецца, калі і кладзецца на паперу, то, пэўна, у вельмі абмежаваным коле. Але па тым, як усё адбываецца — імгненна, без шырокіх дыскусій, — хутчэй за ўсё, справа менавіта ў гэтым.

Для Расіі, дакладней, для пэўных яе колаў, гэта зразумела, бо ім уласціва сапраўды чыста імперская палітыка — палітыка ўзнаўлення былога Савецкага Саюза ўсімі магчымымі метадамі і спосабамі. Што ж тычыцца інтарэсаў Беларусі... Шушкевіч прытрымліваўся нейкай сярэдняй пазіцыі... Хуткасць, з якой ён быў зняты з пасады... выклікалася гэтым рэзонам — яго няпоўнай гатоўнасцю ісці на хуткае збліжэнне з Расіяй, якую дэманструюць і сп.Кебіч, і сп.Грыб. Атрымалася так, што, з аднаго боку, у Расіі, пайшлі Гайдар і Фёдараў, якія пярэчылі супраць грашовага аб'яднання, а з другога — пайшоў Шушкевіч, які таксама быў невялікім энтузіястам гэтай справы. Засталіся якраз тыя, хто выступае за найбольш хуткае аб'яднанне. І гэта дае падставы меркаваць, што ў аснове дадзенага аб'яднання ляжаць, найперш, палітычныя інтарэсы...»

*Андрэй ІЛАРЫЁНАЎ, эканаміст, былы кіраўнік групы аналізу і планавання старшыні ўрада Расіі. ("Белорусская деловая газета", N7, 1994г.).*

### ШТО ЎРАД ГАВОРЫЦЬ

*ВЯЧАСЛАЎ КЕБІЧ, прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь:*

«Урад не страціў кіруемасці фінансамі, эканомікай, не дапусціў абвальнага спаду вытворчасці, прыступіў да рэалізацыі антыінфляцыйнай грашовай палітыкі».

*(З выступлення ў парламенце 1 сакавіка 1994 года па зменах у структуры ўрада).*

«Вячаслаў Кебіч падкрэсліў, што, па яго глыбокім перакананні, і расіяне, і беларусы стануць лепей жыць, калі будуць убраны межы, якія іх сёння падзяляюць».

*("Рэспубліка", 24 сакавіка 1994г.).*

### ШТО ЛІЧБЫ СЦВЯРДЖАЮЦЬ

Спад вытворчасці ў студзені 1994 года — на 62 працэнты ў параўнанні са студзенем 1993 года.

Інфляцыя ў студзені (афіцыйная статыстыка) — больш за 40 працэнтаў, у лютым — амаль 50 працэнтаў.

Грашовая маса ў Беларусі за 1993 год узрасла ў 5,1 разу.

Ужо ў 1994 годзе ўрадам выдаткавана 2,3 трыльёна безрэсурсных крэдытаў).

Сярэдні заробак у 1993 годзе склаў:

— у Літве — 291 літ (каля 74 долараў ЗША),

— у Латвіі — 71,5 лата (каля 120 долараў зша),

— у Эстоніі — 1200 кронаў (107 долараў ЗША),

— Калінінградская вобласць Расіі — 115312 рублёў (94 долары),

— у Беларусі — 164 973 беларускія рублі.

Дынаміка змены курса долара ў адносінах да беларускага рубля ў 1994 годзе (сярэдні кошт продажу ў камерцыйных банках г.Мінска):

20 студзеня — 5750 — 6435 руб. за 1 долар ЗША

20 лютага — 6250 — 6500 руб. за 1 долар ЗША

20 сакавіка — 12000 — 13332 руб. за 1 долар ЗША

**Апошнія тры месяцы газеты чытаў Максім ГІЛЕЎСКІ.**

# МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС ПА АДУКАЦЫІ

У Беларускім універсітэце культуры прайшоў І Міжнародны кангрэс па рэформе адукацыі, у якім бралі ўдзел выкладчыкі краін СНД і далёкага замежжа.

У Мінск былі запрошаны прадстаўнікі са Злучаных Штатаў Амерыкі: доктар Дональд Ховард — заснавальнік і прэзідэнт «Школы заўтрашняга дня»; Даніэль Страза — каардынатар адукацыйнай праграмы ў краінах СНД; Кэйс і Джэйн Граймс — супрацоўнікі аддзела міжнародных сувязяў. Яны выступілі з дакладамі на тэмы: «Адукацыйная рэформа XXI стагоддзя», «Высокая тэхналогія індывідуалізацыі», «Дэманстрацыя шматфункцыянальных інфармацыйных сістэм», «Каштоўнасці і рэформа», «Як адкрыць школу заўтрашняга дня — трэнінг, заказ матэрыялаў, паслугі». Дарэчы, такія школы існуюць у 110 краінах свету. На Беларусі яны створаны ў Мінску, Лідзе, Пінску і іншых гарадах. Шырокі ўдзел у працы кангрэса ўзялі супрацоўнікі Беларускага універсітэта культуры. Гасцям былі паказаны канцэртная праграма і выставы навуковых і мастацкіх твораў выкладчыкаў і студэнтаў.

**Лілія ДЗЯМЕШКА.**

# ВІНШУЕМ, ПЕРАМОЖЦЫ!

На чарговым пасяджэнні прэзідыума праўлення Беларускага фонду культуры былі зацверджаны вынікі чарговага рэспубліканскага конкурсу «Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры». Падвёў іх савет садзейнічання бібліятэчнай справе, які з 1988 года актыўна дзейнічае пры БФК. Творчае спаборніцтва праводзіцца ўжо другі раз. У 1993 годзе ў ім бралі ўдзел шматлікія бібліятэкі з усёй Беларусі — гарадскія, дзіцячыя, школьныя. А па колькасці — вылучыліся сельскія.

Пераможцамі выйшлі калектывы бібліятэкі N14 «Юнацтва» г.Мінска, Мядзельскай раённай дзіцячай бібліятэкі Мінскай вобласці, бібліятэкі ПТВ-160 г.Лунінца Брэсцкай вобласці. Усяго вызначана дзесяць лепшых бібліятэк.

Тых, хто даслаў на адрас Фонду самыя шчырыя і змястоўныя справаздачы-споведзі аб сваёй дзейнасці, Беларускі фонд культуры ўзнагародзіў ганаровымі граматамі БФК, грашовымі прэміямі і падарункамі — факсімільным выданнем «Нашай Нівы» за 1906 —1909 гг.

На пасяджэнні ў Фондзе было таксама прынята рашэнне арганізаваць сустрэчу пераможцаў конкурсу з членамі прэзідыума Фонду культуры: пісьменнікамі, вучонымі, мастакамі, прадстаўнікамі ўрада.

А конкурс працягваецца! Сёлета да яго далучылася Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Яго супрацоўнікі адзначылі не толькі змястоўнасць і мастацкае афармленне сшыткаў і альбомаў, якія атрымаў Фонд, але і прынялі рашэнне: узнагародзіць грашовымі прэміямі тры бібліятэкі — Рэчыцкую цэнтральную раённую бібліятэку Гомельскай вобласці, Горацкую цэнтральную раённую бібліятэку імя М.Гарэцкага Магілёўскай вобласці і цэнтральную гарадскую дзіцячую бібліятэку імя М.Астроўскага г.Мінска.

На вялікі жаль, на прапановы Фонду падтрымаць творчы турнір дагэтуль ніяк не адгукаецца Міністэрства адукацыі. Калі б яго прадстаўнікі зайшлі хоць аднойчы ў Фонд культуры і пазнаёміліся з тымі работамі, што даслалі школьныя бібліятэкі Беларусі, дык таксама не адмовілі б ім у дзяржаўнай падтрымцы —маральнай і матэрыяльнай.

**Валянціна КУДРАЎЦАВА, вядучы спецыяліст Беларускага фонду культуры.**

# ЗОЛАТА НА ДАЛОНІ

ДАЛОНЬ і на ёй злітак — не толькі чыстая сімволіка, і не заштампаваны журналісцкі прыём.

Мой суразмоўца — член-карэспандэнт Міжнароднай інжынернай акадэміі, доктар геолага-мінералагічных навук, дырэктар Беларускага дзяржаўнага навукова-даследчага геалагічнага прадпрыемства «БелГЕА» Віталь Андрэевіч МАСКВІЧ. Вучоны і адзін з першых за ўсю гісторыю Беларусі золатапрамысловец. Інтэлектуал, апантаны сваёй новай справай — прадпрымальніцтвам...

НА ПАЧАТКУ размовы мая асабіста памяць чамусьці была скіравана да знакамітых джэклонданаўскіх калізій у час «залатой ліхаманкі», да «кландайкаў» і іншых там суперэмацыянальных мясцін з экзальтаваным насельніцтвам. А яшчэ мроіліся шматкілаграмовыя злiткі, якімі нібыта запаўняюць сховішчы нашага Нацыянальнага банка... Як у швейцарскім... Мроілася заможнасць шматпакутнай сённяшняй дзяржавы, яе «зайцы» і «ласі», падмацаваныя залатым талерам. Злавіла сябе і на такім, здавалася б, ненатуральным для жанчыны: золата — ну ніяк! — не атаясамлівалася ў мяне з рэспектабельнымі ювелірнымі ўпрыгожаннямі. Што ж, гэта — сімптом; як кажуць, «не до жиру...»?

Ён папрасіў прынесці з лабараторыі ўзор каштоўнага металу. Прынеслі некалькі прабірак і маленькіх пакецікаў з калькі. Золата сакавіцкага намыву — буйнейшае па памеры, чым здабытае раней, нагадвае асіметрычныя зярняткі проса. Як гаворыцца, памацаць пальцамі ні «зярняткі», ні залаты пясок на кальцы нам не дазволілі: калі каштоўная пылінка прыліпне да рукі, вага металу стане на долі міліграмаў менш. Пылінкі-залацінкі беражліва вынеслі з кабінета...

НА ШТО была скіравана наша з Віталем Андрэевічам гутарка? Вядома ж, на праблемы вышуку сыравінных рэсурсаў на тэрыторыі Беларусі, за кошт якіх эканамічная сітуацыя дзяржавы можа карэнным чынам змяніцца. Як? Думаю, ёсць сэнс кіруючым асобам усур'ёз прааналізаваць тое, пра што разважае сёння вучоны-практык.

## ЖАЛЕЗА, ВАДА І... ДЗІРКА Ў БЮДЖЭЦЕ?

— Вы цікавіліся, ці сапраўды знойдзена першае золата за ўсю гісторыю беларускай зямлі? Не. Паводле друкаваных крыніц, нібыта намывалі яго яшчэ пры Пятры І. Больш ніякіх згадак і фактаў няма. У савецкі час працавала геалагічная служба — Упраўленне геалогіі пры Савеце Міністраў БССР, якую потым пераўтварылі ў вытворчае аб'яднанне «Беларусьгеалогія». Нават нядаўна я размаўляў з іх мінеролагамі: яны зрабілі дзесяткі тысяч пробаў, але безвынікова. Я зразумеў прычыну: канцэнтрацыя беларускага золата ў кубічным метры пароды і без таго вельмі нізкая, ну а калі пошук весці ў стограмовай ёмістасці... Нашы супрацоўнікі на базе праведзеных спецыялістамі ВА «Беларусьгеалогія» і Інстытута геалагічных навук АНБ даследванняў распрацавалі іншую тактыку пошукава-разведвальных работ на золата. Мы ж робім шматаб'ёмныя пробы, і практычна па ўсёй Беларусі за 1993 г. выявілі 22 радовішчы з агульнай колькасцю золата, якая налічвае першыя дзесяткі тон. Дарэчы, утрыманне гэтага каштоўнага металу ў пародах перавышае мінімальныя нормы, якія патрабуюцца для эканамічнай мэтазгоднасці здабычы золата. Пры гэтым у нас — зусім іншы падыход да справы, і вось чаму. Звычайна асноўныя эканамічныя затраты ідуць на тое, каб падняць грунт, пярвічна перапрацаваць, узбагаціць яго і да т.п. Мы ж распрацоўваем, скажам так, «хваставыя» часткі на існуючых ужо пясчана-гравійных кар'ерах. Менавіта таму нашы эканамічныя выдаткі ў 15-20 разоў ніжэйшыя, чым калі б мы гэта ўсё рабілі з нулявога цыкла. Вось чаму нават пры нізкіх канцэнтрацыях здабыча золата для нас выгадная. Усё гэта здзейснілася дзякуючы дапамозе СМ РБ, Камітэта па каштоўных металах і камянях і ВА «Мінскнярудпрам». Дарэчы, нядаўна ў «БелГЕА» паступіла прапанова: у Магадане ўзяць дзялянку і здабываць золата ў тым рэгіёне. Але пачынаць з нуля для нас эканамічна стратна. Тым больш, што працуем мы ў геолагаразведцы дзяржавы... «за кошт уласных сродкаў». Укладваючы мільярды рублёў крэдытаў, а таксама ўласных даходаў ад дзейнасці па нафтавых напрамках, мы пастаянна рызыкуем! Бо няма закону аб нетрах, а значыць — няма гарантый, што тое, што мы разведваем, нам дадуць магчымасць і здабываць. Застаецца толькі спадзявацца на здаровы сэнс кіруючых органаў...

Вы задалі пытанне: маўляў, наколькі сур'ёзна мець, вобразна кажучы, золата ў сваёй зямлі? Маральна і эканамічна без гэтага наогул няма ДЗЯРЖАВЫ. Беларусь жа ўпершыню ўвайшла ў лік золатаздабываючых краін, а гэта значыць, што яна здольна ўнутры сябе ствараць валютналіквідны тавар. Так, мы пакуль не знайшлі каштоўных камянёў, але разам з золатам знаходзіцца плаціна, паладый, серабро. І гэта — нямала! Летась мы паспрабавалі наладзіць ужо прамысловую здабычу золата, аднак не ўсё ладна склалася. Цяпер жа выйшлі на канадскія ўстаноўкі «Кнэльсан», якія даюць большую эфектыўнасць у здабычы каштоўных металаў. І вось мая выснова: толькі ад рэалізацыі нашага праекта па золаце, а мы маглі б здабываць яго нямала, дзяржава б мела ад нашай дзейнасці «за кошт уласных сродкаў» сотні мільёнаў долараў у бюджэт дадаткова.

Я павінен сказаць, ва ўрадзе дастаткова разумна падлічылі, што на сённяшні дзень ад дзейнасці вытворцаў-прадпрымальнікаў, якія, як і мы, працуюць «за кошт уласных сродкаў», можна выйсці са складанага становішча. Залатаць «дзіркі ў бюджэце». Сапраўды, чаму б і не? Возьмем хаця б толькі адно прадпрыемства — наша «БелГЕА» — і паспрабуем прасачыць, наколькі ягоная дзейнасць можа быць карыснай дзяржаве, яе бюджэту.

Шмат хто сцвярджае, маўляў, на Беларусі з сыравінай вельмі кепска, няма яе. Ёсць! У нас жа вялізныя запасы пітной вады. Артэзіянскія свідравіны. І гэта вельмі каштоўная сыравіна: наша вада перавышае ўсе магчымыя і немагчымыя патрабаванні сусветных стандартаў, намнога чысцейшая за еўрапейскую, з содавай мінералізацыяй, гідракарбанатнанатрыевая. Аналагаў ёй знойдзецца няшмат. На жаль, гэтую ваду выкарыстоўваюць як бытавую, у тым ліку — і на тэхнічныя патрэбы. Прычым, беззваротна страчваецца да 30 тысяч кубоў у дзень. А гэта ж — валюта!

У Мінску нам выдзелілі ўчастак, дзе будуць усталяваныя дзве італьянскія лініі па разліву газіраванай і негазіраванай пітной вады. Усё рабатызавана і аўтаматызавана. На лініі будзе працаваць толькі восем чалавек. Адсюль пойдуць запакаваныя ў вялізныя цюкі паўтаралітровыя поліэтыленавыя бутэлькі, афармленыя ў стылістыцы сучаснага дызайну. Магутнасць ліній — 160 мільёнаў паўтаралітровых бутэлек на год. Дастаткова сказаць, што толькі адна бутэлька ў аптовым продажы каштуе звыш 30 цэнтаў, у розніцу ж — да паўтара долара. Наша лінія можа даваць каля трыццаці мільёнаў долараў чыстага прыбытку ў год. Уявіце сабе, што за дзесяць дзён цяперашняя здабыча вады пагашае каля 25 мільёнаў долараў! Мы лічылі: кубаметр артэзіянскай вады адпавядае кошту паўтары-дзвюх тон нафты. Вось што трэба нашай краіне накіроўваць на сусветны рынак! У нас ужо з'явіліся і першыя пакупнікі... І толькі ад прыбытку па пітной вадзе дзяржава ад нашых падаткаў штогод можа класці ў бюджэт да 80 мільёнаў долараў.

Далей. На Беларусі геолагамі ВА «Беларусьгеалогія» выяўлены два неблагія радовішчы жалеза. Яны могуць на дзесяткі гадоў забяспечыць рэспубліку сыравінай. А калі арганізаваць яшчэ бяздоменную плаўку перапрацаванага металалому з жалезнай рудой, дык і на сто гадоў хопіць. У сувязі з гэтым мы выйшлі ва ўрад з ініцыятывай: пакуль адсутнічае Закон аб нетрах, у парадку выключэння прапанаваць замежным банкам пад валютны крэдыт залог у выглядзе права на распрацоўку гэтых радовішчаў. Не ведаю, якое рашэнне прыме ўрад. Прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч нібыта не пярэчыць, а вось некаторыя іншыя чыноўнікі лямантуюць, нібы мы радзіму збіраемся прадаць. Ды не прадаецца радзіма, а залог робіцца для таго, каб далучыць сюды валюту. Што такое залог? Вы фактычна атрымліваеце амаль увесь кошт радовішча ў валюце адразу. Напрыклад, жалезарудныя запасы нашы каштуюць каля двух з нечым мільярдаў амерыканскіх долараў. Мы просім крэдыт у 400 мільёнаў долараў, адну шостую частку, на дзесяць гадоў. За гэты час мы паспелі б цалкам развіць жалезаздабываючую прамысловасць, прычым ёсць варыянты экалагічна бяспечныя. Можна было б арганізаваць на Жлобінскім металургічным камбінаце бяздоменную плаўку, у нас там ёсць ужо папярэдняя дамоўленасць. Тут, на Беларусі, дзякуючы крэдытам, маглі б з'явіцца сотні мільёнаў долараў, бо побач з гэтымі гіганцкімі праектамі па стварэнні жалезаздабываючай прамысловасці можна было б ажыццяўляць паралельна і мноства іншых дробных праектаў. Фактычна, калі браць залог у 400 мільёнаў долараў, якія нам патрэбны на 10 гадоў, можна будаваць на мільярды. А пакуль надыдзе час вяртаць крэдыт, вы ўжо стварылі каштоўнасцяў на пару мільярдаў долараў. Вось так, і вярнулі б пазыку з працэнтамі, і пабудавалі б тое, што запрацуе на дзяржаву на ўсю моц.

А сапраўды? У нас ёсць некалькі дастаткова рэдкіх радовішчаў гэтага угнаення. Таксама можна арганізаваць справу на тым узроўні, якога патрабуе еўрапейскі і азіяцкі рынкі. Мы і пра гэта падумалі, аднак ахапіць усё складана. Пакуль будзем займацца жыльным золатам — за кошт уласных сродкаў, жалезам і вадою — гэтак жа.

Часта гавораць: вось Клімаў на Беларусі вельмі багаты, а Беларусь сама — бедная. Гэта хітрыкі. Беларусь багатая, калі там ёсць багаты Клімаў. А падаткі ад нашай дзейнасці — гэта што, не грошы для дзяржавы? Дзяржаўны бюджэт вымагае сёння вялізнай сумы. Мы ж, калі рэалізуем усе свае праекты, будзем аддаваць ад прыбыткаў каля 200 мільёнаў долараў у бюджэт.

А ці ж «БелГЕА» — адзінае такое прадпрыемства на Беларусі? І вось тут я хацеў бы пагаварыць пра нашую прамысловасць, каб і яна пачала працаваць «за кошт уласных сродкаў». Хачу закрануць прынамсі тэму папаўнення бюджэту рэспублікі: як можна, нікога не крыўдзячы, атрымаць дадатковыя сродкі.

## КАЛІ МЯНЯЦЬ, ДЫК «ДЗЕВАК»...

— Не сакрэт, што бюджэт дзяржавы фарміруецца за кошт падаткаабкладанняў. У выніку — з каго збіраюць падаткі на Беларусі? З прыбытковых прадпрыемстваў. З таго ж, хто не ставарае і хто стратны, — не бяруць амаль нічога. Асноўныя ж падаткі кладуцца толькі на сапраўдных вытворцаў. Падатковы прэс выціскае з прыбытковых прадпрыемстваў не толькі львіную частку даходаў, але і жаданне быць прыбытковымі. А, перафразаваўшы вядомую прымаўку, можна сказаць, што рэзаць курыцу, якая нясе залатыя яйкі, мякка кажучы, неразумна. А ці многа сёння прыбытковых вытворчасцей? У Расіі такіх прадпрыемстваў, у якіх сёння няма сур'ёзных праблем, — каля трыццаці працэнтаў. Не думаю, што ў нас іх больш. Менавіта на іх і павінна сёння арыентавацца дзяржава. Гэта і ёсць тая кропка апоры, якая можа перавярнуць свет! А што мы бачым сёння?

Хто атрымлівае льготныя крэдыты і «ліпавыя» дзяржзаказы? Часцей за ўсё — гэта стратныя прадпрыемствы-гіганты, якія не здольны папаўняць бюджэт, не маюць абгрунтаваных праграм выхаду з крызісу. Шматмільярдныя ўліванні ў іх раскручваюць віткі інфляцыі. Ёсць маса прыкладаў, калі прастойванне прадпрыемства больш выгаднае, чым ягоная работа з выпускам прадукцыі, якая не мае попыту. У час прастойвання такога прадпрыемства страты складаюць сотні мільёнаў, а калі яно працуе — некалькі мільярдаў: гэта — змарнаваная энергія, у тым ліку — газ, нафта; гэта — сыравіна, і, у рэшце рэшт, рабочая сіла. Ці можа так працаваць гасразліковая структура, гасразліковае прадпрыемства? Не. Яно за два месяцы разбурылася б.

Ясна адно, што чым больш стратных прадпрыемстваў датуецца з бюджэту, тым горш для гэтых прадпрыемстваў, тым горш для бюджэту і тым самым — менш карысці ў цэлым для народнай гаспадаркі. Паколькі дырэктара стратнага завода за гэта з пасады не здымаюць, калектыў фактычна разбэшчваецца, бо людзі ведаюць, што грошы ім усё роўна дадуць. І калі нават з'яўляецца мінімальны прыбытак, такія вытворчасці яго хаваюць, каб не выйсці за ранг датуемых. Проста неверагодна! Гэты прынцып — усім даць, каб яны былі задаволеныя, — у лепшых традыцыях сацыялізму. А возьмем апошняе падвышэнне ўзроўню зарплаты. Гэта — жах. З аднаго боку, нібыта зарплата павялічыцца ўдвая, але тое, што цэны ўзрастуць у тры разы і ў цэлым мы прайграем ад гэтага падвышэння ў паўтара разы, ніхто ўцяміць не хоча. Інфляцыя падскочыць ужо не ў два, а ў чатыры разы, канкурэнтаздольнасць нашых тавараў знізіцца яшчэ больш. Дык хто выйграе? А менавіта тыя прадпрыемствы, якія стратныя, прычым — усе, як адно, бо ў бюджэце з'яўляецца ілюзійная сума грошай за кошт павелічэння даходаў ад продажу, напрыклад, прадуктаў харчавання. За кошт гэтых сумаў можна будзе нібыта даваць крэдыты на падтрымку пэўнай вытворчасці. І ўсё гэта разам — не што іншае, як снежны ком, які ляціць з гары па мокрым, ліпкім снезе. Імгненна ўсё гэта абрастае яшчэ большай колькасцю прадпрыемстваў, якія разбураюцца, і ў цэлым прыводзіць да жабрацтва нацыі.

Што рабіць? Звольніць дырэктара, калі ён не можа працаваць у сучасных эканамічных умовах. Памятаеце старую прытчу пра публічны дом: паставілі будынак, нанялі прастытутак — не ідуць кліенты; памянялі шторы, мэблю — не ідуць, фасад перафарбавалі — не ідуць! У чым справа? «Можа, кадры не тыя?» — пытаюцца ў дырэктара. «Як, не тыя? Усе «дзяўчаты» — ідэалагічна вытрыманыя, усе — члены партыі з 1905 года». Тады замянілі дзевак — і кліенты пайшлі! Дык што ў той вытворчасці падмазваць, латаць? Няздольны дырэктар хай ідзе на тую работу, дзе будзе адпавядаць сваім магчымасцям. А на заводзе абвясціць конкурс ідэй, конкурс на пасаду новага дырэктара і даць яму паўгода папрацаваць. Не выйшаў са становішча — вытворчасць аб'яўляецца банкрутам. І — распродаж маёмасці. Вы скажаце, што ўрад на такія прэцэдэнты не пойдзе? Альтэрнатывы няма. Так што бюджэт, які і без таго з цяжкасцю, па драбніцах збіраецца, трэба скарыстоўваць на пераадоленне сацыяльных патрэбаў насельніцтва, а не на стратную вытворчасць.

Мяне неаднойчы папікалі, маўляў, я — супраць развіцця вытворчасці. А вазьміце Чылі. Калі сталі вызваляць ад дзяржаўнага апекавання прадпрыемствы, там было ўсяго толькі каля 20 працэнтаў прыватызаванай прамысловасці, у асноўным — магазіны, сфера паслуг, дробныя майстэрні ды заводзікі. Усё астатняе — дзяржаўнае. Як толькі з'явілася прыватная ўласнасць на вялізнай плошчы Чылі, з'явіўся гаспадар. Натуральна, калі гэта маё — я яго і даглядаю. Людзі перасталі кепска працаваць, а раней яны да дзяржаўнай уласнасці ставіліся як да нічыйнай. Хлынуў паток тавараў народнага спажывання на Чылі, прамысловых тавараў. Словам, усё тое, што было раней па-за гэтай дзяржавай, пачало ўлівацца ў яе. На гэтым фоне дзве трэція прадпрыемстваў Чылі адразу разбурыліся. Але трэцяя ж частка вытрымала! І вось цяпер безліч тавараў, а не сыравіны, ідзе з Чылі ў самыя развітыя краіны, бо там аддаюць перавагу менавіта чылійскаму тавару. У час рэформаў Чылі наваднілі замежныя банкі, але праз пяць гадоў падраслі чылійскія банкіры, якія арганізавалі сваю справу. Цяпер банкі гэтай краіны — адны з мацнейшых у свеце. Так, была ўведзена жорсткая шокавая тэрапія, але людзі перасталі стаяць у чэргах за хлебам...

Яшчэ аб адной з самых магутных крыніц даходу ў бюджэт. Гэта тое, што збудавана, стаіць, ёсць. Я ведаю заводы, якія займаюць толькі па памяшканнях да ста тысяч квадратных метраў тэрыторыі, г.зн. на аднаго супрацоўніка выпадае па 700-800 метраў. А прадукцыі за квартал яны ствараюць столькі, што не хапае на ўтрыманне памяшканняў нават на месяц.

*(Заканчэнне на стар. 4).*

# ЗОЛАТА НА ДАЛОНІ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1, 3).*

Дык давайце з аўкцыёна прададзім частку гэтага прадпрыемства, якое наогул нічога не робіць. Гэта ж колькі грошай! Трыльёны! Бо такіх жа заводаў шмат. Але ж цяпер такая завядзёнка: надта разумны дырэктар паціху прадае абсталяванне з гэтага завода, здае памяшканне ў арэнду і на гэта жыве. Хітрыкі дый і годзе! Вось тут менавіта і праяўляецца сацыяльная несправядлівасць і падман нашых кіраўнікоў. Прыкрываючыся нібыта намерам падтрымаць вытворчасць у працоўным стане, яны літаральна закопваюць усе грошы падаткаплацельшчыкаў. Калі іх не хапае, дык грошы дадаюцца эмісіяй, безрэсурснымі крэдытамі, а працай — чыста паперай. Гэтыя крэдыты выпускаюць на рынак, каб купіць валюту. Купляюць, а тут зніжаецца кошт беларускага рубля. Замкнёнае кола! Замест таго, каб аднойчы і назаўсёды паставіць усё на свае месцы.

Але ж вернемся ў «БелГЕА». Калектыў размяшчаецца ў будынку Інстытута геалагічных навук, які і з'яўляецца нашым заснавальнікам. Мы і дасюль удзячныя кіраўніцтву інстытута — акадэміку Радзіму Гарэцкаму, віцэ-прэзідэнту Акадэміі навук Беларусі, і акадэміку Аляксею Мацвееву за тое, што яны падтрымліваюць «БелГЕА» ва ўсіх пачынаннях. Дарэчы, дзякуючы гэтым дзеячам навукі, мы маем магчымасць займаць 450 кв.метраў інстытуцкай плошчы. Заўважу, што на сваіх жабрацкіх метрах мы выконваем мільярдныя гадавыя аб'ёмы навукова-даследчых і геолага-разведвальных работ. Вось такі просты разлік. Амаль на ўсё, што ў нас звязана з развіццём вытворчасці, мы бярэм або ссуды, або крэдыты. Многія НДІ — бяруць толькі з бюджэту. І, зразумела, імкнуцца рэсурсы абавязкова засвоіць, бо іначай выдаткаванні дзяржава можа знізіць. Дык вось, бюджэтная кармушка для шэрагу галіновых напрамкаў — гэта адзін з відаў сацыялістычных хітрыкаў, прыкрыццё безгаспадарчасці...

Некалькі слоў пра так званую рублёвую зону.

Вядома, што зямны шар насяляюць тысячы нацыянальнасцяў, і толькі крыху больш за сто з іх маюць сваю дзяржаўнасць.

Гісторыя паднесла нам найкаштоўнейшы падарунак: без крыві, вайны і разбурэнняў прадаставіла унікальную магчымасць стварыць Сваю Беларускую Дзяржаву. Мы з'яўляемся паўнапраўным членам ААН, маем шматлікія пасольствы ў розных краінах; вялізны навукова-вытворчы патэнцыял, высокую культуру вытворчасці. Беларусь займае важнае географа-стратэгічнае становішча ва Усходняй Еўропе. Праз яе тэрыторыю праходзяць магістральныя газа- і нафтаправоды, чыгуначныя і шасейныя трасы з Расіі ў Еўропу. Да таго ж Беларусь багатая і на карысныя выкапні, а значыць — на сыравіну. І нельга, не зрабіўшы нават спробы стаць сапраўднай незалежнай Дзяржавай, вярнуць сабе ролю перыферыйнай Папялушкі пры старэйшым браце. Пасля такога вяртання думкі пра незалежнасць, пра самастойнасць, пра ідэалы беларускай нацыі могуць быць проста кінуты ў Лету.

Дык ці пойдзем мы на тое, каб ствараць новыя губернатарскія пасады ў нашых абласных цэнтрах, тым самым разбураючы Беларусь як дзяржаву? Толькі сёння, цяпер, мы здольныя з мінімальнымі стратамі і без ахвяраў узняць краіну да ўзору прыгожай, заможнай і разумнай дзяржавы, якую б ведалі і паважалі ва ўсім свеце.

■

ЗОЛАТА на далоні... На далоні дзяржавы. Вось яно, у выглядзе рэформаў, новай эканамічнай палітыкі і падпісання «права на распрацоўку радовішчаў жалеза ў якасці залогу» пад такія неабходныя дзяржаве валютныя крэдыты; золата гэтае хаваецца і ў мільёнах квадратных метраў плошчы, якую займаюць стратныя прадпрыемствы, пабудаваныя, дарэчы, на нашы з вамі грошы; золата — у кішэні незлічоных «вытворча-невытворчых трутняў» — кантор, інстытутаў, арганізацый.

І россыпы золата — у галоўным: у незалежнасці Беларусі. Россыпы золата — у галоўным: у свабодзе і незалежнасці Беларусі.

ДЗЯРЖАВЕ застаецца толькі ўзяць гэтае золата, ашчадна сціснуўшы яго ў кулак...

**Людміла КРУШЫНСКАЯ.**

# ПАТРЫЁТ-АСВЕТНІК

У лістападзе мінулага года споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння Кастуся Езавітава, ураджэнца Дзвінска (колішняя назва Даўгаўпілса), вядомага дзеяча беларускай культуры ў Латвіі, педагога, паэта, публіцыста. Ён быў адным з заснавальнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі. З 'яўляючыся камандзірам беларускага войска, у свой час асмеліўся падняць голас супраць бальшавіцкіх важакоў, даказваючы, што і беларусы маюць права на нацыянальную самастойнасць.

Па волі лёсу з 1919 года Кастусь Езавітаў жыў у Латвіі, дзе займаўся арганізацыяй беларускіх школ, а таксама — беларускіх гімназій у Лудзе і Даўгаўпілсе.

Прапаную вам свой верш, прысвечаны гэтаму выдатнаму сыну зямлі нашай.




## Кастусь ЕЗАВІТАЎ

*Кастусь Езавітаў*
*Са мной прывітаўся:*
*— Дзень добры, паэце!*
*Ну як вы жывеце?*
*Такіх перамен*
*прычакалі ў Сусвеце!*
*А ў краі вось гэтым,*
*Куды я дастаўся,*
*Праз годы*
*З нагоды свайго юбілею, —*
*Душа замірае —*
*Як гляну наўкола!*
*Не трэба мне*
*Шмат фіміяму з ялеем, —*
*Скажыце:*
*Тут ёсць беларускія школы?*
*Скажыце:*
*Тут ёсць патрыёты айчыны,*
*Хто хрышчаны так*
*Бліскавіцаю блізкай,*
*Хто імкнецца —*
*Ў грудзях*
*з Каліноўскага іскрай?*
*Без іх Беларусі*
*узгым немагчымы.*
*Аб тым я прашу ўсё*
*Магутнага Бога,*
*Каб быў справядлівы да ўсіх,*
*Хоць і строгі,*
*Каб церні прыбраў*
*З адраджэнцаў дарогі,*
*Каб ім не прыйшлося*
*Прайсці праз астрогі!..*

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА,**
**сябра Рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», Даўгаўпілс.**



На вечарыне, што адбылася ў Доме літаратара 22 сакавіка, гаварылася не толькі пра латвійскі перыяд патрыятычнай дзейнасці Кастуся Езавітава (пра гэта добра і шчыра распавядалі Сяргей Панізнік і Вячка Целеш, якія спецыяльна прыехаў на гэтую вечарыну і чыімі клопатамі на запрашальных білетах стаяла выява К.Езавітава).

І народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, і галоўны бібліёграф Нацыянальнай бібліятэкі Валеры Герасімаў, і вядучая Вольга Іпатава, і даследчык Анатоль Сідарэвіч, і ўсе іншыя, хто выступаў на вечарыне, апавядалі пра чалавека, усё жыццё якога было прысвечана Бацькаўшчыне і які быў закатаваны чэкістамі ў 1946 годзе — магіла яго невядомая.

Ці трэба казаць, што вечарына праводзілася ў рэчышчы мерапрыемстваў, прысвечаных слаўнаму дню 25 сакавіка?





*На здымках:*
1. К.Езавітаў. 2. Выступае камерны хор Беларускага універсітэта культуры.
3. Сяргей Панізнік. 4. Вячка Целеш.

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА.**



**25 сакавіка ў Палацы мастацтва адбылося адкрыццё выставы суполкі «Пагоня», прысвечанай 76-м угодкам утварэння БНР.**

**На здымку: актрыса Галіна Дзягілева адкрывае вечарыну вершамі пра Беларусь.**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА.**

# АДКРЫЦЬ «ЗАЧАРАВАНУЮ КРАЇНУ»

*УПЕРШЫНЮ Мінск наведаў дырэктар Інстытута Расіі і ўсходнееўрапейскіх краін Вальдэмар Меланка, які сустрэўся з дырэктарам Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны А.Мальдзісам, дырэктарам Беларускага інстытута праблем культуры У.Скараходавым, а таксама дырэктарам Нацыянальнай бібліятэкі Г.Алейнік. Пры гэтай апошняй сустрэчы прысутнічала і галоўны рэдактар газеты Вольга ІПАТАВА, якой Вальдэмар МЕЛАНКА і даў гэтае інтэрв'ю.*

**В.І.** Спадар Вальдэмар, Вы пажартавалі,што, прыехаўшы на Беларусь у гэтым стагоддзі, другі раз прыедзеце, як Воланд, толькі ў наступным. Чым растлумачыць такія рэдкія візіты дырэктара інстытута, які займаецца вывучэннем, сярод іншых, і нашай краіны? Ці для Вас яна была нечым накшталт правінцыі Расіі?

**В.М.** Ну, канешне, мы ведалі пра Беларусь і тое-сёе пра яе чыталі (праз рускую літаратуру). У нас пра яе было нейкае рамантычнае ўяўленне, як пра нешта нібыта зачараванае. Сапраўды, мы часта ездзілі ў Кіеў, Варшаву, Маскву, Пецярбург — і неяк абміналі вашу краіну. Праўда, дазналіся мы і пра катастрофу ў Чарнобылі, збіралі на дапамогу грошы і прадукты харчавання. Тады многія зацікавіліся: Беларусь — дзе гэта? Нашыя палітолагі добра ведалі таксама пра тое, што Беларусь была членам ААН і нават адной з яе заснавальнікаў. Іншая справа — роля ў гэтым самой Беларусі, у тым, хто ўсім гэтым кіраваў, Мінск альбо Масква? Сапраўды, мяне здзіўляе, што ў Мінска няма пабраціма ў Фінляндыі, таму што ў нас у «той» час было каля 50 гарадоў-пабрацімаў...

**В.І.** Нават у гэтым Беларусь як бы не прымалі пад увагу...

**В.М.** Але гэта не ад Фінляндыі залежала. І я разумею, што вы тут былі ў сціснутай рукавіцы...

**В.І.** Вы маеце на ўвазе — у вожыкавай, альбо — «яжовай»?

**В.М.** Я так не сказаў бы. Вожык — вельмі мілая істота. Хай лепей будзе менавіта так — «сціснутая рукавіца».

**В.І.** Раскажыце трохі болей пра Ваш інстытут.

**В.М.** Наш інстытут быў створаны адразу пасля вайны, у 1946 годзе, і належаў Міністэрству асветы. У гэтым міністэрстве — і навука, і вышэйшая адукацыя, і культура, і школа, і царкоўныя справы, і спорт. У ім два міністры, але адзін апарат. Гэтае міністэрства мае вакол сябе цэлае «сузор'е»: у яго ўваходзяць цэнтральнае ведамства асветы, дзяржархіў, цэнтральнае музейнае ведамства, ёсць камітэт па бібліятэках, цэнтральны камітэт па мастацтвах. Ёсць і інстытуты — дзяржаўны педагагічны, інстытут па вывучэнні дзяржаўных моваў, таксама і наш. Ён, дарэчы, спачатку называўся інстытутам па вывучэнні Савецкага Саюза, але, паколькі СССР не падабалася, што яго вывучаюць, яго перайменавалі ў інстытут культурных сувязяў паміж Фінляндыяй і СССР. Але, на мой погляд, гэта не адлюстроўвала ўсяго спектра нашых заняткаў, у першую чаргу навуковых. Ды каб зноў дабіцца перайменавання, мне прыйшлося разваліць СССР (смяецца), і цяпер нам дазволілі называцца інстытутам Расіі і Усходняй Еўропы. Адна з яго галоўных задач — быць пасрэднікам паміж фінскімі і рускімі (беларускімі, украінскімі) бібліятэкамі.

Праўда, з Нацыянальнай бібліятэкай мы даўнія партнёры. Ад вас мы атрымліваем 5-7 выданняў і пасылаем каля 15 выданняў на абмен. Гэты безвалютны абмен яшчэ ў 60-х гадах устанавіў вялікі энтузіяст фінска-савецкіх сувязяў у бібліятэчнай справе Марці Кахва, які пазней пайшоў ад нас у навуку. Мы мелі ў былым СССР 32 безвалютныя партнёры, і зараз імкнемся аднавіць многія парваныя сувязі.

**В.І.** Але, наколькі я ведаю, Фінляндыя таксама перажывае не лепшыя часы — вы маеце вялікія праблемы ў эканоміцы, як і ўсе краіны, некалі цесна звязаныя з СССР?

**В.М.** Так. Каля 25 працэнтаў нашага экспарту ішло на Усход, і калі абрушыўся ўсходні рынак, фірмы, якія былі звязаныя з ім, папросту «вылецелі ў трубу». У нас цяпер больш за 500 тысяч беспрацоўных, якія, праўда, атрымліваюць субсідыі, але ўсё-такі для эканомікі гэта надта вялікі цяжар. Тым не меней, мы маем свае праграмы, праекты. Ну, напрыклад, адзін з іх звязаны з комі-пермяцкай культурай.

У 30-я гады тут, у Савецкім Саюзе, былі ліквідаваныя іх бібліятэкі, архівы; зведзена, што называецца, пад корань уся нацыянальная інтэлігенцыя. І цяпер, у час Адраджэння, яны звярнуліся да нас, бо нашы фінскія вучоныя ў свой час сабралі



каласальны матэрыял па комі-пермяцкай культуры, сотні тысяч дакументаў, запісаў (тады, на жаль, магнітафонных запісаў не рабілі). Усё гэта знаходзіцца ў Хельсінкі, у Доме фінскай літаратуры (дзе, дарэчы, сярод рукапісаў знаходзіцца і «Калевала»). І людзі з Ёшкар-Алы могуць прыязджаць да нас і даследаваць сваё мінулае; трэба сказаць, што эстонцы і венгры таксама маюць свае здабыткі ў гэтай галіне.

**В.І.** Бо гэта ўваходзіць у фіна-ўгрыстыку, якою таксама займаецца Ваш інстытут?



**В.М.** Дзяржаўныя мовы — фінскую, шведскую, саамскую — даследуе спецыяльны інстытут. Канешне, у гэты інстытут уваходзіць і фіна-ўгрыстыка з яе эстонскай, венгерскай і маленькай комі-пермяцкай групай. У нас ёсць фіна-ўгорскае таварыства, якое працуе больш за 160 гадоў.

Яшчэ адна праблема, якую мы дапамагаем вырашаць. У апошнія пяць гадоў да нас з Карэліі і Ленінградскай вобласці пераехала каля дзесяці тысяч фінаў альбо карэлаў, якія маюць у родзе фінскія карані. З імі таксама прыехалі дзеці, і на перыяд адаптацыі ім патрэбныя кнігі на рускай мове. Нашы бібліятэкі дапамагаюць ім у гэтым. Дарэчы, магчыма, сярод гэтых дзяцей ёсць і беларускамоўныя, і было б пажадана атрымаць ад вас камплект беларускіх казак.

**В.І.** Беларускі фальклор, сапраўды, надзвычай багаты і арыгінальны. У сувязі з гэтым хачу запытацца ў Вас — ці знаёмыя Вы з тэорыяй нашага пісьменніка Івана Ласкова, які імёны старажытных князёў Вялікага княства Літоўскага выводзіць з комі-пермяцкіх гаворак, што ўваходзяць у фіна-ўгрыстыку, і што Вы думаеце на гэты конт?

**В.М.** Я чуў пра Ласкова і гатовы з ім пазнаёміцца. Што ж тычыць ягонай тэорыі, то магу сказаць толькі, што першапачатковыя вядомыя нам паселішчы фіна-ўгорскага племені былі ў раёне Ніжняга Ноўгарада, вакол ракі Волгі там, дзе цяпер жывуць марыйцы. Пасля таго як на іх сталі наступаць славяне, гэтая народнасць пачала раздзяляцца. Частка пайшла на поўнач — гэта комі. Частка ішла на Захад, і з яе адна плынь павярнула ў Венгрыю, другая ў Скандынавію. Але яны прыйшлі туды не з Усходу, а праз беларускую зямлю, праз Эстонію, і вы аказаліся пасярэдзіне гэтага іх маршрута. Гэтая тэорыя даказаная яшчэ 150 гадоў таму ва ўсім фіна-ўгорскім свеце...

Старажытнасць і нашыя правы на яе ўвогуле рэч вельмі цікавая. Вось, скажам, эпас «Калевала». Некалі Эрык Лендрут, заходні фін (лекар, які зацікавіўся рунамі), абышоў пехатой усю Карэлію і з сабраных рун сплёў гэты вялізны эпас, які, вядома, быў фінскім эпасам і напісаны на старажытнай фінскай мове (не на карэльскай). Перакладзены на рускую мову, да рэвалюцыі ён усюды называўся фінскім эпасам. З'явілася Карэльская ССР, і там Ота Куусінен, які стаў прэзідэнтам, аб'явіў гэты эпас карэла-фінскім, і ён нават стаў называцца адзін час толькі карэльскім. Гэта была цэлая вайна...

Але і сучаснасць падкідвае сюрпрызы. Вось, напрыклад, у міжнароднай асацыяцыі па вывучэнні Усходняй Еўропы ладзіцца цяпер новы кангрэс — у Варшаве. Але мы не можам не прымаць пад увагу, што пасля развалу СССР цэлая плеяда саветолагаў, крамлянолагаў у адзін момант перайшла... у гісторыю, таму што ўсе іх дысертацыі сталі міфам, не болей. Гэта тых, хто ўзяў амерыканскую мадэль і стаў лічыць — як стаяць лідэры на Ленінскім маўзалеі, хто ў кастрычніку, хто ў маі, хто сёння, хто заўтра...

**В.І.** А як Вы, працуючы дырэктарам такога інстытута больш за 20 гадоў, пазбеглі гэтага лёсу?

**В.М.** Я займаўся толькі мовай і культурай, праз іх хацеў зразумець душу народа. Таму і сувязі, якія мы зараз аднаўляем, будуць сувязямі культур. У вас тут, напрыклад, рыхтуецца пераклад «Калевалы», мы гатовыя дапамагчы патрэбнай літаратурай. У Фінляндыі над фінска-беларускім слоўнікам працуе ваш Юрась Лапатка. Мы далі яму стыпендыю на паўгода і, калі трэба, працягнем гэты тэрмін.

Адначасна мы запрашаем да нас дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі і яшчэ аднаго чалавека (каго-небудзь з Акадэмічнай, толькі не якога міністэрскага чыноўніка). Мы зможам паказаць вам нашу Хельсінкскую універсітэцкую і парламенцкую бібліятэкі, а таксама вельмі цікавыя бібліятэкі політэхнічнай і камерцыйнай вышэйшых навучальных установаў. Дарэчы, пры Хельсінкскім універсітэце ёсць славянская калекцыя — гэта найбуйнейшы збор рускай і славянскай кнігі за мяжой. Нашы фонды выкарыстоўваюць шведскія і дацкія вучоныя. Вось чаму так важна, каб у нас была літаратура і выданні па грамадскіх навуках, якія могуць даць уяўленне пра тое, як жыве і спрабуе жыць сёння незалежная Беларусь. Узамен мы гатовы прысылаць сюды тыя выданні, якія цікавяць вас. Але... Успамінаю адзін факт. На працягу 20 гадоў мы прысылалі ў Петразаводск фінскую літаратуру, ведаючы, што там ёсць фінскія жыхары. Але яны казалі, што нічога не атрымліваюць. А нядаўна я знайшоў гэтыя пакеты за апошнія дзесяць гадоў... у бібліятэцы Салтыкова-Шчадрына, дзе яны так і ляжалі нераспакаванымі. Ведаў бы я такое раней, можа, падклаў бы нешта... каб прыцягнуць да іх увагу (смяецца). Так што заказвайце тое, што будуць чытаць вашы вучоныя.

**В.І.** Часы мяняюцца. Праўда, для нашых вучоных вострa стаіць праблема замежных моваў. Раней іх веданне прыраўнівалася ледзь не да гатоўнасці шпіёніць на карысць міжнароднага імперыялізму. І яшчэ адна праблема — аднаўленне нацыянальнага менталітэту, адчуванне сябе менавіта беларускімі вучонымі, якія працуюць на карысць свайго народа — і праз гэта на ўсю сусветную культуру.

**В.М.** Вы згубілі сваю ідэнтычнасць, яе аднаўленне важнае не толькі для вас, але таксама для фінаў. Бо адбываецца «амерыканізацыя» еўрапейскай культуры, яе замена на тую, у якой асноўнае патрабаванне да асобы — быць багатым, прыгожым і маладым. Пра гэта ў той ці іншай ступені гавораць амерыканскія фільмы, музычныя творы, нават прапаведнікі-сектанты, якіх, на маю думку, трэба гнаць адсюль рашуча. Усё гэта, як саранча, з'ядае еўрапейскую культуру. Разумную палітыку ў адносінах захавання сваёй уласнай культуры вядуць, як мне здаецца, французы: нават фестываль у Канах яны выкарысталі для таго, каб падчас яго зрабіць навуковы кангрэс аб шляхах развіцця сусветнага кіно. Сапраўды — паглядзіце: у амерыканцаў ёсць каласальныя грошы, яны гоняць так званыя «мыльныя оперы», і гэта зроблена на вельмі прыстойным прафесійным узроўні. Але там, калі можна так сказаць, няма душы... Разам з тым, іх прыклад паказвае, што нельга шкадаваць грошай на культуру, асабліва на нацыянальнае адраджэнне. А на гэта пакуль не звяртаецца асаблвіай увагі. Ну як, скажам, вылічыць карысць, якую даюць грошы, укладзеныя, напрыклад, у выданне кнігі? Кніга выпушчаная, яна пачынае «працаваць», і праца яе ў кантэксце чалавечай культуры можа працягвацца праз стагоддзі... Вось пра што трэба гаварыць дзеячам культуры ўсіх краін.

**В.І.** Спадзяюся, што Ваш наступны візіт адбудзецца ўсё-ткі яшчэ ў гэтым стагоддзі, і дзякую за гутарку.

*На здымках:*

1. Падчас сустрэчы ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

2. Вальдэмар Меланка і дырэктар Інстытута праблем культуры Уладзімір Скараходаў.

# У ДЖАЗЕ ТОЛЬКІ ТАЛЕНТЫ

Адышоў у мінулае першы міжнародны джаз-фэст «Мінск-94», але засталіся ўспаміны пра непаўторныя чатыры дні, напоўненыя музыкай, сустрэчамі, адкрыццямі; новымі знаёмствамі.

Ідэю — наладзіць джазавы фестываль у Мінску — даўно выношваў мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі Міхаіл Фінберг. Яе падтрымаў мэр сталіцы Аляксандр Герасіменка. Не засталіся ў баку Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і гарадское ўпраўленне культуры. Дапамаглі даўнія сябры з Маскоўскай джазавай асацыяцыі, а таксама АА ГАСКО, АА НВТК, «ВІТТ».

Здавалася б, зараз, калі паўсюль такая дарагоўля, людзей больш павінна вабіць бясплатнае сядзенне каля тэлевізара. Але насуперак самым песімістычным прагнозам фестываль выклікаў незвычайную актыўнасць, засведчыўшы, што аматараў джаза ў нас больш чым дастаткова. Што публіка не проста слухае, а і добра ведае і разумее гэтую музыку. Вялікая зала Белдзяржфілармоніі ў асобныя дні была няздольная ўмясціць усіх жадаючых.

Нягледзячы на тое, што раней у нас джаз быў не ў фаворы, гэты музычны напрамак развіваўся. Ва ўсім свеце і ў былым СССР ствараліся нацыянальныя школы. Мінскі фэст паказаў, — існуе і беларуская джазавая плынь, якая мае сваю адметнасць і свае здабыткі.

... Густоўна, у авангардным стылі аформленая сцэна, наверсе — эмблема фэсту, створаная дызайнерам Сяргеем Саркісавым. У зале гасне святло і гучаць першыя акорды. Фестываль адкрывае Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Музыканты вытанчана і віртуозна выконваюць творы, якія сталі ўжо класікай. Затым выступаюць госці — ветэран шведскага джаза, ударнік і вакаліст Рунэ Карлсан і піяніст Ларс Шостэн.

І зноў на сцэне біг-бэнд. На гэты раз пад кіраўніцтвам Алега Лундстрэма (Масква). Сёлета старэйшаму джазаваму калектыву спаўняецца шэсцьдзесят гадоў. Факт гэты адзначаны ў кнізе рэкордаў Гінеса. І зноў гучыць класіка.

Другі дзень быў пазначаны адкрыццямі зорак беларускага джаза (трэба заўважыць, што ў аркестры Фінберга і пры яголым калектыве працуюць лепшыя музыканты Беларусі) і сустрэчай з выдатнымі замежнымі выканаўцамі. Упершыню ў Мінску выступіў вядучы трамбаніст бельгійскага джаза Філ Абрахам.

Пачынаючым аматарам гэтая еўрапейская зорка, музыкант, які мае шмат міжнародных прэстыжных узнагарод, адзначаны прэміяй «Лепшаму джазаваму салісту», напэўна ўяўляецца ўжо сталым, салідным джазмэнам. На самой справе ён аказаўся маладым, абаяльным і далікатным чалавекам. На пытанне: «Ці не пажадаў бы Філ паўдзельнічаць яшчэ ў беларускім джазавым фэсце?», — адказаў:

— Вядома, з задавальненнем. Але мне няпроста было дабрацца да Мінска. Дзякуючы запрашэнню расійскіх музыкантаў я трапіў на ваш фэст.

— Якія ўражанні ад мінскага фестывалю?

— Ён не падобны на тыя, дзе я здолеў пабываць. Ніколі яшчэ не даводзілася бачыць, каб у адным месцы збіралася столькі біг-бэндаў. І потым — занадта многа класікі і вельмі мала сучаснага джаза, які вельмі распаўсюджаны і папулярны зараз на Захадзе. На міжнародных фэстах перавага аддаецца менавіта яму.

Увогуле ад Мінска, публікі, якая з такой сімпатыяй ставіцца да джаза, у Філа самыя добрыя ўражанні і ён вельмі спадзяецца на новую сустрэчу.

Самым насычаным і багатым на выступленні быў трэці фестывальны дзень. На дзённым канцэрце выступілі расійскія групы «Зялёная хваля» Аляксандра Асейчука (Масква), гурт «Ігар Брыль і новае пакаленне» (Масква), «Дайджэст» (Санкт-Пецярбург), які паказаў цікавы сучасны джаз, чые імправізацыі, дарэчы, адзначыў Філ Абрахам.

Увечары адбылося закрыццё фестывалю. Паўтары гадзіны бесперапынна іграў «МКС-Бэнд» Анатоля Крола. Бліжка да заканчэння праграмы да маскоўскіх гасцей далучыліся музыканты аркестра Міхаіла Фінберга. Гледачы сталі сведкамі своеасаблівага спаборніцтва паміж салістамі абодвух біг-бэндаў. Цудоўна ігралі масквічы, віртуозна імправізавалі беларускія музыканты. Перамагла, як і мае быць, добрая музыка.

У гэты ж вечар публіка пазнаёмілася з маладым наватарскім «Анусаўскас-квінтэтам» з Літвы (шмат апладысментаў дасталося яго вынаходлівай вакалістцы і флейтыстцы Недзе Малунавічутэ), пачула старую добрую класіку ў спакойным і стрыманым выкананні ізраільскага трыо Дані Готфрыда.

Чацвёрты вечар быў аддадзены французскаму ансамблю «Эскудэ». Праграма была вынесена за рамкі фэсту. Тры віртуозы-гітарысты «Канцэрта пасля фестывалю» напоўнілі залу прыгожай музыкай, якую, здавалася, можна было слухаць бясконца...

Гэты калектыў быў запрошаны ў Мінск аддзелам культуры пасольства Францыі на Беларусі, якое аплаціла паездку артыстаў на наш фестываль.

— «Эскудэ» ўяўляе сабой чыста французскі напрамак джаза, — расказаў саветнік па культуры французскай амбасады Аляксандр Талстой. — Я добра знаёмы з музыкантамі: кіраўнік групы саракадвухгадовы Крысціян Эскудэ знаходзіцца пад уплывам вядомага ў свеце джазавага выканаўцы Джанга Рэйнхарда, Мары-Анж Мартэн вучылася ў 80-я гады ў Лос-Анджэлесе, цікавы стыль ігры Фрэдэрыка Сільвестра.

Як высветлілася з далейшай нашай размовы, пан Талстой даўні прыхільнік джаза, адзін з папулярызатараў гэтай плыні сучаснай музыкі ў Францыі, іншых краінах Заходняй Еўропы. Падчас другой сусветнай вайны пятнаццацігадовым падлеткам ён трапіў на поўдзень Францыі, у горад Мантабан, дзе пазнаёміўся з Югам Панасье — знаўцам і даследчыкам, які напісаў гісторыю джаза, узняўшы яго на ўзровень музычнага жанру, пасля чаго гэтая плынь пачала распаўсюджвацца па Еўропе. Дзякуючы даследчыку зоркі амерыканскага джаза Луі Армстронг, Дзюк Элінгтон і іншыя знайшлі прыхільнікаў сярод еўрапейцаў. Аляксандр Талстой сабраў тады самую багатую калекцыю з запісамі джазавай музыкі. З Луі Армстронгам ён ездзіў у Германію, Англію, Скандынавію. Сустракаўся з Мільтанам Мэз Мэзроў, з якім потым пасябраваў. У 1946 годзе ў Парыжы з'явіўся аркестр з трох амерыканцаў і двух французаў — Клода Лютэра і Джанга Рэйнхарда, які заклаў падмурак французскага джаза. Яны запісалі свой першы дыск.

У дваццаць адзін год Аляксандр Талстой надрукаваў у музычным часопісе першы крытычны артыкул пра джаз. У 1953 годзе ў Парыжы намаганнямі маладых аматараў новай музыкі побач з Елісейскімі Палямі адчыніўся знакаміты музычны клуб, які, праўда, праіснаваў некалькі месяцаў.

— Выканальніцтва музыкантаў «Эскудэ», — зазначыў Аляксандр Талстой, — мне чымсьці нагадвае атмасферу 50-х гадоў у Парыжы, ігру Рэйнхарда...

— Ці вучаць у Францыі джазу?

— Прыкладна дваццаць гадоў таму з'явілася джазавая кансерваторыя. У 80-я гады ў Манпэлье пачалі праводзіць джазавыя фэсты, наладжваць летнюю школу, дзе стажыруюцца маладыя музыканты.

— Як Вам падаўся наш джазавы фестываль?

— Лічу, што ён удаўся. Я вельмі ўдзячны арганізатарам і, у першую чаргу, Міхаілу Фінбергу, а таксама мінскай публіцы, якая добра і з павагай паставілася да французскіх музыкантаў, прымала іх гасцінна і цёпла.

Першы міжнародны фэст «Мінск-94» скончыўся. Можна толькі шкадаваць, што прайшоў ён так хутка, што выступіла на ім не надта многа беларускіх перспектыўных груп, гучала не вельмі многа сваёй арыгінальнай музыкі, што не знайшлося месца мове-гаспадыні...

Пачнем цяпер чакаць наступнага фестывалю, які, безумоўна, будзе яшчэ лепшым, больш прадстаўнічым.

**Наталля КІРПІЧЭНКАВА.**











*На здымках:* дырыжор «МКС-Бэнда» Анатоль Крол (Масква) і мастацкі кіраўнік, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Міхаіл Фінберг; «Анасаўскас-квінтэт» з Вільнюса; кіраўнік французскага трыо — Крысціян Эскудэ; саліст Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь Андрэй Матлін; бельгійская зорка — Філ Абрахам .

**Фота Віктара ШАХАЛЕВІЧА і Галіны МАСКАЛЁВАЙ. Агенцтва «Ф-АРТ».**

РАСКАДРОЎКА

# ХТО ПРЫМЕ СІГНАЛ БЕДСТВА?

## Развагі дылетанта

**НЕВЫПАДКОВА ў гэтых нататках згаданы дылетантызм. Нейтральная сама па сабе, гэтая з'ява набывае станоўчую або адмоўную афарбоўку толькі ў канкрэтных варунках, калі хтосьці займаецца нечым без дастатковай падрыхтоўкі, неабходнай для грунтоўнага ведання прадмета. Паводле слоўнікаў, такое азначэнне скарыстоўвалася раней толькі адносна навукі або мастацтва. Мелася на ўвазе, што ва ўсіх іншых сферах чалавечай дзейнасці без прафесіяналізму не абысціся. А вось культура (cultura, лац. — апрацоўка, вырошчванне) традыцыйна была адкрытая для дылетантаў. Лічылася, верагодна, што вялікай шкоды яны тут не зробяць па прычыне нязначнага ўплыву вышэйзгаданай культуры на грамадства.**

Толькі дзве дзяржавы на Зямлі паклалі ў аснову сваёй дзяржаўнасці дылетантызм. Ангельцы не без какецтва называюць сябе нацыяй дылетантаў. Але не будзьма настолькі легкаверныя. Абаяльнасць ангельскай самаіроніі не павінна перашкаджаць нам убачыць за гэтай фразай шматвяковую традыцыю ангельскага грамадства лічыць занятак чымсьці дзеля заробку, з мэтай утрымання сябе рамяством, хай сабе гэта пляценне канатаў або літаратурная праца, не вартым джэнтльмена. Калі ў цябе ёсць схільнасць да пчалярства і гэта прыносіць табе задавальненне — цудоўна, кожны чалавек можа мець экстравагантнае хобі. І яно будзе паважацца да таго часу, пакуль ты не пачнеш ператвараць захапленне ў прыбытак, у сродак існавання. Інакш чапурыстая ангельская грамадская думка зморшчыць нос і адвернецца ад цябе.

Канешне, ангельцы маняць. Толькі ў кампетэнтнасці і высокім прафесіяналізме можа мець патрэбу сучаснае грамадства, і абодва гэтыя складнікі поспеху, безумоўна, прысутнічаюць на берагах туманнага Альбіёна. Але ўжо такія яны, ганарыстыя брыты. Да сёння яны робяць выгляд, што ўсё, чаго дасягнула Вялікабрытанія — прадукт вольнага баўлення часу асобных здольных грамадзян Аб'яднанага Каралеўства.

Другі ж запаведнік дылетантаў, напісаўшых на сваіх сцягах вядомы заклік да страпух актыўней удзельнічаць у кіраванні дзяржавай, — гэта, безумоўна, слынная адна шостая частка сушы, якая без прыроднага катаклізму развалілася на шмат рознага памеру аскепкаў. І пакуль Беларусь ехала ў трэцім вагоне шматнацыянальнага «цягніка» СССР, усе прынцыпы арганізацыі грамадства і прынятая ў ім шкала каштоўнасцяў шмат у чым вызначалі жыццё нашых даверлівых людзей.

Дзяржава, якая з першых дзён свайго існавання пайшла па шляху валюнтарызму і дылетанцтва ў палітыцы, эканоміцы, культуры, натуральным чынам апынулася там, дзе мы ўсе зараз знаходзімся.

У пераліку грамадска значных феноменаў культура сапраўды павінна займаць першае месца. Бо сукупнасць дасягненняў чалавецтва ў вытворчасці, грамадскім і разумовым жыцці, што складае змест паняцця «культура», утрымлівае ў сабе і палітыку, і эканоміку. Вядома, што галаўны мозг, як найбольш «малады» прадукт эвалюцыі чалавека, з'яўляецца найбольш патрабавальным органам. Пры нешчаслівым здарэнні страчаны палец можна паспяхова аднавіць на руцэ праз некалькі гадзін. Гэтая здольнасць арганізма робіць магчымай трансплантацыю сэрца ды іншых органаў. А вось клеткі мозга гінуць або незваротна мяняюцца на працягу пяці хвілін пасля парушэння кровазвароту. Нават вярнуўшыся да жыцця, такі небарака можа назаўсёды страціць рысы асобы, здольнасць кіраваць сабой.

Нагэтулькі ж ранімы тонкі слой урадлівай глебы на паверхні зямлі — гумус. Там, дзе гвалтоўна парушылі раўнавагу ў прыродзе, з'явіліся новыя пустэльні і пазбаўленыя жыцця абшары, непрыдатныя больш для земляробства.

У роўнай ступені з вышэйзгаданымі прыкладамі патрабуе абароны інтэлектуальны патэнцыял народа. Гэта «ўрадлівы слой» грамадства. Ён акумулюе ў сабе звычаі, мараль, традыцыі мінуўшчыны; фіксуе і развівае сённяшнія дасягненні нацыі ва ўсіх відах дзейнасці; рыхтуе аснову для наступных пакаленняў, утрымлівае іхні генетычны фонд. Але ён вельмі кволы і ранімы, заўсёды гіне першым, а адраджаецца доўга і марудна.

З розных гістарычных прычын слой гэты ў нашым народзе вельмі тонкі. Не аднойчы насельніцтва Беларусі было на мяжы вынішчэння. Амаль усе буйныя войны ў Еўропе так ці інакш закранала нашу шматпакутную зямлю. Бясконцыя падзелы і перагляды межаў, перападпарадкаванні земляў не спрыялі таму, каб замацаваць уласную дзяржаўнасць.

Расея ваюе са Швецыяй, каб «прарубіць акно ў Еўропу» — абодва войскі рабуюць насельніцтва Беларусі. Вайна з Напалеонам — тая ж карціна. Першая сусветная вайна: чатыры гады баёў, Брэсцкі мір, заходнія землі адарваныя, Літва адрэзана, тэрыторыя падзелена. У 1918 годзе ўзнікае рэальная магчымасць стварэння самастойнай дзяржавы, якая і была абвешчана. Але ўжо новыя гаспадары жыцця, абапіраючыся на ваенны камунізм і псіхалогію парабка, жалезнай рукою заганяюць маладую рэспубліку да «шчасця» пабудовы светлай будучыні. Жорсткі голад ды рэпрэсіі трыццатых гадоў у які ўжо раз «прапольваюць» наш інтэлектуальны генафонд. За гэтым ідзе Другая сусветная вайна і забірае ўжо кожнага чацвёртага жыхара гэтай журботнай зямлі!

Але колькі ж невычарпальнай сілы і непераможнай самасвядомасці ў беларускага народа, калі пасля такіх узрушэнняў і ахвяр ён у чарговы раз дае пачатак моцнаму выбуху нацыянальнага адраджэння!

Янка Купала, Якуб Колас ды іхнія паплечнікі ў свой час здолелі ўзрушыць беларусаў, паказаць ім уласную прыгажосць, цудоўныя чалавечыя якасці, паэзію прыроды краіны белых буслоў: Ва ўмовах таталітарнай дружбы народаў гэта было тытанічнай і небяспечнай справай. Можаце сабе ўявіць, якую інерцыю мае наша атупенне і нацыянальная спячка, калі цяпер ужо ўсё можна, чаго было нельга, а ніхто нічога не хоча! Нават шыльды па-беларуску чытаць не хочам, не кажучы ўжо пра газеты і кнігі.

Неад'емным складнікам культуры, вядома, з'яўляецца мастацтва. Адно ж з наймаладзейшых мастацтваў — гэта кіно.

Семдзесят гадоў таму, у 1924г. СНК БССР прыняў рашэнне аб арганізацыі ў рэспубліцы кінавытворчасці. Крыху пазней у Ленінградзе на базе «Ленфільма» была створана кінастудыя «Савецкая Беларусь». Гэтае творчае новаўтварэнне шмат у чым паўтарыла ў мініяцюры гістарычны шлях свайго народа. Праіснаваўшы ў чужых сценах да 1938 года і заявіўшы аб сабе неблагімі кінафільмамі, кінастудыя пераехала на радзіму. Гэтая падзея парадаксальным чынам сталася першым глыбінным узрушэннем для маладога творчага калектыву.

Мала хто з ленінградцаў пакінуў родны горад, кватэру, прапіску і паехаў у братнюю, але чужую Беларусь. Пераехала творчае ядро: рэжысёры, сцэнарысты, апаратары, якія пачалі на новым месцы ўсё спачатку. Бо кінамастацтва, дзіця тэхнічнай рэвалюцыі, вельмі складаная справа ў мастацка-вытворчым сэнсе. Толькі калектыву аднадумцаў па сілах стварыць значныя з'явы кінамастацтва. Такі калектыў і трэба было сфармаваць амаль з нуля.

Неўзабаве выбухнула Айчынная вайна, і Беларусь на доўгія тры гады знікла пад ільдом акупацыі. «Нам амаль нанова давялося пачынаць пасля вайны — ствараць базу, вырошчваць творчы калектыў», — успамінаў вядучы кінарэжысёр У.Корш-Саблін. Разам з горадам, што адраджаўся з руін, узнімаліся карпусы новай кінастудыі «Беларусьфільм».

Кіно ў той час, як усялякая фабрыка, кіравалася і фінансавалася з цэнтра. Дастаткова жорсткі план запускаў новых карцін і заканчэння здымак дазвалялі трымаць стабільны ўзровень вытворчасці. Забаваў у той час у нашага народа было няшмат, у асноўным — кіно ды віно. Гэтыя два «кіты» дзяржаўнай эканомікі былі настолькі прыбытковыя ў той час, што некаторыя іншыя галіны жылі дзякуючы працвітанню кінавытворчасці. У творчым плане сталася натуральным, што беларускія кінематаграфісты, якія добра памяталі нядаўнюю спусташальную вайну, былі цалкам захопленыя подзвігам народа нашай краіны-партызанкі. Менавіта ў той час нашу кінастудыю пачалі ласкава і паважліва называць «Партызанфільм».

Але час ішоў, змяняліся абставіны, усё далей адсоўвалася эпоха вайны. Змяніліся манеры сучаснай кінамовы, патрабаванні гледачоў, з'явіліся новыя творчыя ідэі. Але не ўсе адчулі гэта. Яшчэ менш было тых кінадзеячаў, хто захацеў штосьці змяніць. Нас укалыхвала сістэма планавага мастацтва, пры якой ініцыятыва знізу караецца.

Менавіта ў гэты час у суседніх рэспубліках, дзякуючы палітычнай «адлізе», пачалі стварацца навучальныя ўстановы па падрыхтоўцы творчых кадраў для кіно. Былі адкрыты факультэты або аддзяленні, дзе вучыліся сцэнарысты, рэжысёры, аператары, кіназнаўцы. Беларусь, як і зараз, ва ўсім спадзеючыся на Расею, не зрабіла ніводнага рэальнага кроку да стварэння і абароны свайго творчага патэнцыялу ў кінавытворчасці. Усе творчыя і тэхнічныя спецыялісты нашай кінапрамысловасці — гэта «імпартны» паасобны тавар. Усе гэтыя людзі вучыліся сваім прафесіям па-за межамі Беларусі. Шмат хто, звязаўшы сваё жыццё з «Беларусьфільмам», застаўся тут назаўсёды.

Але грымнуў 1989 год. Бурлівыя плыні грошай хлынулі ў вузкія калідоры кінастудыі, усё зносячы на сваімі шляху. Сталася прэстыжным укладваць грошы ў кіно. Катастрафічна ўпаў прафесіяналізм, спецыяліст стаўся нікому не патрэбны, бо, як высветлілася, усё можна набыць і прадаць. Тэхнічная база ў той час была далёка не самая горшая ў Саюзе, але яна за тры гады драпежнай эксплуатацыі разляцелася ў трэскі. Чад вялікіх і лёгкіх грошай прайшоў, «як з белых яблыняў дым». Хваля спонсараў схлынула, прыхапіўшы з сабой рэшткі былога тэхнічнага абсталявання студыі. Заклік НЭПа «Абагачайцеся!» быў некаторымі выкананы ўшчэнт. Што далей? Падчас ліхаманкавай угодніцкай кінавытворчасці «расцягнулі» склады мэблі, рэквізіту, касцюмаў. Няма ніводнага дзейнага камплекта апаратуры для здымак і оптыкі да яе. Фотацэх расфармаваны. Толькі страты. Куды падзеліся вялікія грошы? Хто адкажа за разрабаваную кінафабрыку?

Тут, на мой погляд, неабходна зрабіць адступленне. Па старой партыйнай завядзёнцы, якая дзейнічае і цяпер, кіраваць культурай здольны кожны, каму гэтая справа даручана. Некаторы час таму кінастудыяй кіраваў эканаміст. Трохі парулiў — пайшоў на павышэнне ў Маскву. Яго змяніў журналіст. Таксама нядоўга кіраваў — пакаціў кудысьці яшчэ далей. Вялікія надзеі звязваліся з прыходам у дырэктарскі кабінет старога супрацоўніка, што вярнуўся на родную студыю. Але час узяў сваё, а ўзрост — сваё... Пасля доўгіх хістанняў нядаўна быў прызначаны, нарэшце, прафесіянал-кінематаграфіст. Але на што ён здольны адзін? Структура засталася тая ж, прынцыпы фінансавання — учарашнія, сістэма прыярытэтаў — ад часоў калектывізацыі.

Таму «востраў беларускага кіно» катастрафічна памяншаецца ў памерах, і кожная новая хваля непрадуманых рашэнняў прыносіць усё новыя і новыя ахвяры.

Вялікія акіянскія караблі ад пачатку тармажэння да поўнага спынення праходзяць амаль шэсць марскіх міляў. Такая інерцыя гігантаў. Але таму і вучаць у мараходных вучэльнях будучых капітанаў, каб яны маглі ў любых варунках прымаць правільныя рашэнні. А рашэнні гэтыя лічацца такімі, калі карабель пазбягае катастрофаў, а каманда захоўвае здольнасць выконваць задачы.

У нашым выпадку ўсё вельмі нагадвае лёс «Тытаніка». Песні ды танцы пачатку 90-х гадоў заглушылі слабыя сігналы пра будучы недабрабыт. З усяе сілы даўшыся аб айсберг новых эканамічных ды сацыяльных умоў, адзіная на Беларусі кінастудыя стала працякаць і небяспечна нахілілася. Сутаргавыя высілкі выратаваць карабель скіраваны зараз на пазбаўленне ад каманды ва ўяўнай надзеі «разгрузіць палубу». У ваду ляцяць штурманы, радысты, памочнікі капітана, вопытныя прафесіяналы. Але не ўлічваюцца галоўныя абставіны: карабель гіне не ад перагрузкі, а з-за страты ўстойлівасці, некваліфікаванага кіравання і няўмення плаваць у новых навігацыйных умовах. Пры сённяшнім скарачэнні аб'ёмаў вытворчасці да 1-2 фільмаў (а іх бывала і больш за 30!) на год бухгалтэрыя працягвае нешта з захапленнем лічыць, планавікі плануюць, а кіраўнікі — кіруюць. Толькі амаль не чуваць у пустых калідорах кінафабрыкі былых спрэчак пра мастацтва і рэдка сустрэнеш калегу, які, як і ты, спрабуе хутчэй пайсці ад праклятага пытання «Ну, як справы?», схаваўшы свае сумныя беспрацоўныя вочы. Многія прафесіі (бухгалтар, вадзіцель, цясляр, электрык, кухар) сустракаюцца і на іншых вытворчасцях. Рэжысёры, аператары, мастакі кіно патрэбныя толькі ў кіно. Ім няма куды ісці.

Зусім нядаўна Камітэт па кіно быў уключаны ў сістэму Міністэрства культуры РБ. Дарагі кінематограф, які раздзіраецца ўнутранымі і знешнімі праблемамі, прынёс новаму патрону новы галаўны боль: і цягнуць цяжка, і кінуць шкада. А нядаўна было прынята рашэнне (Аўтара!) аб зліцці Міністэрства культуры з Міністэрствам інфармацыі. Хто пралічыў наступствы і вынікі гэтай камбінацыі — таямніца гэта вялікай ёсць. Па-ранейшаму пытанні кіравання і рэарганізацыі культуры вырашаюцца па-дылетанцку. Гэта ўмацоўвае думку, што ўсе фатэлі, месцы, пасады і месцейкі размяркоўваюцца ў нас па-ранейшаму: спосабам партыйнага прызначэння. Але хто круціць рулетку? Хто раскладвае пасьянс крапленымі картамі? Маўчыць краіна дылетантаў.

Калі мы самі не пачнем сябе паважаць, дык ніхто нас паважаць не будзе. Калі расейскае ведамства робіць ультыматыўныя заявы дзяржаве Беларусь, мы маўчым і выконваем; калі наш урад бачыць сваёй галоўнай справай аціранне ў прыёмных розных маскоўскіх інстанцыяў, а вярнуўшыся дадому, дапісвае нулі на цэнніках; калі ва ўсіх унутраных і знешніх захадах мы звыкла пляцемся ў абозе Вялікага брата, — дык трэба пакінуць казаць пра адраджэнне самасвядомасці, культуры, мовы, эканомікі. Якая самасвядомасць у калоніі?

А калі мы сапраўды хочам называць сябе старажытным таленавітым народам, дык ужо час прачнуцца і самастойна выбіраць сабе шлях і спадарожнікаў. Няўжо пытанне захавання і адраджэння нацыянальнай культуры таксама трэба вырашаць у Маскве? Хіба сябры і суседзі могуць зразумець і адчуць нашыя праблемы больш востра і глыбока, чым мы самі? Калі мы ўзгадваем пра палітыку толькі ў момант першага ранішняга спалоху ад новых цэнаў, дык так нам і трэба. Але калі мы хочам, каб з нашымі думкамі лічыліся нашы дэпутаты, нельга аддаваць ім на адкуп усе пытанні быцця. Яны, як ужо было, пачнуць «грэбсці пад сябе» і забудуцца на нас, прыняўшы які-небудзь закон пра незвальняльнасць і неадклікальнасць да скону дзён сваіх, а таксама аб атрыманні ў спадчыну фатэляў у зале пасяджэнняў.

Напэўна, сёння кіно не з'яўляецца найважнейшым з мастацтваў, хаця і застаецца найдаражэйшым. Але пры змяненні варункаў (яны ж, мабыць, калісьці зменяцца!) мы зможам набыць новую апаратуру, плёнку і ўсё неабходнае для яе апрацоўкі, аднак творчы састаў раней «вымра» натуральным шляхам, а дзе ты яго потым возьмеш? Давайце разам паразважаем, як выратаваць творчае ядро славутай кінастудыі для будучыні нашай Беларусі.

Я заклікаю свята берагчы навуковую і творчую інтэлігенцыю — носьбіта нацыянальнай культуры. Гэтыя людзі з'яўляюцца залогам будучай моцнай, багатай ды вольнай дзяржавы. Менавіта тонкі інтэлектуальны слой забяспечыць свайму народу нацыянальнае самасцвярджэнне і непаўторную этнічную ідэнтычнасць.

Віктар КАЛАШНІК, кінарэжысёр.

# ДА 200-х УГОДКАЎ ВЫЗВОЛЬНАГА ПАЎСТАННЯ 1794г.

*Ужо першыя матэрыялы пра паўстанне 1794г., змешчаныя ў нашай газеце, выклікалі вялікую зацікаўленасць чытачоў. Сярод водгукаў былі і такія: «Якое дачыненне мае польскае паўстанне да Беларусі?», «Беларускі народ быў тут ні пры чым» і г.д. Былі і лісты-водгукі. Мы друкуем і адказ Інстытута гісторыі АН Беларусі, адпраўлены ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь 14 студзеня 1994г. з суправаджальным лістом віцэ-прэзідэнта АН Беларусі Радзіма ГАРЭЦКАГА — для тых, хто зусім мала ведае пра адну са слаўных старонак нашай гісторыі.*

## АБ МІФАХ СТАРЫХ І НОВЫХ

Паўстанне 1794г. доўгі час з падачы яшчэ царскай, вялікадзяржаўнай гістарыяграфіі, міфы якой былі падхопленыя і ў савецкі перыяд, з маўкліва-ўдзячнай згоды варшаўска-кракаўскіх гісторыкаў, атрымала памылковае вызначэнне, як нібыта выключна «польскае».

Аднак і па сваёй тэрыторыі (не толькі Польскае Каралеўства, але і Беларусь, Жмудзь, Курляндыя, частка заходнеўкраінскіх зямель), і па ўдзеле ў ім насельніцтва гэтых абшараў яно выключна «польскім» не было.

Мэты, пастаўленыя паўстанцамі і іх кіраўніком Андрэем Тадэвушам Касцюшкам яшчэ напярэдадні паўстання і пацверджаныя потым у яго пачатку, выразна сведчылі аб тым, што гэтае ўзброенае змаганне мела для свайго часу рэвалюцыйны, нетрадыцыйны для былой шляхецкай Рэчы Паспалітай характар. Лозунгам паўстання сталі такія патрабаванні як «воля, цэласць, незалежнасць». Гэта азначала найперш выгнанне з Польшчы і Вялікага княства Літоўскага расійскіх, прускіх і аўстрыйскіх акупацыйных войскаў, вяртанне страчаных у выніку падзелаў 1772 і 1793гг. тэрыторый, пазбаўленне краіны ад іх дыктату.

На ацалелай тэрыторыі Вялікага княства, у вызваленай паўстанцамі Вільні, быў утвораны самастойны орган па кіраўніцтве паўстаннем — «Найвышэйшая Нацыянальная Рада Вялікага княства Літоўскага». Гэтая Рада напачатку больш рашуча, чым кіраўніцтва паўстаннем у Польшчы, выступіла супраць манархіі, салідарызавалася з рэвалюцыйнай Францыяй і выказалася за ліквідацыю феадальна-саслоўных прывілеяў. Лозунг паўстання на Беларусі быў крыху іншы: «воля, роўнасць, незалежнасць». Пры гэтым паняцце «роўнасці» разглядалася адначасова як у грамадскім аспекце, так і ў напрамку рэалізацыі спрадвечнага жадання беларусаў-ліцвінаў — захаваць сваю самастойнасць праз уласныя органы кіравання паўстаннем.

Важным з'яўляецца і тое, што ўвогуле само паўстанне 1794г. не павінна зводзіцца толькі да канфлікту паміж Рэччу Паспалітай і Расійскай імперыяй, у якім нашым продкам беларусам адводзілася толькі пасіўная роля — быць «аб'ектам» прыкладання сілы палякаў да расійцаў у барацьбе за сваю будучыню. Паўстанне разгортвалася ў напружаным кантэксце агульнаеўрапейскай і сусветнай гісторыі, яно было звязана з наступствамі Вялікай французскай рэвалюцыі. Сувязь паўстання з рэвалюцыйнай якабінскай ідэалогіяй, імкненне яго кіраўнікоў — А.Т.Касцюшкі, Я.Ясінскага, Г.Калантая ліквідаваць феадальнае рабства, засілле святарства, самавольства і тыранію манархічных рэжымаў не толькі ў Рэчы Паспалітай, а і ў Пецярбургу, Берліне, Вене — вось што было галоўнай мэтай паўстання, вось што найбольш палохала Кацярыну II і яе верных памагатых. Менавіта ў гэтым кантэксце яно — вызвольнае для ўсіх народаў Польшчы і ВКЛ, для Расійскай імперыі таксама. Пры гэтым паўстанцы выразна падзялялі тых жа расійцаў на прыгняталнікаў і прыгнечаных. У сваім звароце да простых расійскіх жаўнераў Найвышэйшая Нацыянальная Рада Вялікага княства Літоўскага заклікала падтрымаць паўстанцаў, як «браты братоў», выступіць супраць царскай тыраніі, скінуць ярмо прыгону. Сам Т.Касцюшка паклікаў у паўстанцкае войска і беларускага, і польскага, і летувіскага селяніна, абяцаючы за гэта яму волю і роўнасць. Ён заявіў, што «за адну толькі шляхту», толькі за яе інтарэсы біцца не будзе.

На тэрыторыі Беларусі паўстанне ахапіла значную частку Віцебшчыны, Віленшчыны, Гарадзеншчыны, Меншчыны, Берасцейшчыны. За кароткі тэрмін паўстання тым ці іншым чынам у ім было задзейнічана ад 25 да 30 тысяч чалавек, прадстаўнікоў беларускага шляхецтва, сялянства і мяшчанства. Спроба з'яднаць інтарэсы гэтых саслоўяў якраз і вылучае паўстанне 1794г. з шэрагу папярэдніх выключна шляхецкіх бунтаў-рокашаў.

Амаль цалкам паўстанцкія атрады на Беларусі складаліся з мясцовага насельніцтва. Значную частку іх (ад 20 да 30 працэнтаў) складалі сяляне, узброеныя косамі, т.зв. касінеры. Яны з'яўляліся неадменнымі ўдзельнікамі ўсіх буйнейшых сутычак і бітваў з расійскім войскам: у час абароны Вільні (17 — 18 ліпеня і 11 жніўня), у бітвах пад в.Паляны (Ашмяншчына) 7 мая, в.Ліпнішкі (Іўеўшчына) 27 мая, в.Солы (Смаргоншчына) 25 чэрвеня, г.Слонім 4 ліпеня, м.Любань (Міншчына) 4 верасня, в.Крупчыцы (Кобрыншчына) 17 верасня, г.Берасце 19 верасня і іншыя.

У бітве пад Крупчыцамі з удзелам Суворава супраць адборных расійскіх войск у ліку паўстанцаў змагалася каля 3 тысяч касінераў, амаль усе яны загінулі ў той бітве. Наяўнасць у паўстанцкім войску касінераў, г.зн. беларускіх сялян, адзначалі ўсе расійскія вайсковыя начальнікі. Іншая справа, што яны, як і цяперашнія іх паслядоўнікі, усіх паўстанцаў беспадстаўна запісваюць у «палякі».

На Берасцейшчыне, радзіме нашага слаўнага земляка Андрэя Тадэвуша Касцюшкі, паўстанне было падтрымана беларускім праваслаўным насельніцтвам. Былі сфармаваныя два тысячныя атрады берасцейскай і кобрынскай павятовай міліцыі. У берасцейска-кобрынскай паўстанцкай «парадкавай камісіі» большасць складалі прадстаўнікі праваслаўнага веравызнання. А праваслаўны святар Грыгароўскі праз некаторы час стаў яе старшынёй. Гэта сведчыць, што паўстанне Касцюшкі падтрымалі беларусы незалежна ад іх прыналежнасці да рэлігійных канфесій. Падчас паўстання А.Т.Касцюшкам была зроблена спроба аднаўлення ў Рэчы Паспалітай незалежнай ад пецярбургскага Сінода праваслаўнай царквы з мітрапалітам і трыма епіскапамі.

Імя кіраўніка паўстання беларуса-ліцвіна Касцюшкі засталося ў песнях і паданнях нашага народа. Яшчэ напрыканцы XIXст. іх запісвалі ў свае зборы Федароўскі і Шэйн. Такая памяць шмат аб чым гаворыць. Варта напомніць, што да падзей паўстання 1794г. на Беларусі і постаці Касцюшкі звяртаўся Кастусь Каліноўскі. Ён

# АБ СЛЯДАХ АДНОЙ ЭКСПЕДЫЦЫІ,

## АЛЬБО ДАДАТАК ДА ДАРОЖНЫХ НАТАТКАЎ УДЗЕЛЬНІКАЎ ВАНДРОЎКІ ПА МЯСЦІНАХ 1794 ГОДА

Такая ўжо спецыфіка дарожных нататкаў: у іх звычайна фіксуюцца першыя, вонкавыя ўражанні аб мясцінах наведвання, аб цікавых сустрэчах, знаёмствах, размовах. Дрэнна толькі, калі на іх аснове робяцца сур'ёзныя высновы, бо яны могуць аказацца памылковымі. Што да экспедыцый, то іх арганізацыя і папярэдняя падрыхтоўка звычайна вымагаюць значнай працы, грунтоўнага, паглыбленага падыходу да вывучаемых аб'ектаў. Такі вось роздум выклікае знаёмства з матэрыялам Я.Куліка ды З.Сіцько «Экспедыцыя па памятных мясцінах 1794 г.» («Культура», N10, 9 сакавіка 1994 г.). Аўтары маглі б пазбегнуць шэрагу памылак і недарэчнасцей, калі б больш грунтоўна падыйшлі да арганізацыі сваёй экспедыцыі. Але як бы там ні было, менавіта іх матэрыял падштурхнуў хуценька, што называецца наўздагон, напісаць падрабязней аб адным з аб'ектаў, згаданых у нататках — магіле Т.Ваўжэцкага ў мястэчку Відзы. Хацелася б падзяліцца назапашанымі ў час краязнаўчых росшукаў звесткамі аб драматычным лёсе помніка.

Прадстаўнік аднаго з найбольш уплывовых і заможных шляхетных родаў Браслаўшчыны, вядомы дзяржаўны і грамадскі дзеяч, пасол ад Браслаўскага павета на рэфарматарскі Чатырохгадовы Сойм 1788 — 1792 гг., гарачы прыхільнік і абаронца прагрэсіўнай Канстытуцыі 3 мая 1791 г., актыўны ўдзельнік, а на апошняй стадыі і кіраўнік паўстання 1794 г. Томаш Ваўжэцкі пасля цяжкай хваробы памёр 5 жніўня 1816 г. у маёнтку Відзы-Лаўчынскія. Нябожчык быў пахаваны ў Відзах побач з невялікім драўляным касцёлам, што належаў канонікам рэгулярным, якія ў XVII ст. атрымалі ад віленскага ваяводы М.К.Паца частку яго відзаўскіх уладанняў для завяршэння будаўніцтва касцёла Пятра і Паўла ў Вільні, славутага багатым аздабленнем інтэр'ера. У канцы XIX ст. касцёл канонікаў у Відзах ужо не існаваў. У гэтым можна пераканацца, зазірнуўшы ў кніжку «Відзы» (1895 г.), напісаную мясцовым настаўнікам М.Посахам. Аўтар адзначае, што ад касцёла, які размяшчаўся на рагу вуліц Старая і Татарская (сучасныя вуліцы імя Леніна і Пушкіна), засталіся «только развалившаяся каменная ограда и могила, на которой находится чугунный крест и такая же плита с латинской надписью, свидетельствующая, что там погребён сенатор Фома Вержбицкий».

Парафіяльны відзаўскі касцёл, прынамсі, таксама на той час драўляны, знаходзіўся ў цэнтры мястэчка. Напярэдадні першай сусветнай вайны яго змяніў велічны мураваны храм неагатычнага стылю. Відзы, якія ў пачатку XX ст. лічыліся горадам і мелі звыш 6 тысяч жыхароў, моцна пацярпелі ў час першай сусветнай вайны. З восені 1915 г. па люты 1918 г. горад быў акупаваны нямецкім войскам, уздоўж усходняй ускраіны праходзіла асноўная лінія нямецкіх умацаванняў. У выніку абстрэлаў з расійскага боку амаль уся забудова Відзаў была знішчана. Разбурана была і магіла Т.Ваўжэцкага. Вядомы даследчык мінулага Браслаўшчыны О.Хедэман у сваёй грунтоўнай «Гісторыі Браслаўскага павета» (1930 г.) піша аб занядбаным яе стане, дадаўшы, што ў Відзах арганізаваны камітэт па адбудове помніка славутаму земляку. У кнізе маецца фотаздымак магілы. На ім бачны рэшткі мураванай агароджы колішняга касцёла, надмагілле з гарызантальна пакладзеным крыжам. Аб пліце О.Хедэман нічога не паведамляе, верагодней за ўсё, яна была знішчана ў час вайны. У 30-я гады пліту аднавілі, над магілай паставілі крыж, тэрыторыю вакол добраўпарадкавалі. У фондах музея захоўваецца аматарскі фотаздымак помніка 50-х гадоў. Магіла тады пачала прыходзіць у заняпад, але яшчэ захоўваўся крыж і пліта, праўда, разламаная на дзве часткі. Бачна, што большую частку пліты займае тэкст, па перыметры яна аздоблена рамкай, унізе змешчана выява герба Ваўжэцкіх-Трубы. Зараз, перад тым як прадоўжыць расказ аб гісторыі магілы Ваўжэцкага ў Відзах, неабходна зрабіць невялікае адступленне.

Пасля смерці Т.Ваўжэцкага на сродкі яго брата Юзафа, генерала расійскіх войск, у кафедральным саборы Вільні быў устаноўлены памятны знак. Аб ім дае наступныя звесткі В.Загорскі ў кнізе «Віленская кафедра» (1904 г.): «Высока на сцяне пры самых дзвярах, якія вядуць у закрысцію, ёсць надмагілле Томаша з Скрэтушава Ваўжэцкага, сябра па зброі Касцюшкі, былога старшыні таварыства дабрачыннасці ў Вільні, сенатара і ваяводы... Паміж двума плоскімі калонамі карынфскага ордэра знаходзіцца вялікая табліца з доўгім надпісам, аздобленая рамкамі. На табліцы ўнізе герб Ваўжэцкіх. Над гзымсам у паўкруглым паглыбленні змешчаны бюст памерлага. Над гэтым усім белы крыж». Ёсць у кнізе і фотаздымак помніка. Застаецца дадаць, што зроблены ён скульптарам і архітэктарам, нараджэнцам Беларусі К.Ельскім (1782 — 1867), аб чым, на жаль, адсутнічаюць звесткі ў адпаведным артыкуле ЭЛІМБела. Музей мае лацінамоўны тэкст з памятнай дошкі, дзе апрача прозвішча, даты смерці пералічаны заслугі Ваўжэцкага, а таксама ордэны, выявы якіх аздабляюць родавы герб на пліце. Памятны знак у гонар Т.Ваўжэцкага і зараз можна ўбачыць у кафедральным саборы Вільні.

Калі параўнаць памятную дошку ў саборы з выявай дошкі на магіле, бачная іх ідэнтычнасць. Такім чынам, і пліта, аб якой згадвае М.Посах у XIX ст., і пліта, аднаўленая ў 30-я гады, верагодней за ўсё з'яўляюцца чыгуннымі копіямі мармуровай пліты ў віленскім саборы.

У пасляваенныя гады непадалёк ад магілы пачалося будаўніцтва прадуктовай крамы. На вялікае шчасце, яна не замінала будоўлі, бо інакш лёс помніка вырашылі б



нож бульдозера ці лом рабочага. Магіла апынулася на гаспадарчым двары крамы, непадалёку зрабілі сметнік, недзе на пачатку 60-х гадоў сапраўды на металалом пайшла памятная пліта. Аднак і занядбаная, знявечаная магіла не была забытая людзьмі. Колькі расказаў, часцей няпэўных, блытаных даводзілася чуць ад дарослых аб постаці нейкага мяцежнага генерала (прозвішча мала хто помніў) або апошнім яго прыстанішчы! Для многіх з нас, хлапчукоў 70-х і, напэўна, ранейшых пакаленняў, пахаванне на ўскраіне Відзаў, пакрытае арэолам таямнічасці, было адным з загадкавых месцаў мястэчка.

Спадзявацца на аднаўленне магілы Т.Ваўжэцкага ў так званыя часы застою не

у сваёй «Мужыцкай праўдзе» падкрэсліваў і прасочваў непарыўную сувязь вызвольнай барацьбы беларусаў ад 1794 да 1863гг. У постаці Касцюшкі ён бачыў народнага заступніка. «Ачунялі то былі мужыкі, угледзелі што кепска, да давай бунтавацiся пад Касцюшкаю, а Касцюшка то кажа: калі мужыкі хочуць ужэ самі бараніці сваю зямлю, так няхай жа не служаць паншчыны, ды і не плацяць у казну аброку за зямлю. От гэта так справядлівасць! Але што ж калі маскаль спыніў Маніфест Касцюшкі, каб не пабунтаваў усіх мужыкоў. Для таго то і пабілі маскале Касцюшку, бо каб мужыкі ўсе разам былі збунтаваліся і ўхапілі за сякеры, нажы і косы, так бы маскаль мусіў бы прапасці без паўстання і мы на век вякоў ужэ былі б вольныя».

Паўстанне 1794г. пацярпела паражэнне. Але яно паклала пачатак вызваленчай барацьбе палякаў, беларусаў, летувісаў за нацыянальную свабоду.

З вышэйпададзенага вынікае значнасць для гісторыі беларускага народа паўстання пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі. Усе пункты праграмы ўвекавечвання памяці ўдзельнікаў вызвольнага паўстання 1794г. на Беларусі, прапанаванай грамадскім Нацыянальным Арганізацыйным Камітэтам, заслугоўваюць неадкладнай падтрымкі на дзяржаўным узроўні.

Першачарговымі да выканання ў гэтай праграме, на наш погляд, з'яўляюцца запланаваныя ўрачыстасці і мерапрыемствы:

— у фальварку Мерачоўшчына (Івацэвіцкі раён),
— у в.Малыя Сяхновічы (Жабінкаўскі раён),
— у в.Чыжэўшчына (Крупчыцы, Кобрынскі раён),
— у в.Солы (Смаргонскі раён),
— у в.Відзы Лаўчынскія (Браслаўскі раён),
— у м.Відзы (Браслаўскі раён),
— у г.Менску,
— у г.Берасці,
— у г.Гародні,
— у г.Кобрыне.

**М.БІЧ,**
**намеснік дырэктара Інстытута гісторыі АН Беларусі, доктар гістарычных навук.**
**П.ЛОЙКА,**
**загадчык аддзела гісторыі Беларусі XIII — XVIII стст.**

*Гэты Зварот трапіў да нас у рэдакцыю разам з лістом, які падпісаў старшыня ТБМ імя Ф.Скарыны, народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. У ім, у прыватнасці, гаворыцца: «Пытанні, узнятыя ў Звароце, належаць да асноватворных у жыцці народа Беларусі — станаўленне дзяржаўнасці, фармаванне грамадзянскай супольнасці, развіццё нацыянальнай культуры, адраджэнне беларускай мовы».*

*Друкуем гэты дакумент.*

# ЗВАРОТ ДА ГРАМАДЗЯН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

З ПРЫНЯЦЦЕМ Канстытуцыі незалежнай Рэспублікі Беларусь, дзе засведчана пераемнасць шматвяковай гісторыі развіцця беларускай дзяржаўнасці і абвешчана адзінай дзяржаўнай беларуская мова, становіцца відавочным, што нацыянальна-дзяржаўнае адраджэнне мае падставы стаць незваротным.

Эканамічны, сацыяльна-палітычны і грамадска-культурны крызіс, які перажывае Беларусь, істотна перашкаджае поступу рэформаў у моўна-культурным жыцці краіны. Менавіта адсутнасць сапраўды незалежнай нацыянальнай дзяржавы на працягу мінулых стагоддзяў, заняпад беларускай культуры і мовы прывёў да мяжы разбурэння грамадзянскую супольнасць на Бацькаўшчыне і стаў адной з галоўных прычын гэтага крызісу.

Самаахвярныя высілкі грамадскасці, і ў значнай ступені нацыянальна-свядомай інтэлігенцыі, скіраваныя на развіццё і ўдасканаленне шматвяковых традыцый будаўніцтва беларускага нацыянальна-дзяржаўнага дома, дасягнулі значнага поспеху. Пачатковая школа, сістэма дашкольнага і пазашкольнага выхавання ўпершыню на працягу жыцця апошніх пакаленняў набываюць нацыянальную адметнасць. Колькасны склад гэтых беларускамоўных устаноў пачынае адпавядаць прапорцыі этнічнабеларускага насельніцтва краіны. Няўхільна расце колькасць дзяржаўных устаноў і грамадскіх арганізацый Беларусі, якія ставяць за мэту і вырашаюць задачы нацыянальнага адраджэння ў галіне культуры. Значна ўзраслі тыражы, палепшылася структура і адраснасць беларускага перыядычнага друкаванага слова, упершыню ў гісторыі пасляваеннай Беларусі ствараецца творча-вытворчая база для выпуску нацыянальных падручнікаў і дапаможнікаў, слоўнікаў і даведкавай літаратуры для навучальных устаноў усіх тыпаў. Адраджаюцца нацыянальныя грамадазнаўчыя навукі. Больш і больш пачынаюць шанавацца нацыянальныя святыні, гістарычная сімволіка, аднаўляецца гістарычная памяць народа Беларусі.

У той жа час гісторыя вучыць, што нацыянальнае адраджэнне Беларусі на працягу апошніх стагоддзяў, паспяхова пачынаючыся і набываючы значны грамадскі рэзананс, не аднойчы захлыналася і перапынялася цемрашальскімі сіламі, насіллем і крывёй. Грамадзянам Беларусі ўсіх нацыянальнасцяў, веравызнанняў і палітычных перакананняў неабходна памятаць, што дабрабыт Беларусі — гэта дабрабыт усіх яе сыноў і дачок, адраджэнне беларускай мовы і развіццё беларускай нацыянальнай культуры, гэта перадумова вольнага, гарманічнага развіцця моў і культур нацыянальных меншасцяў краіны, што ўмацаванне незалежнай Беларускай дзяржавы — гэта гарантыя сфармавання грамадзянскай супольнасці Беларусі, гарантыя згоды і міру ў краіне. Іншага шляху Беларусі, як і ўсім краінам цывілізаванага свету, не дадзена. Іншы шлях — вядзе ў грамадска-палітычны і сацыяльны тупік, да грамадзянскай нестабільнасці і нават горшага, чаго нельга пажадаць ніводнаму з народаў.

Напярэдадні ўсенародных выбараў першага Прэзідэнта незалежнай Беларусі, выбараў новага складу Вярхоўнага Савета і органаў мясцовай улады няхай кожны грамадзянін Беларусі глыбока разважыць, у якой краіне ён хацеў бы жыць. Трэба памятаць, што толькі тыя кандыдаты, якія на справе падтрымліваюць ідэі развіцця незалежнай Беларусі, ідэі нацыянальна-культурнага адраджэння, якія прызнаюць неад'емнае права народа Беларусі мець у сваім дадзеным Богам дзяржаўным доме на куце беларускую мову ў якасці дзяржаўнай, якія не ганьбяць нацыянальную сімволіку і гістарычныя каштоўнасці слаўнае мінуўшчыны Бацькаўшчыны, могуць выражаць сапраўдную гістарычную волю народа Беларусі. Толькі такія людзі могуць сцвердзіць гістарычную адметнасць культурнага шляху Бацькаўшчыны, у якой заўсёды вольна развіваліся б і нацыянальныя меншасці краіны.

Заклікаем грамадзян Беларусі праявіць мудрасць і грамадзянскую сталасць, здаровы прагматызм, гатоўнасць да грамадзянскага прымірэння і нацыянальнай згоды дзеля дабра нашай адзінай Бацькаўшчыны і прыслухацца да слоў гэтага Звароту.

**Рэспубліканская Рада**
**Таварыства беларускай мовы**
**імя Францішка Скарыны.**

**г.Менск. 11 сакавіка 1994г.**

даводзілася. Памятаецца, якой рэакцыяй сустракалі чыноўнікі з райвыканкама захады па абароне помніка, якой толькі бязглуздзіцы не даводзілася пачуць! Не дапамог і том Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, паводле якога магіла падлягала дзяржаўнай ахове. Узгадваюцца таксама лісты з далёкага Петразаводска, атрыманыя ад мастака і паэта Пётры Касцюкевіча, нараджэнца шаркоўшчынскай зямлі, былога партызана, жыццёвы лёс якога пэўны час быў звязаны з Браслаўшчынай. У іх П.Касцюкевіч згадвае, як аднойчы спрабаваў дабіцца аднаўлення помніка (у яго ёсць, дарэчы, верш «На магіле Ваўжэцкага»), нават падрыхтаваў эскіз будучай памятнай пліты. Аднак усё было марна.

Магіла Т.Ваўжэцкага была ўсё ж такі адноўлена. Тут адыграў сваю ролю вядомы візіт В.Ярузельскага ў Маскву, падчас якога ўзнята было пытанне аб стане помнікаў польскай гісторыі і культуры ў былым СССР. Тады нечакана ў музей патэлефанавалі з відзаўскага савета і папрасілі тэрмінова даць звесткі аб Т.Ваўжэцкім. Неўзабаве месца пахавання было добраўпарадкавана — перанесены сметнік, агароджана тэрыторыя, падноўлена надмагілле і ўстаноўлена сілумінавая пліта, на якой чыноўнікі здолелі зрабіць ажно дзве памылкі. Арыентацыя надмагілля была зменена, бо ранейшай песпектыве помніка перашкаджаў будынак крамы. Аднавіўшы пахаванне, улады хутка на яго забыліся, і зараз магіла даглядаецца вернікамі мясцовага касцёла.

Сённяшні стан помніка сапраўды можна лічыць часовым, ганебная памяці Т.Ваўжэцкага пліта павінна быць заменена. Напэўна, найбольш прымальна аднавіць перашапачатковую пліту. Іншая справа, што ва ўмовах пануючага ў краіне крызісу, пры захаванні ўлады посткамуністычных, дэнацыяналізаваных структур гэта зрабіць наўрад ці ўдасца. Ды рана ці позна прыйдуць іншыя часы. Да іх трэба рыхтавацца загадзя і рыхтавацца грунтоўна.

**Кастусь ШЫДЛОЎСКІ,**
**навуковы супрацоўнік Браслаўскага гістарычна-краязнаўчага музея.**

*На здымку:* магіла Т.Ваўжэцкага ў Відзах. Фотаздымак 50-х гадоў. Друкуецца ўпершыню.

# НЕ РЭСТАЎРУЕЦЦА, А ... ДАГНІВАЕ

У 1980-м юбілей гэты быў неяк скамечаны. А дакладней, і не было яго наогул. Не адбылося ніякага ўрачыстага святкавання, бо пра гэтую падзею ніхто і не ўспомніў, акрамя аднаго-двух фанатычных аматараў даўніны. А была гэта ў яго жыцці самая круглая лічба за апошнія сто гадоў. Краіна ж (тады яшчэ СССР) і яе людзі (тады яшчэ савецкія грамадзяне) былі заняты іншымі праблемамі, менавіта — алімпійскімі гульнямі. Спачатку — іх арганізацыяй, потым — правядзеннем, і, нарэшце, доўга і расчулена развіталіся з медзведзянём-сімвалам. Жыхары Крычава прымалі ў гэтым самы жывы ўдзел: рэгулярна ўключалі тэлевізар і сачылі за спаборніцтвамі ў Маскве. А якраз яны і не павінны былі забывацца пра цудоўны помнік гісторыі, што прастаяў у іхнім горадзе роўна два стагоддзі і з поўным правам мог спадзявацца на віншаванні землякоў.

Такім чынам, дзень нараджэння Пацёмкінскага палаца ў Крычаве, і не просты дзень нараджэння, а двухсоты, прыпаў на нядобры высакосны год. Шчыра кажучы, справа тут не зусім у алімпіядзе і нават не ў высакосным годзе ці дрэннай памяці крычавян. Проста нязвычна неяк было адзначаць юбілеі будынкаў. Новая мода прыйшла з перабудовай. Тая ж перабудова і ўнесла ў лёс будынка пэўныя змены. Але ўсё гэта было на цэлую пяцігодку (тады час вымяралі такімі адзінкамі), і палац яшчэ не зрабіўся сімвалам горада...

На шчасце, гістарычныя помнікі — не людзі. Яны не выказваюць свайго незадавальнення, не крыўдзяцца і не пішуць скаргі. Імі можна карыстацца, пакуль дазваляе тэхніка бяспекі. Імі можна любавацца, пакуль дазваляе эстэтычны выгляд, калі не дазваляе ні тое, ні другое, існуюць два шляхі. Першы —разбурыць, каб расчысціць месца, напрыклад, пад склад. Другі — аб'явіць гістарычнай рэдкасцю, і паспрабаваць адрэстаўраваць. Калі не атрымаецца — аплакваць загубленую прыгажосць і ганіць сябе за безгаспадарлівасць.

Доўгі час крычаўскі палац адпавядаў усім тэхнічным і эстэтычным характарыстыкам. Магчыма, гэта і ўратавала яго ад разбурэння пасля рэвалюцыі, нягледзячы на «палітычную неблаганадзейнасць». «Неблаганадзейнасць» гэта заключалася ў тым, што пабудаваны палац быў князем Пацёмкіным, ды яшчэ для імператрыцы Кацярыны II. Такая ідэалагічная недарэчнасць не перашкаджае мясцовым жыхарам і цяпер з павагаю ставіцца да асобы спадара Пацёмкіна — рыцарскія ўчынкі і павага да жанчыны ў цане ў любы час. Прыгожая легенда, у прынцыпе, і не з'яўляецца легендаю, бо гэта — сапраўднасць. Проста гістарычны факт так часта пераказваўся, што набыў узнёслыя і ледзь не міфалагічныя рысы.

І быў 1780 год. Апошнія дзесяцігоддзі васемнаццатага стагоддзя панавалі на зямлі. Праз столькі год час гэты здаецца ўвасабленнем рамантызму. Час войнаў, дуэляў, дзяржаўных пераваротаў (якія раней здзяйсняліся без смехатворных правалаў) і палітычных інтрыг, у параўнанні з якімі нашы парламенцкія дэбаты і бойкі — проста пошлая мітусня. Тады, пры жывым святле свечкі, гусінымі пер'ямі пісаліся вялікія творы і... Адным словам, васемнаццатае стагоддзе прынята ідэалізаваць. Гэта добры тон, тое ж самае, што ганіць дваццатае. А палац быў сведкам усяго гэтага. Хаця не. Яго яшчэ не было, а было толькі каханне. Каханне Пацёмкіна да Кацярыны, як да імператрыцы і жанчыны. У гонар яе і ўзнік палац, які потым надоўга перажыў і пачуццё кахання, і саму імператрыцу, і яе фаварыта.

Чым жа заслужыў Крычаў такой пільнай увагі? Тады гэта маленькае мястэчка не было ні маёмасцю Пацёмкіна, ні раённым цэнтрам, як зараз. А вінаваты ва ўсім быў збег абставін, галоўнай з якіх — бясконцыя падзелы Польшчы. Каб неяк уладкаваць гэтыя справы і правесці разведку боем, Кацярына накіроўвалася ў Польшчу. Шлях, зразумела, ляжаў праз Беларусь...

Палац быў пабудаваны ў рэкордна кароткі тэрмін. Па прызначэнні яго можна было параўнаць з якім-небудзь паляўнічым дамком, бо ў любым выпадку, Кацярына затрымалася б тут не болей, чым на некалькі гадзін. Але Пацёмкін аказаўся чалавекам арыгінальным, а галоўнае — забяспечаным. Ён не мог дапусціць, каб Кацярына начавала ў палацы, які нагадвае звычайную хату. Каб пазбегнуць гэтага, спецыяльна ў Францыі заказалі паркаль для абшыўкі сцен, асаблівы паркет. Архітэктарам быў Стараў — аўтар Таўрыцкага палаца ў Пецярбургу. Будаўніцтва скончылася. Яно не заняло шмат часу, але гэта не адбілася на якасці будынка. Палац чакаў свайго часу, чакаў тую, для каго і быў пабудаваны. 61 пакой — па ўсіх яна б нават і не прайшла, парк не на адзін гектар навокал — яна не стала б гуляць у ім хутчэй за ўсё. Дык навошта ж? «Гэта — пацёмкінская паказуха, — лічаць сёння асобныя гісторыкі. — Каб паказаць добрае жыццё сялян». У такім выпадку яму гэта ўдалося. Адна вёсачка так спадабалася Кацярыне, што яна сказала: «Як міла і слаўна тут». Так і ўзнік на Магілёўшчыне Міласлаўль, з лёгкай рукі (ці языка) Кацярыны. А мясцовыя жыхары не згодныя з сухімі тлумачэннямі гісторыкаў. Гэта за каханне — лічыцца тут.

Кацярына праз Крычаў так і не праехала. Фаварыт яе таксама быў тут разы два, не болей. Грандыёзнае збудаванне, якім ні разу не карысталіся па прызначэнні, стаіць і дасюль. Лічыцца, што гэта амаль адзіны помнік у стылі класіцызму на Беларусі. А калі глядзець на палац зверху, то муры і вежы аб'яднаны ў літары «П»«Е». Пацёмкін — Кацярыне.

Прайшоў час, і выбухнула Вялікая Кастрычніцкая. Бальшавікі хуценька прыдумалі прызначэнне ўласнасці нябожчыцы імператрыцы. Тое, што не было разрабавана, паламана і патоўчана, перадалі ў маёмасць дзяржаве і ў хуткім часе палац зрабілі храмам ведаў. Прасцей, у ім адкрылі школу. Далейшая ж біяграфія будынка ў большай ці меншай ступені звязана з навукай і дзецьмі. Пасля вайны школа ператварылася ў педвучэльню, якая праіснавала да шасцідзесятага года. Гэты год адзначыўся для палаца новым прызначэннем. На ім заблішчэла новая шыльда «Школа-інтэрнат». Не буду пералічваць якія надпісы ўпрыгожвалі сцены знадворку і ўсярэдзіне, адзначу адно — будынак за ўвесь час свайго існавання так ні разу і не рэстаўраваўся, пакуль не прыйшла перабудова, да таго ж мясцовыя ўлады ўсур'ёз задумаліся — гораду патрэбен быў нейкі гістарычны сімвал (цэментны камбінат і забруджанае паветра ў разлік як сімвал не прымаліся).

І пачалася рэстаўрацыя, якая ўжо даўным-даўно перавысіла ўсе тэрміны таго сярэдневяковага «пацёмкінскага будаўніцтва». Пацёмкін за гэты час ужо б адрэстаўраваў увесь райцэнтр. Геніяльная ідэя Крычаўскага аддзела культуры з трэскам правалілася. Справу па рэстаўрацыі палаца бясконца кідаюць са стала на стол, з кабінета ў кабінет у розных гарадах вось ужо восьмы год. Пасля Крычава і Магілёва справа дайшла да сталіцы. Цяпер кантроль за ходам работ здзяйсняе Галоўнае ўпраўленне па рэстаўрацыі і захоўванню помнікаў. Відаць, кантроль на такой адлегласці — справа нялёгкая, бо ніякай дапамогі парадай ці сродкамі не было і няма. Праўда, адсутнасцю грошай цяпер нікога нельга здзівіць. Уражваюць іншыя лічбы. Напрыклад, паказальна тое, што працуе на «рэстаўрацыі» шэсць чалавек, сярод якіх ніводнага спецыяліста. З матэрыяльных сродкаў адсутнічае літаральна ўсё. Таму і працуюць рабочыя ва ўмовах «сярэднявечча»: раствор падаецца ўручную вёдрамі, ніякія запісы не вядуцца. Апошні пісьмовы дакумент — даведка аб выкананні работ за мінулы верасень.

Такім чынам, рэстаўрацыя ператвараецца паступова ў справу жыцця не для аднаго пакалення. А Крычаўскі музей краязнаўства ўжо пахаваў надзею пераехаць у новае памяшканне хоць калі-небудзь. Палац, шэры і ўсё яшчэ абшарпаны, выглядае ў рыштаваннях дзікавата. І складваецца ўражанне, што гэта змрочнае маналітнае збудаванне тут не рэстаўруецца, а дагнівае.

Напэўна, пройдзе не адзін год, пакуль з аўтобуснага прыпынку, які тут побач, можна будзе ўбачыць сапраўдны Пацёмкінскі палац, а не прывід.

**Ірына ВЫРВА.**

# «ВАКОЛ НАС — БАЗАР, І МЫ Ў ІМ — ГАНДЛЯРЫ...»

*НЯЁМКА неяк перафразаваць, а тым больш спрачацца з Шэкспірам, які сказаў, што жыццё — тэатр, а людзі ў ім — акцёры. Аднак на шостай частцы свету жыццё ўжо даўно не толькі тэатр, але і базар. Людзі, якім дасціпнасці не пазычаць, абазвалі гэты працэс станаўленнем недаразвітага капіталізму. Ва ўмовах гэтага «станаўлення» грамадства болей прыкметна падзялілася на аптымістаў і песімістаў. Кожны можа зрабіць выбар і далучыцца да лагера на свой густ і прапаведаваць тыя перакананні, што бліжэй ягонаму сэрцу: ад «усё гэта добра не скончыцца» і да «ўсё, што ні робіцца, робіцца да лепшага». З чым не будзе спрачацца ніхто, дык гэта з тым, што клімат новага ладу, мякка кажучы, не зусім здаровы.*

Успомнім, якім быў твар гандлёвага пралетарыяту гадоў дзесяць таму. Гэта былі бабулі старажытнага выгляду, якія прадавалі моркву і зялёную цыбулю. Яшчэ дапаўнялі іх «асобы каўказскай нацыянальнасці». Пра «асоб» сказаць не маю чаго, акрамя ўсім вядомых анекдотаў, а вось бабулі... Наколькі я ведаю, прыходзілі яны на базар проста «патусавацца». А сумка з зелянінаю была проста доказам таго, што займаецца яна тут справаю, а не перамывае ад нечага рабіць косткі знаёмым і проста прахожым. Але нават такое сумяшчэнне прыемнага з карысным прымалі не ўсе: «Як гэта я, былая настаўніца і старая камуністка пайду стаяць на базар побач са спекулянтамі?!» І як усё змянілася за невялікі час абвальнага наступлення рынку! Комплексы такога кшталту захаваліся мала ў каго, у тых жа «старых камуністак» у тым ліку. Нехта бачыць у гэтым крок наперад, а нехта схільны звязаць гэта з маральным і інтэлектуальным спустašэннем нацыі. Хто стаіць зараз на базарах з капелюшамі з ангоры і са скуранымі курткамі? Малаадукаваныя бабулі? Не толькі. Гэта тыя, каму скарачэнне набору ці лянота перашкодзілі трапіць у ВНУ. Тыя, каму дыплом ВНУ не забяспечыў жадаемую зарплату, а дзяржава замест месца працы прапанавала (калі наогул прапанавала) дапамогу па беспрацоўі. Такім чынам. некаму не хапіла дапамогі па беспрацоўі, некаму — зарплаты, некаму — стыпендыі ці пенсіі, а ў кагосьці гандаль і наогул —жыццёвае прызванне. А вынік — стадыён «Дынама» ператварыўся ў базар.

... Чарговае падаражанне даляра выклікае папаўненне ў гандлярскіх шэрагах. Да «новай хвалі», нарэшце, далучаюцца менш рашучыя грамадзяне.

## СУСТРЭЧА ПЕРШАЯ

Мая новая сяброўка так ні разу і не зайшла да мяне ў госці. І не таму, здаецца, што мы былі мала знаёмыя ці ёй не дазволіў час. Проста гэта было не так важна, і мо яна згубіла мой адрас, як і я забылася на нумар сектара і стала, дзе яна гандлюе на стадыёне «Дынама». Дзяўчыну гэту я бачыла ўсяго два разы ў жыцці, і было ў ёй нешта, што прымусіла мяне пасля першай сустрэчы адшукаць яе яшчэ раз.

Сутыкнулася з ёй выпадкова. Кампанія была малазнаёмая і гэта давала магчымасць быць аднолькава аб'ектыўнай да ўсіх. Часам, асабліва ў падобных выпадках, на чалавека навальваецца філасофскі настрой і непераадольная ахвота рабіць псіхалагічныя высновы. Пад уплывам гэтага настрою я сканцэнтравала ўвагу на маленькага росту дзяўчыне са стрыжкай «пад хлопчыка».

— А ты ведаеш, яна — спявачка. Толькі не пашчасціла ёй у жыцці, — шапнулі мне на вуха.

Рэклама рухае не толькі прагрэс, але і цікаўнасць. І вось я ўжо ведаю, хто такая Аліна і што азначаюць словы «не пашчасціла».

Лёгка, як лёгка ўсё зваліць на жыццё, людзей і недарэчны лёс, калі на самой справе варта лепей прыгледзецца да сваёй асобы. Але ж ёсць выпадкі, калі сам сабе не дапаможаш, на Бога спадзявацца не раіць прыказка, вось і застаецца ганіць усё той жа лёс.

... А яна хацела стаць спявачкай. Каб выходзіць на сцэну пад захапляючы віскат прыхільнікаў і пасылаць у перапоўненую залу паветраныя пацалункі. А галоўнае, спяваць. «Банальшчына, — скажа нехта, — такія мары наведваюць ледзь не кожнага. Прасцей пералічыць тых, хто не марыў пра гэта». Так, мараць многія, спрабуюць здзейсніць адзінкі. Аліна належала да гэтых нешматлікіх. Колькі сябе памятае — спявала. Вакол яе арганізоўваліся, развальваліся і зноў арганізоўваліся школьныя, дваровыя, самабытныя маладзёжныя музычныя гурты. І ўжо былі першыя прыхільнікі, праўда, з ліку сяброў і знаёмых, але ж усе з чагосьці пачыналі. Ёй прарочылі вялікую будучыню...

А скончылася ўсё жудасным правалам. Правалам на іспытах у тады яшчэ Мінскі інстытут культуры. Аліна была ўпэўненая, што недастаткова толькі спяваць, трэба мець вышэйшую адукацыю. Але паступіць на аддзяленне вакалу аказалася не так проста. «Як, у вас няма музычнай адукацыі?! — з жахам ускрыкнула жанчына з экзаменацыйнай камісіі. — А як жа вы здавалі папярэднія экзамены? Вы не здолееце вучыцца на нашым факультэце». Абумоўліваючы свае дзеянні адсутнасцю неабходнай паперы, Мінскі інстытут культуры зачыніў перад ёю дзверы. Чаго ляпацца, калі табе не збіраюцца адчыняць? Дзяўчына перабівалася выпадковымі заробкамі, была беспрацоўнаю. Нарэшце, пачала гандляваць. Спачатку на Камароўскім базары, потым на «Дынама». На маё пытанне, ці падабаецца ёй гэтая справа, Аліна кажа, што не, але трэба ж неяк зарабляць грошы.

Магчыма, гэта недахоп настойлівасці, магчыма, няўвага да сцвярджэння філосафаў, якія лічаць, што ўсё жыццё трэба цягнуцца да немагчымага. А можа, гэта няўдалы збег абставінаў, якія, як кажуць, заўсёды супраць нас. Так ці інакш, бясспрэчна адно: не ўсе, хто прадае на базары капялюш ці слоік смятаны —гандляры па прызванні. Аб чым яна марыць, стоячы на «Дынама»? Відаць, усё аб тым жа. Як яна выходзіць на сцэну пад захапляючы віскат тысяч паклоннікаў... А нехта шкадуе, што не выдаў зборнік вершаў, нехта сумуе па загубленай кар'еры мікрабіёлага...

Яна кажа, што апошнім часам спявае ўсё радзей, толькі змятае пыл з разладжанага піяніна.

## СУСТРЭЧА ДРУГАЯ

І чаго толькі не перавозяць у пасажырскіх цягніках. І асбліва ў напрамку Гродна! Старажытная Горадня! Наўрад ці раней яна бачыла такі наплыў гандляроў, як цяпер. Вагон, у які я трапіла, нагадваў спецыяльна браніраваны. Вялікае перасяленне райцэнтраў у абласную сталіцу напярэдадні нядзелі ўражвае чалавека без звычкі.

— Забярыце свае торбы з-пад ног, — лямантуе бедная правадніца.

У якіх экстрэмальных умовах працуе жанчына! Тут можна звар'яцець за лічаныя хвіліны. Самае цікавае тое, што ўсе ў такіх цягніках даўно знаёмыя, а агульная справа робіць іх ледзь не роднымі. Да тых, хто трапіў сюды ўпершыню, ставяцца спачатку падазрона. Вы не «свой», калі, напрыклад, родам не з Клімавіч і едзеце не да Горадні. І вам даверлівым шэптам не прапануюць узяць адзін камплект бялізны на дваіх, ці з адной шклянкі гарбаты зрабіць дзве, разбавіўшы яе варам. Гэта тычыцца толькі абраных. Нейкі мужчына пасля няўдалай спробы завязаць размову з мажной суседкай па купэ, палічыў за лепшае ўладкавацца на верхняй паліцы. Так, на ролю «сакамерніка» ён не падышоў. «Да Мінска», — махнула рукой кабеціна і пачала распавядаць мне біяграфію сваю і сваіх родных аж да трэцяга калена. Адначасова была магчымасць даведацца не толькі пра яе сямейнае становішча, але і пра курс рубля ў розных кропках Беларусі, пра цану на шакалад у той жа геаграфічнай зоне плюс атрымаць парады на ўсе выпадкі жыцця.

Чамусьці ўсе гандляры — аматары пагутарыць. Магчыма, бярэцца за гандлярскую справу катэгорыя людзей з пэўнымі рысамі характару. А можа, гэты сіндром развіваецца як якасць прафесійная? Так ці інакш, але з галавы ў мяне на працягу ўсёй размовы не сыходзіў прыметнік «базарная», што найбольш падыходзіў да апісання маёй спадарожніцы. Праз пару гадзін знаёмства з жанчынай і гутаркі пра надзвычайна высокія цэны, хутчэй гэта быў маналог, я зацвердзілася ў меркаванні, што гэта жанчына — малаадукаваная работніца з якогакольвечы Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода і вязе на продаж вырабы роднага прадпрыемства. Але ж, як ні дзіўна, і «базарная» кабеціна аказалася з адукацыяй інжынера пасля заканчэння Беларускага політэхнічнага інстытута. «А навошта тая адукацыя?» — нібыта спытала, нібыта сцвердзіла яна. Цяпер усе задаюць сабе гэтае пытанне. А пакуль адказу не знойдзена, працягваюць вучыцца. А потым, скончыўшы інстытуты і пабраўшы ў рукі сумкі, рушаць гандляваць на тэрыторыі роднай краіны, а каму пашанцуе — і за мяжу. А праз нейкі час гэту настаўніцу «словесности» ці фізіка-ядзершчыка не зможа адрозніць ад чорнарабочага выпадковы спадарожнік у цягніку.

Усё цячэ, усё мяняецца. Праз нейкі час скончыцца гэты пераходны перыяд, як кажуць палітыкі. А простыя людзі проста чакаюць перамен. І «пераходны» перыяд называюць іншымі словамі, куды менш прыемнымі. Песімісты сцвярджаюць, што нацыя выраджаецца. Выраджэнне яны бачаць у тым, што інтэлігенцыя «кінулася» ў гандаль. Канешне, часам можна і пазаймацца самакрытыкай, але ў разумных памерах. З нацыяй у гэтым сэнсе пакуль што ўсё нармальна. Проста нельга, нельга давяраць першаму ўражанню, калі глядзіш на чалавека. Асабліва ў цягніку напрамкам Унеча-Гродна.

Але нават і цяпер, напярэдадні базарна-рыначнай атакі і без сацыялагічнага апытання не цяжка вызначыць маштаб так званай «сацыяльнай з'явы». І калі сярод вашых знаёмых няма ніводнага камерсанта-дылетанта, то, магчыма, гэта азначае толькі адно: у вас наогул няма знаёмых.

І. В.

# ЯКІЯ МАРКІ САПРАЎДНЫЯ?

## Да ведама філатэлістаў

*Не так даўно ў газеце «Свабода» была змешчана інфармацыя пра спекулятыўныя гашэнні паштовых марак нашай краіны. Намеснік старшыні Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Алег Трусаў ад імя камісіі звярнуўся з адпаведным запытам да міністра сувязі і інфарматыкі І.Грыцука.*

*Афіцыйны адказ, падрыхтаваны ў міністэрстве, мы і змяшчаем сёння.*

«Вярхоўны Савет
Рэспублікі Беларусь
Намесніку старшыні
Камісіі па адукацыі, культуры
і захаванні гістарычнай спадчыны
Трусаву А.А.

Спецыяльныя паштовыя штэмпелі з'яўляюцца адным з відаў каляндарных штэмпеляў і адрозніваюцца ад штэмпеляў стандартнага ўзору сваім знешнім афармленнем (дадатковы тэкст, малюнак), мэтамі і спосабам іх ужывання.

Выкарыстанне спецыяльных паштовых штэмпеляў ажыццяўляецца толькі для спецыяльных гашэнняў канкрэтнымі прадпрыемствамі сувязі і на працягу тэрміну, агаворанага ў Загадзе Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь.

Гашэнне новых марак у дзень іх выпуску ў Мінску на канвертах «Першага дня» ажыццяўляе Дзяржаўнае аб'яднанае прадпрыемства «Мінская пошта». Прадпрыемствы сувязі, якія праводзяць спецыяльныя гашэнні, загадзя інфармуюць насельніцтва аб месцы і тэрмінах прымянення спецыяльнага паштовага штэмпеля і выпушчаных да гашэння Дзяржаўных знакаў паштовай аплаты. Адказнасць за правільнасць выкарыстання і захаванасць спецыяльных паштовых штэмпеляў ускладаецца на начальніка прадпрыемства сувязі, у якім праводзіцца гашэнне.

У 1992 годзе, згодна з заключаным Дагаворам, выраб і рассылка знакаў паштовай аплаты і спецыяльных паштовых штэмпеляў у Рэспубліку Беларусь ажыццяўлялася Выдавецка-гандлёвым Цэнтрам «Марка» Расійскай Федэрацыі. У рэспубліцы было праведзена 6 спецгашэнняў. Тры спецгашэнні былі прысвечаны выпуску беларускіх марак: маркі з Крыжам Ефрасінні Полацкай, з выявай Р.Р.Шырмы, Герба і Сцяга Рэспублікі Беларусь. Гашэнне трох апошніх марак ажыццяўлялася спецштэмпелем «Першы дзень» з пераводнай каляндарнай датай. Тры іншыя спецгашэнні былі прысвечаны выпуску маркі і блока да 1000-годдзя беларускай праваслаўнай царквы, мастацкіх маркіраваных канвертаў да 850-годдзя гарадоў Рагачова і Гомеля.Спецгашэнне гэтай прадукцыі ажыццяўлялася спецштэмпелямі з фіксаванай датай.

У 1993 годзе было праведзена толькі 2 спецгашэнні: з выпадку выхаду маркі, прысвечанай Першаму з'езду беларусаў свету і карткі з арыгінальнай маркай да 50-годдзя вызвалення Гомеля ад фашысцкіх захопнікаў. У абодвух выпадках гашэнне прадукцыі ажыццяўлялася спецыяльным штэмпелем з фіксаванай датай. Іншых спецгашэнняў у нашай рэспубліцы не праводзілася.

Што датычыць спецгашэнняў марак з партрэтам М.І.Гарэцкага і выявай Касцёла кармелітаў у г.Магілёве, то належыць адзначыць, што даты гэтых спецгашэнняў не адпавядаюць датам выпуску гэтых марак. Правядзенне экспертызы магчыма толькі пры наяўнасці арыгінала фіктыўнага гашэння. Улічваючы тое, што апытаныя філатэлісты маюць толькі ксеракопіі, правесці экспертызу немагчыма. У цяперашні час штэмпелі спецгашэння знаходзяцца на захаванні асабіста ў начальніка Дзяржаўнага аб'яднанага прадпрыемства «Мінская пошта».

Належыць адзначыць, што па-за прадпрыемствамі сувязі ў апошні час з'яўляюцца таксама розныя надпячаткі на марках. Міністэрства сувязі і інфарматыкі пацвярджае, што законнымі стандартнымі маркамі з'яўляюцца толькі маркі з надпячаткамі —на 30-капеечнай — 15 руб., на 45-капеечнай — 25 руб. і на 50-капеечнай — 50 руб. Іншых надпячатак не праводзілася.

У сувязі з вышэйадзначаным іншыя спецгашэнні і надпячаткі на марках, акрамя пералічаных вышэй, з'яўляюцца несапраўднымі.

Міністр І.М.ГРЫЦУК.»

# «ДАВАЙЦЕ ПАШУКАЕМ РАЗАМ...»

...Пішу вам як бібліятэкарка. У артыкуле Тадэвуша Тарасевіча «Палякі на Беларусі» (у N 11) прачытала, што аўтар не можа знайсці кніжкі некаторых польскамоўных літаратараў міжваеннага часу.

Дык няхай ён прыйдзе ў аддзел беларускай літаратуры нашай Нацыянальнай бібліятэкі.. Я адшукала для яго некаторыя кнігі па адным з нашых каталогаў! І, безумоўна, праверыла іх наяўнасць у сховішчы (бо столькі дзесяцігоддзяў прайшло, фонд рассыпаўся, перасоўваўся тудысюды...). Усе яны — ёсць! Гэта:

1. Kowalski, W. Droga na Północ: Poezje. — Minsk: WPB, 1935;

2. Moszyńska-Heltmanowa I.

Pierwsza i druga książki do czytania, elementarz (IIcz.), 26-30-я гг. Усе: «Minsk: WPB». Пераклады з Коласа, Гартнага, Андрэя Александровіча і іншых. Усяго 15 картак у каталогу;

3. Romanowska, H. Pachnie ziemia. — Minsk: WPB, 1934;

4. Żarski, H. Proszek do kichania: Opowiadania... —Minsk: WPB, 1935.

Можна было б і яшчэ чаго пашукаць, але аўтар артыкула іншых прозвішчаў амаль не згадвае... Можна было б даведацца пра іх з Летапісу друку БССР за 20 — 30-я гады, у раздзеле «Кнігі на польскай мове», а затым — зноў звярнуцца па інфармацыю да таго ж каталога.

Карацей, запрашаю спадара Тадэвуша Тарасевіча і іншых паланістаў з «Палоніі» (і не толькі!) больш шырока карыстацца паслугамі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, якая мае шмат цікавых аддзелаў...

Людміла СІЛЬНОВА, бібліятэкарка аддзела беларускай літаратуры НББ.

# «ХАЧУ БЫЦЬ З ТАТАМ»

## Непрыдуманая гісторыя

*У ПРАСТОРНЫ пакой увайшла маладая жанчына. Яна разгублена азірнулася і замерла. Перад ёй сядзеў інтэлігентнага выгляду мужчына з няголеным тварам, а побач з ім — хлопчык. Раптам жанчына няўклюдна выцерла з размазаных вачэй слязіну і, каб не даць волю эмоцыям, ледзь улоўна прамовіла:*

*— Сыночак, ну мо хоць зараз ты выслухаеш мяне...*

*На што мужчына вінавата ўтаропіўся ў падлогу, цярэбячы ў руках сваю берэтку, а хлопчык адвярнуўся ў бок і спакойна адказаў:*

*— Мне няма ўжо пра што з табой гаварыць.*

*У гэты дзень народны суд Кастрычніцкага раёна Мінска павінен быў вынесці сваё канчатковае рашэнне па грамадзянскай справе, якая цягнецца з кастрычніка мінулага года: каму — бацьку ці маці — перадаць на выхаванне дванаццацігадовае, адзінае ў сям'і дзіця.*

Справа на першы погляд звычайная. Маладыя людзі, якія яшчэ некалі да бяспамяцтва кахалі адзін аднаго, у адначассе ператварыліся ў лютых ворагаў і кінуліся ў вір сямейных сварак. Зразумела, вынік — непазбежны разрыў. Толькі ўсё гэтае адбываецца на вачах дзіцяці, якое яшчэ не ў сілах спасцігнуць увесь сэнс «загадкавых» адносін паміж бацькамі. Рана ці позна яму давядзецца зрабіць свой выбар і вынесці рашэнне (нашы законы пакідаюць апошняе слова за малым), з кім яму застацца. Вось тут для дзіцяці пачынаюцца сапраўдныя пакуты: застацца з маці — значыцца здрадзіць адзінаму ў свеце тату, з татам — здрадзіць любай матулі. Памятаеце пытанне, якое задавалі нам у дзяцінстве дапытлівыя дарослыя: каго ты больш любіш?.. Толькі вось ён, успамінаючы сумесныя вылазкі на прыроду ўсёй сям'ёй, паходы ў кіно, сняданкі за агульным сталом, адчуваючы сябе вінаватым у чымсьці, як быццам пакрыўджаным на, здаецца, незаслужанае пакаранне, якое зрабіла балючы адбітак у дзіцячай памяці, губляецца ў здагадцы — а чаму гэта тата і мама не могуць жыць разам? Але яму гэтага не рашаць.

Якім будзе вердыкт суда, тады яшчэ ніхто не ведаў. Але ўсім было добра вядома рашэнне самога малога. На адным з судовых пасяджэнняў ён цвёрда заявіў: «Хачу жыць з татам». Яшчэ пазней ён скажа, што будзе змагацца за сябе і свайго бацьку і ад слоў сваіх ніколі не адмовіцца...

У гарадскім судзе з такім выпадкам сустракаюцца ўпершыню. Як так магло здарыцца, што ад жанчыны-маці адвярнулася адзінае дзіця?

... Калі Віцёк быў яшчэ зусім малым, на сакраментальнае пытанне — каго ты больш за ўсіх любіш — маму ці тату, адказваў пацалункам абодвум бацькам і словамі: «Усіх — аднолькава!». А бацькоў перапаўняла хваля гонару і радасці за сына — сапраўднага мужчыну, што расце ў сям'і.

Цяпер ён так жа цвёрда заяўляе — люблю тату, а да мамы адчуваю толькі адзіны жаль.

Такімі пачуццямі і падзяліўся са мной дванаццацігадовы Віктар у закутку, які мы знайшлі ў будынку суда, каб быць далей ад вачэй людскіх. Нягледзячы на ўтульныя крэслы, на якіх мы размясціліся, адусюль веяла холадам. Вось дзе праўда: суд — гэта тое месца, куды па сваёй волі не ходзяць...

Ірына і Мікалай вучыліся ў прэстыжнай ВНУ сталіцы. На адным курсе, у адной групе. Абаяльная Ірына ў мінулым — выдатніца ў школе, адразу ж праявіла імпэт да сімпатычнага брунета. Спачатку закідвала свайго каханага лістамі «ад незнаёмкі», якія яшчэ нядаўна вялікім стосам захоўваліся ў шуфлядзе пісьмовага стала Мікалая. Разгарнуўся бурны студэнцкі раман, які звычайна нічым не заканчваецца. Але Ірына ўпарта настойвала на вяселлі. Мікалай з паспяховых студэнтаў з'ехаў на двойкі. Знаёмыя сцвярджалі: маўляў, ад вялікага кахання. Ён спрабаваў адцягнуць дзень вяселля на заканчэнне інстытута, і сапраўды, што за сям'я без забяспечанага побыту і пэўнага матэрыяльнага дастатку. Аднак, адчуваючы віну перад дзяўчынай, проста са студэнцкай аўдыторыі накіроўваўся на заробкі — разгружаў вагоны. За сабраныя за два гады грошы купіў у падарунак залаты пярсцёнак, які так некалі вымольвала Ірына.

Пяць гадоў для маладых праляцелі як імгненне. Наперадзе дыплом і, нарэшце, — самастойнае жыццё. Абодва — карэнныя мінчукі, і абодвух — пасля заканчэння вучобы чакае прэстыжная праца ў родным горадзе. Наспеў час падумаць і пра ўладкаванне свайго сямейнага шчасця.

... Стос лістоў, што гадамі складваў у стале Мікалай, выпадкова трапіў на вочы ягонай маці, Святлане Ціханаўне, якая вырашыла заняцца далейшым лёсам Мікалая. І жанчына запрасіла «чароўную незнаёмку», якая так чулліва перадае думкі на паперы, у госці. Ірына ж, якая заўсёды камплексавала перад сваім абраннікам, — маўляў, з забяспечанай сям'і, а ў мяне бацькі простыя працаўнікі, — вырашыла сваім візітам да будучай свякрухі пакласці канец сваім сумненням...

І тут Мікалай здаўся. Неўзабаве маладыя згулялі вяселле. Працяглы час здымалі пакойчык у адзінокай бабулькі ў прыватным сектары, ну а пасля, па льготнай чарзе, бацька Мікалая атрымаў для іх двухпакаёвую кватэру ў цэнтры Мінска. У маладых мужа і жонкі нарадзіўся сын Віця...

Цяпер, калі сям'я разбурылася, Мікалай і Ірына сцвярджаюць, што ім абодвум не хапіла простай жыццёвай мудрасці, павагі адзін да аднаго, бо кожны мусіў паказаць сваё «Я» ў гэтым доме.

Ірына не вельмі шанавала праяўленне любові Віці да таты. І калі тыя разам збіраліся на рыбалку ці ў турпаход на лыжах, усяляк імкнулася гэтаму перашкодзіць. Ніяк не магла заглушыць дзікую рэўнасць да роднага бацькі свайго сына. Усяляк правакавала сваркі проста на вачах хлопчыка, які не мог нічога зразумець.

Ірына бачыла адзіны метад выхавання сына — прадастаўленне яму поўнай свабоды дзеяння, спасылаючыся на тое, што і сама яна вырасла без усялякага там нагляду і нічога вунь — вывучылася. Таму і катэгарычна была супраць «сюсюкання» над хлопчыкам, быццам у гэтым бачыла залог будучай маральнай слабасці Віці як асобы. Усе гэтыя дэталі сталі мне вядомы, калі давялося пазнаёміцца з кожным членам гэтай сям'і паасобку.

Але з дня скасавання шлюбу да слухання судовай справы аб перадачы на выхаванне дзіцяці было яшчэ больш за год...

Ірына з Віцем жылі ў прасторнай кватэры ейных бацькоў. Мікалай спраўна наведваў сына: праводзілі разам выхадныя дні, адпачывалі на прыродзе. Але ж за год маленькі Віцёк пасталеў, і жыццё гэтых людзей перавярнулася з ног на галаву.

Да Ірыны заўсёды цягнуліся людзі, і ў асноўным — прадстаўнікі супрацьлеглага полу. Колькі сябе памятае — заўсёды купалася ў промнях кахання. А прыцягальная моц яе — не столькі ў прыгажосці, колькі ў вялікай красамоўнасці. Яна проста прываражвала да сябе. Ды й што паробіш, як кажа наіўна Ірына сама, калі яна — чалавек кампанейскі, лёгка ідзе на кантакт. Толькі вось не пашанцавала з мужам-гультаём, які прыносіў мала грошай. А тут яшчэ інфляцыя... Словам, развод прыпаў на складаны для грамадства час.

Пасля разводу Ірына нядоўга была ў адзіноце. Сяброўка з ліку добраахвоцелек, у якой таксама не ўсё добра ў асабістым жыцці і якая пакутуе ў пошуках сваёй паловы, падштурхнула: «Ірка, ты такая цікавая жанчына, а пакутуеш усё жыццё з гэткім... Ды і праз пару гадоў сыну твайму не будуць патрэбны ні ты, ні ягоны бацька. А жыццё ідзе! Чаму кіснеш? Давай я цябе пазнаёмлю з та-а-кім мужчынам і ...! Я яму пра цябе столькі параскавала, дык цяпер мне праходу не дае...»

У новага кавалера Ірыны, як кажуць, было ўсё пры сабе: і машына, і грошы, і шыкоўная кватэра. І праца ў яго прыбытковая, бо ён з'яўляецца бізнесменам-прадпрымальнікам. У кіно — на машыне, на службу і са службы — зноў жа на машыне. Ну чым не жыццё? Мужчына што трэба, не ў прыклад быламу мужу. Але і райскае жыццё хутка закончылася пры першым жа распіцці кавы з каньяком у апартаментах новага абранніка і сумесна праведзенай ночы. Пасля гэтага раман з бізнесменам ужо не меў працягу: Ірына расчаравалася.

Тым часам хлопчык, адчуўшы бескантрольнасць і няўвагу да сябе, перастаў вучыцца. У адной з чвэрцяў нават займеў «нездавальняюча» адразу па некалькіх прадметах. Настаўнікі браліся за галаву: што магло стацца з хлопчыкам з такой прыстойнай сям'і? А дома пастаянныя папрокі ад бабулі, маці, што яшчэ больш прыгнятала хлопчыка. Ён быў вымушаны гадзінамі да позняй ночы бадзяцца па горадзе, а часам проста забіваўся ў першую з Мінска электрычку і скіроўваўся куды вочы глядзяць.

Віцёк ніяк не мог зразумець дзіўныя паводзіны маці, якая, нібы выгульваючы сабаку, прыходзіла ноччу, а то і раніцай навесяле з падарункамі ў руках. Хлопчык замкнуўся ў сабе. Ніхто нават і не здагадваўся, што ў такія моманты адбывалася ў душы малога. А ён вырываўся на вуліцу, дзе сапраўды адчуваў сябе спакойна, але зноў жа — нікому не патрэбным.

... Ірына і Мікалай яшчэ не раз спрабавалі з'яднаць свае лёсы дзеля шчасця сына. Але сумесна праведзеныя ночы ўжо не былі напоўнены ні рамантыкай, ні цеплынёй. І ўсё ж дзеля сына...

Аднойчы Ірына злёгку захварэла — па Мінску якраз тады пракацілася эпідэмія грыпу. Вынікі аналізаў былі ашаламляльныя — станоўчая рэакцыя Васэрмана, а працей — сіфіліс у пачатковай стадыі. Ірыну быццам кіпнем абварыла: і гэта ў такі час, калі ў сям'і больш ці менш нармалізаваліся адносіны! Вось тут яна і ўспомніла нядаўнія кароткаімгненныя сустрэчы з кавалерам-бізнесменам.

Жанчыну накіравалі ў венералагічны дыспансер. Шчыра кажучы, яна была на парозе самагубства, гатова была накінуць на сябе пятлю.

У той дзень яна выклікала Мікалая з работы і ў некалькіх словах растлумачыла: табе і сыну трэба ехаць на Прылуцкую... на абследаванне.

Мікола адразу ўсё зразумеў... Але бацьку з сынам пашанцавала: «хвароба любові» абмінула іх. Віцёк губляў прытомнасць, калі бралі кроў з вены на аналізы, А Мікалай перанёс шэраг прафілактычных прышчэпак.

Два тыдні Ірына праляжала ў дыспансеры. А Мікалай, адчуваючы сваю неабходнасць, як мог, падтрымліваў былую жонку: наведваўся ў госці, прывозіў перадачы і адначасова захоўваў у тайне сапраўднае месца знаходжання Ірыны. Для адных яна была ў камандзіроўцы, для іншых — у інфекцыйным аддзяленні.

І тут зноў на гарызонце ўзнікла постаць Святланы Ціханаўны, маці Мікалая. Раней яна з імпэтам змагалася за з'яднанне маладых, цяпер з яшчэ большым узялася за далейшае вырашэнне лёсу сына. Занялася пошукам «сакрэтнай бальніцы», дзе знаходзілася на лячэнні Ірына.

Абзваніўшы ўсе інфекцыйныя аддзяленні горада і ні ў адным не знайшоўшы прозвішча былой нявесткі, звярнулася па дапамогу да знаёмага ўрача: літаральна праз некалькі хвілін на стале ляжаў патрэбны адрас.

Пасля выпіскі з бальніцы і гаворкі са свякрухай Ірына ўжо не магла жыць разам з Мікалаем. Не магла яна вярнуцца і пад матчын дах. Вось тут Ірына і ўспомніла пра свайго даўняга сябра — Аляксея, з якім, як яна сама кажа, пазнаёмілася на глебе жыццёвых шчыраванняў дзесяць гадоў таму. У Аляксея тады не ладзіліся адносіны з каханай дзяўчынай, якая ўсё ж стала ягонай жонкай. А ў Ірыны не ўсё было добра ў сям'і. Словам, на той час яны служылі адно аднаму «падушкай» для слёз. Вось пасля столькіх гадоў расстання Ірына зноў вырашыла акунуцца ў віры любоўных перажыванняў. Аляксей да гэтага часу паспеў развесціся і адзіны паратунак ад безвыходнасці бачыў у чарцы. Ірына перайшла жыць да яго на кватэру разам з сынам. У новым палюбоўніку жанчына бачыла кандыдата на пасаду новага таты для Віці.

Мікалаю праўды не сказала: для яго яны проста жылі на кватэры.

Віцёк паступова пачаў прыходзіць да высновы, што дзядзя Лёша — зусім не той чалавек, які здае ім кватэру. Чаму з першага дня ён з мамай на «ты», а дыван, які падарыла бабуля на вяселле ягоным бацькам, раптам павесілі ў пакоі гаспадара, а дзядзя Аляксей цяпер спіць з мамай...

Аднойчы, набраўшыся сіл, накруціў знаёмы нумар тэлефона і, пачуўшы ў трубцы родны голас, выпаліў: «Тата, мама нам здрадзіла, забяры мяне адсюль!..».

Ну, а пасля былі шматлікія судовыя пасяджэнні: вырашалася, каму з бацькоў усё ж перадаць на выхаванне хлопчыка. Віцёк дасюль не можа пагадзіцца з думкай, што маці яго падманула, і пазбягае з ёю сустрэч. Не адчыняе ёй дзверы, не адказвае на яе тэлефонныя званкі, не віншуе са святамі, не дорыць, як раней, сардэчныя падарункі, зробленыя ўласнымі рукамі. Для яго мама проста не існуе. Яе быццам няма і не было на гэтым свеце...

Ірына, нягледзячы ні на што, выйшла другі раз замуж за дзядзю Лёшу, і цяпер яны разам ходзяць на ўсе судовыя пасяджэнні. Жанчына ніяк не можа дамагчыся сустрэчы з сынам, праклінае свой лёс і былога мужа. У царкве вымольвае ва Усявышняга адзінае: каб той вярнуў назад Віцю.

Для самога ж Віктара існуе адзіны Бог і ідэал на зямлі — ягоны тата. Яны разам ходзяць у турпаходы па Алтаі, адпраўляюцца ў «вялікае плаванне» на байдарках па рацэ Пціч. Вечарамі спяваюць дуэтам пад гітару і не прапускаюць ніводнага бардаўскага канцэрта ў Мінску. Цяпер Віця выдатна вучыцца, наведвае шматлікія спартыўныя секцыі і гурткі. У класе ён — аўтарытэт.

Ну, а маці працягвае шукаць сустрэчы, каб пагаварыць з сынам. Прыносіць бананы і апельсіны, замежныя цукеркі, загавораныя за вялікія грошы ў знаёмай бабкі-шаптухі. Пакаштаваўшы іх, хлопчык хварэе: то падымаецца тэмпература, то з'яўляецца высыпка на скуры. Аднойчы нават лопнуў сасуд на воку. Чыстае супадзенне? Магчыма.

Ірына і зараз настойвае на думцы, што хлопчыка настроілі супраць яе Мікалай і былая свякруха. А ён гаворыць усё тым жа разважлівым голасам: «Я не гітара, каб мяне можна было настройваць».

Вось якраз з гэтымі словамі і не можа зміры́цца Ірына. Мацярынскі інстынкт штурхае яе на самыя розныя хітрыкі, што не паддаюцца ніякаму тлумачэнню.

Час ад часу мірны спакой двух мужчын парушаюць тэлефонныя званкі з пагрозамі. Мікалай вымушаны быў адключыць паралельны апарат у пакоі хлопчыка, бо цяперашні муж Ірыны пагражаў адрэзаць яму, Мікалаю, галаву, калі той не заплоціць грошы за пражыванне Віці на кватэры Аляксея.

Яшчэ не зніклі з памяці падзеі аднаго нядаўняга дня, калі невядомая асоба пазваніла і сказала, што Святлана Ціханаўна трапіла пад машыну. І сапраўды, бабулі якраз не было ў той час дома — пайшла ў магазін. Сын і бацька абзванілі ўсе моргі Мінска — безвынікова, толькі ў адзін паступіла жанчына, але прыкметы з бабулінымі не супадалі. Тады Мікалай пабег да самай ажыўленай дарогі, якая пралягае ад дому да магазіна: там яшчэ не засохла кроў... Ён ужо не памятае, як вяртаўся дадому, і калі падыходзіў да пад'езда, вачам сваім не паверыў — перад ім стаяла маці, якая яшчэ не ведала пра сваю «трагічную смерць». Не вытрымаў — кінуўся насустрач і заплакаў. Потым высветлілася, што «пажартаваць» так захацелася маці Ірыны, якая вырашыла адпомсціць за дачку па-свойму.

На заканчэнне скажу: суд не ўлічыў пажаданняў хлопчыка і пастанавіў перадаць Віцю на выхаванне маці.

Але па ўсім бачна, гэтая гісторыя так проста не скончыцца. Мікалай вырашыў далей змагацца за свае правы. І пакляўся, што бараду, якую нядаўна адпусціў, паголіць толькі пасля вырашэння справы на яго карысць. Хлопчык, нягледзячы ні на якія ўгаворы маці, якая гатовая развесціся з «дзядзем Лёшам», працягвае жыць у таты...

**Міхась РЭВУЦКІ.**

Барыс Крэпак

# САЯДЫ БОСЫХ НОГ НА ПЯСКУ ЖЫЦЦЯ

## Роздум, факты, дакументы пра творчасць Восіпа Цадкіна.

*Ратэрдам. Набярэжная Лёвенхавэн. Сорак гадоў стаіць тут бронзавая статуя «Разбураны горад» — адно з самых яскравых сведчанняў нашай эпохі пра жахі Другой сусветнай вайны. На строгім гранітным цокалі надпіс: май, 1940 год — дата незабыўнага забойства Ратэрдама, трагічнага дня 14 мая, на працягу якога гітлераўскія бамбардзіроўшчыкі знішчылі яго цэнтр, разбурыўшы 11 тысяч дамоў і пакінуўшы 78 тысяч чалавек без жытла. Статуя стала паэтычным вобразам пакутніцтва, няўмольным прысудам злачынству перад гісторыяй. Крытык Льюіс Мамфорд лічыць, што «гэты вобраз настолькі ж жахлівы ў сваёй экспрэсіі, як Герніка Пікасо, але ён задуманы з сілай, якая прадвяшчае адраджэнне Ратэрдама».*

«Статуя — мой гонар, гэта адзіная сапраўды сучасная скульптура, і яна ўпрыгожвае грамадскае месца. Гэта робіць мяне шчаслівым», — так напісаў аўтар гэтага помніка Восіп Цадкін.

Заканамерны працэс узнаўлення паўнаты гісторыі нашай нацыянальнай культуры патрабуе ўрэшце ўвядзення ў яе імені гэтага найвялікшага скульптара XX стагоддзя, карані якога моцна знітаваны з беларускай зямлёй. Цадкін, па выказванні Жана Кассі, «вялікі паэт, сябра людзей, і наймузыкальны спявак жыцця і надзеі», за шэсць дзесяцігоддзяў творчай дзейнасці стварыў больш за 400 скульптур, некалькі тысяч малюнкаў, акварэляў, гравюр і кардонаў для габеленаў. Але ж самая першая ягоная работа была створана ў Віцебску яшчэ ў маленстве, што, па сутнасці, і вырашыла яго далейшы лёс.

Восіп Цадкін нарадзіўся 14 ліпеня 1890 г. у Смаленску. Бацька яго быў выкладчыкам грэчаскай і лацінскай моваў у гімназіі, маці — Сафі Лестэр — паходзіла з шатландскай сям'і караблебудаўнікоў, якія перасяліліся ў Расію пры Пятры І. Дзед Восіпа жыў у Віцебску, сплаўляў лес па Дзвіне. Дзядзька трымаў на Дзвіне паром. Тут, на Віцебшчыне, прайшло дзяцінства і юнацтва Цадкіна, тут ён навучыўся любіць прыроду і перш за ўсё дрэва, тут гадзінамі хадзіў па лясах. Менавіта тут склалася яго паэтычнае светаадчуванне, якое ён пранёс праз усё жыццё і перадаў у скульптуры.

Цадкін: «... У той час я жыў у нізкім прасторным доме майго дзядзькі, землеўладальніка, які быў таксама будаўніком караблёў і шырокіх драўляных баржаў. Неяк апоўдні, калі стаяла яснае надвор'е, я выйшаў з дома і накіраваўся да прасторнага і глыбокага лесу, які цягнуўся ўдалечыні ўздоўж ракі (Дзвіны. — Б.К.). Я прайшоў зусім побач з караблямі, якія будаваліся. Там я заўважыў вялікую, зусім навенькую баржу, што пахла свежай піхтай, пастаўленую крыху набок і падрыхтаваную да спуску на ваду; сялянкі з пэндзлямі ў руках мазалі яе бліскучым дзёгцем, які распаўсюджваў пах гарэлага піхтавага лесу. Адна з сялянак, працягваючы прасмольваць судна, кінула мне якоесьці брыдкае слова; нечаканае і рэзкае, яно заспела мяне знянацку, і я хутка паімчаў да лесу... Я павінен быў перайсці ручай, які нёс свае дзіцячыя воды, як жамчужыны, да ракі; спяшаючыся, я паслізнуўся і ўпаў. Узняўшыся, збіраўся ўжо залезці па іншым схіле і прымасціцца на лаўцы, якая там знаходзілася. Але менавіта ў той момант платонаўскі дэман прымусіў мяне павярнуцца, і я ўбачыў на тым месцы, дзе паслізнуўся, гаршэчную гліну бездакорнай белізны. Той жа дэман прымусіў мяне вярнуцца; яго ўздзеянне было амаль адчувальным, яно прымусіла мяне ўзяць кавалак гліны, і ўпершыню мае пальцы з захапленнем паглыбіліся ў яе. Пачуцця такога я раней ніколі не меў і ўспаміны пра яго захоўваю дасюль. З гэтай незвычайнай паклажай я кінуўся да лаўкі, дзе, устаўшы на калені, вылепіў каменедрабільшчыка, якога бачыў па дарозе...».

Так успамінаў скульптар свае першыя крокі ў мастацтве ў прамове, якую ён сказаў 27 снежня 1951 года ў Каралеўскай Фламандскай Акадэміі навук, славеснасці і высакародных мастацтваў у Бельгіі.

Аднак, нягледзячы на схільнасць да лепкі, у раннім узросце Восіп не праяўляў асаблівых поспехаў у школе, і бацька прымае рашэнне адправіць небараку-сына вучыцца да родзічаў маці ў Англію. У кастрычніку 1905 года пятнаццацігадовы Восіп накіроўваецца ў першую вялікую вандроўку: дабіраецца да Рыгі, потым па моры да Ратэрдама, затым у Гуль, адтуль у невялікі гарадок Сандэрленд, дзе жыве брат маці Джон Лестэр. Вясной дзядзька адводзіць яго ў мастацкую школу пры мясцовай мэрыі вучыцца лепцы. Аднак першыя спробы вылепіць копію з галавы гудонаўскага Вальтэра былі настолькі няўдалымі, што назаўсёды адвярнулі будучага скульптара ад капіравання. «Я не хацеў пераймаць. У школе ў мяне не было ні любові, ні цікаўнасці да вучэння», — успамінаў потым Цадкін. Затое з задавальненнем займаўся разьбой па дрэве разцамі, якія падарыў яму дзядзька. У 1906 годзе па запрашэнні свайго сябра Восіп пераязджае ў Лондан, дзе вялікае ўражанне на яго робіць класічная і кітайская скульптура, а таксама статуі вострава Вялікадня. Праўда, у якасці пакарання за самавольства бацька пазбаўляе яго далейшага ўтрымання, і юнаку даводзіцца перабівацца жабрацкімі заробкамі ў дрэваапрацоўчых майстэрнях. Ён наведвае вячэрнюю школу, дзе працягвае вучыцца лепцы.



Напаўгалоднае існаванне і настальгія па дому прымушаюць яго напісаць бацьку ліст з просьбай выслаць грошы на білет, і ў хуткім часе Цадкін вяртаецца ў Віцебск. Пра гэты перыяд ён гаворыць так:

«Мне прыгадваецца вялікі кавалак ружовага граніту, які быў занесены ледніком у поле майго дзядзькі, непадалёк ад Віцебска; спрабуючы нанесці на яго якуюнебудзь лінію, я, да свайго сораму, зламаў усе разцы, якія прывёз з Лондана. У рэшце рэшт, звярнуўшыся да вартаўніка мясцовых могілак, я даведаўся пра рэзчыка па камені, які вырабляў крыжы і надмагільныя пліты, не забываючыся пры гэтым араць сваю зямлю. Гэты рэзчык узброіў мяне двума або трыма добра загартаванымі разцамі, з дапамогай якіх я выразаў першую галаву з граніту...».

З гэтай гранітнай галавой Цадкін прыязджае ў Смаленск, дзе яго, блуднага сына, з абдымкамі прымае сям'я. Яму даравалі лонданскае самавольства.

Восенню ён зноў едзе ў Лондан, каб дэталёва вывучыць працэс работы з разнастайнымі матэрыяламі, а вясной — у Віцебск, дзе знаёміцца з Маркам Шагалам і Юліем Пэнам. Бацька, задаволены поспехамі сына, вырашае накіраваць Восіпа вучыцца ў Парыж, бо толькі «там становяцца мастакамі».

У Парыж ён прыязджае з лістом-рэкамендацыяй графа Давыдава ў Эколь дэ Базар, дзе пачынае займацца ў майстэрні Энжальбера.

«Аднойчы, — успамінае скульптар, — адзін з вучняў паказаў нам фотаздымак «раманскай» галавы. Прастата і веліч формаў, выразныя, поўныя пачуццяў вочы выклікалі ў нас агіду да бляклых імітацый, якія мы ляпілі ў школе. Мы няясна адчувалі, што менавіта ў такога роду антычных творах утрымліваецца ключ да свету скульптуры».

Аднак спробы працаваць у такім «ключы» не былі станоўча ацэнены настаўнікам, і Цадкін праз год пакідае школу, каб акунуцца ў вольнае паветра Манпарнаса. Вясной 1911 года ён упершыню выстаўляе пяць скульптур у Салоне незалежных, побач з творамі Архіпенкі і Лембрука.

Цадкін жыве ў «Вуллі» — «Ля Руш» — круглым трохпавярховым доме на ўскраіне Парыжа, які быў запоўнены мастакамі, чые імёны сёння вядомы ва ўсім свеце. У сваіх мемуарах «Жыццё сярод мастакоў Ля Руш» мастачка М.Вараб'ёва-Сцябельская піша: «У зімовыя суботы, пасля малявання, распальвалі самавар і пілі гарбату. Маладыя людзі ўяўлялі сабой чароўную карціну — ружовыя ад жару печы і гарачай гарбаты, за мірнай гутаркай. Урэшце не зусім мірнай — бо часта, праразаючы нягучную гутарку, былі чутны раскаты голасу Цадкіна, якога мы празвалі «грамагласны Юпітэр». Таленавіты Цадкін... выпраменьваў энергію і весялосць і ніколі не мог доўга маўчаць».

Хоць арэндная плата ў «Вуллі» была мінімальная — каля 50 франкаў на год, нават яна з'яўлялася непасільнай для некаторых мастакоў. Але Альфрэд Бушэ — гаспадар «Ля Руша» і яго заснавальнік — заўсёды дараваў запазычванні. Цадкін пісаў у сваіх мемуарах, што ён, пражыўшы ў «Вуллі» тры гады, паехаў адтуль на вуліцу Важырар, нічога не заплаціўшы.

У «Вуллі» жывуць выхадцы з Беларусі Шагал, Суцін, Мешчанінаў, Кікоін, кіяўлянін Архіпенка, француз Лежэ, італьянец Мадзільяні. Цадкін знаёміцца тут з Бранкузі, Дэлоне, Сандрарам, сябруе з кубістамі. Пад уражаннем Радэна — адзінага скульптара таго часу, «чые творы маглі даць адказ расчараванай моладзі», — Цадкін робіць тут некалькі партрэтаў, а таксама сваю першую «кубісцкую» галаву. У хуткім часе выстаўляе работы на сезоннай выставе ў Парыжы, дзе, па яго словах, яны вылучаліся «прымітыўнай мовай» на фоне акадэмічнай скульптуры. Іх заўважыў заможны мецэнат Поль Радаканачы, ён потым неаднойчы прыходзіў на дапамогу мастаку, які жыў вельмі бедна.

«... Шчыра кажучы, — пісаў скульптар, — нават Радэн мяне цалкам не пераканаў... Некаторыя з нас пачалі знаходзіць больш пачуццяў у раманскай галаве, у пакрамсаных торсах на фасадах сабораў у Муасаку і Атэне... Гэтая раманская скульптура, на наш погляд, пранікнёна адлюстроўвала чалавечыя целы, якія трапяталі ад жаху».

Сярод тых, хто думаў гэтак жа і шукаў свае ўласныя сродкі выяўлення, Цадкін называе Архіпенку, Ларанса, Бранкузі, Мура. Скульптуру Цадкіна заўважылі крытыкі і ахрысцілі «негрыцянскай».

У 1913 годзе мастак знаёміцца з Пікасо, Мацісам, Гарвілем, сустракаецца з Апалінэрам і Жакобам, пад іх уплывам піша вершы, якія не знайшлі асаблівага прызнання. «У гэты час, — заўважае Цадкін, — я адмовіўся ад «прымітыўных» формаў, якія да гэтага надаваў каменю і дрэву». Ён шукае чагосьці «іншага» і стварае «Жанчыну з веерам» з плоскімі, вострымі, вуглаватымі формамі і драўляную яйкападобную галаву.

Першая сусветная вайна заспявае яго ў новай майстэрні па вуліцы Руселе. Незадоўга да гэтага на Берлінскай выставе была куплена яго мармуровая жаночая галава: «Першы продаж! —ускліквае Восіп. — Ён своечасовы». Бацька больш не можа дапамагаць яму: пазней ягоныя бацькі, якія пакінулі ў гады рэвалюцыі Смаленск, загінулі ад голаду ў Харкаве.

У 1915 годзе Цадкін быў мабілізаваны ў армію і накіраваны пад Эпернэ служыць пры рускім шпіталі. 16 лютага 1916 г. ён піша ў Віцебск ліст Пэну: «Дарагі Юлій Майсеевіч, як жывяце-пажываеце? Я салдат у Рускім Амбулансе ў Францыі і пішу з фронту. Як і што жывяце-робіце? Як нашы сябры — Лісіцкі, Любакоў, Мазель, Меклер і Шагал жывуць? Будзьце ласкавы, адкажыце. Буду вельмі рады даведацца што пра ўсіх. Я здаровы, але ўсё абрыдла — вакол агіда, да таго ж холадна на душы. Хацелася б, каб усё скончылася. Ці працуеце Вы і што робіце? Напішыце. Ваш Цадкін». (Ліст гэты захоўваецца ў Віцебскім абласным архіве. — Б.К.)

У хуткім часе, пасля газавай атакі немцаў, Цадкін цяжка захварэў і ў пачатку 1917 г. яго дэмабілізуюць. Ён вяртаецца ў Парыж. Разам з Мадзільяні і Кіслінгам адкрывае выставу, дзе экспануе 25 малюнкаў пра вайну. Выстава стала вялікай падзеяй у мастацкім жыцці Парыжа. Жан Както і Сандрар чыталі тут свае паэмы, «Шасцёра» (Арык, Пуленк, Міё, Анегер, Дзюрэй, Тайфер) давалі канцэрты. Знаёмства з імі ўзмацніла цікавасць Цадкіна да музыкі. Ён сам цудоўна імправізаваў на акардэоне, але больш за ўсё любіў слухаць, як іграюць іншыя. Урэшце, любоў да музыкі ў яго была закладзена з дзяцінства.

Цадкін: «Мне было дванаццаць альбо трынаццаць гадоў, калі стала вядома, што ў Смаленск прыязджае буйны скрыпач-віртуоз. Я быў у сям'і старэйшым з дзяцей і паспрабаваў пераканаць сваіх бацькоў узяць мяне з сабой на канцэрт... Малады





чалавек падаўся мне вельмі прыгожым, асабліва ўражанне зрабіла ягоная густая цёмная шавялюра. Увесь наступны дзень я толькі і гаварыў пра скрыпку і пра тое, як мне хацелася яе мець. І вось бацька здабыў у кагосьці са сваіх сяброў інструмент з добрымі струнамі. Я накінуўся на гэты няшчасны інструмент, які доўга заставаўся бязгучным, і пачаў на ім пілікаць усе дні запар. Цярпенне ў майго бацькі хапіла на тыдзень, пасля чаго аднойчы днём... ён імкліва выйшаў са свайго кабінета, кінуўся да мяне, выхапіў у мяне злашчасную скрыпку і кінуў яе на пол. Інструмент адказаў апошнім меладычным гукам, струны ягоныя лопнулі і ў канвульсіўных дрыжыках назаўсёды змоўклі. Усё адбылося моўчкі. Бацька глядзеў на мяне раз'юшана, не гаворачы ніводнага слова, і я, узрушаны да жаху, таксама стаяў бязгучна. На наступны дзень пасля гэтай сцэны я захварэў... Больш ніколі ў жыцці мне не давялося дакранацца да скрыпкі, аднак захавалася нейкая сувязь з гэтым прадметам, які гучаў і абуджаў гукі, тым самым мяняючы ўсё навокал нас».

У Парыжы эмігранты падсілкоўваліся ў двух рускіх сталоўках. Адну ўтрымліваў былы марскі афіцэр Дэлеўскі, які карміў сваіх землякоў амаль бясплатна. Другая сталовая была арганізавана мастачкай Марыяй Васільевай у двары дома на авеню дзю Мэн. Тут заўсёды панавала творчая атмасфера: мастакі, пісьменнікі, музыканты збіраліся, каб паспрачацца пра мастацтва, палітыку, літаратуру. Душой кампаніі заўсёды быў Цадкін, пад ягоны акампанемент танцавалі. Скульптар выконваў дзіўную музыку, якую называў «вярблюжым танга». Па суботах ён арганізоўваў сур'ёзныя канцэрты, якія карысталіся вялікай папулярнасцю ў рускай калоніі. З таго часу ў скульптуры Цадкіна пачалі з'яўляцца вобразы музычных інструментаў, тэмы музыкі і паэзіі. У сталоўцы скульптар пасябраваў з Іллёй Эрэнбургам і Максам Валошыным, з бельгійскімі і галандскімі мастакамі, якія запрасілі яго выставіцца ў Брусэлі ў галерэі «Кентаўр». У час гэтай выставы ў Парыжы памірае Мадзільяні.

«На той момант, — піша Цадкін, — мая скульптура губляе схаластычную жорсткасць кубізму, я вяртаюся да самога сябе, да таго, што мяне найбольш глыбока кранае, да свайго роду грацыі, крыху цяжкаватай і няўклюднай, але ўжо пазбаўленай той зухаватасці і жорсткасці, якая была ўласціва маёй так званай «кубісцкай» скульптуры». У новай манеры ён стварае свайго «Прарока» — з даўгаватай галавой і складзенымі ў малітве рукамі.

У 1920 годзе Цадкін ажаніўся з мастачкай Валянцінай Пракс. А на наступны дзень пасля вяселля, як успамінае жонка скульптара, «купілі грамафон і некалькі кружэлак Моцарта, Баха, Аліўе Месіяна, Стравінскага, Дэбюсі. Цадкін страсна любіў Вівальдзі, натхняўся Скрабіным, дзягілеўскімі балетамі з незабыўным Ніжынскім».

У 1921 годзе, пасля выставы твораў скульптара ў Бельгіі, Галандыі і Нью-Ёрку, у італьянскім выдавецтве выходзіць першая кніга пра яго творчасць, якую напісаў Марыс Рэйналь. Ужо да гэтага часу стала ясна, што ваянне ў Цадкіна стаіць над лепкай. Выкарыстоўваюцца надзвычай разнастайныя матэрыялы: камень — у тым ліку мармур, граніт, лава, грушавае дрэва, дуб, медзь, бронза, абпаленая гліна. Форма архітэктанічная, падпарадкаваная структуры матэрыялу. З'яўляецца тонкі падзел на плоскасці ўвагнутыя і пукатыя, якія падкрэсліваюць адметнасць светлавых акцэнтаў. Цадкін смела камбінуе мармур і вапняк, алебастр і крышталь, дуб і перламутр, камень, каляровае шкло і свінец. У дрэве выкарыстоўвае залачэнне, расфарбоўку, лакіроўку, паліроўку, інкрустацыю.



Кожны год усё новыя і новыя творы прадстаўляе скульптар на выставах у Парыжы, Берліне, Лондане, Чыкага, Токіо, Венецыі. Шэраг работ Цадкін стварае ў архітэктуры: барэльефы ў Парыжы, Пуасі і Брусэлі, садовыя статуі ў Сусэксе і Ментоне.

139 скульптур і 47 гуашаў ад «Гераічнай галавы», створанай у Віцебску, да «Арфея» і «Арлекіна» трыццатых гадоў падзяляюцца на тэматычныя цыклы, якія можна прасачыць на працягу ўсёй ягонай творчасці. Скульптара вабяць партрэт і чалавечая фігура, біблейскія і міфалагічныя матывы. Музыка і паэзія натхняюць яго на пошук складаных эмацыянальна-паэтычных пластычных вобразаў.

У 1928 г. Цадкін з жонкай здымаюць вялікую майстэрню па вуліцы Асас, дзе ён стварае многія са сваіх буйных работ, у тым ліку «Ніабею», «Дыскабола», «Дэметру». Аднак яго ўсё больш пачынае прыцягваць жыццё ў цішы вёскі. Напачатку ён купляе невялікі дамок у вёсачцы Кайлюс, дзе стварае «Арфея», «Скульптара» і «Пакланенне Баху», а ў 1934 годзе пераязджае ў вёску Арк, дзе набывае вялікі закінуты дом.

«Арфей» быў створаны пад уражаннем паездкі ў Грэцыю, дзе мастак паспрабаваў спасцігнуць глыбіннае значэнне міфа, убіраючы ў сябе эліксір міфалогіі. Не выкарыстоўваючы міф як простую літаратурную фабулу, ён пазычае сімволіку мовы. «Арфей» у Цадкіна не іграе на ліры, ён сам ліра. Ён адкрыты, расчлянёны, каб вібрыраваць. Усё праходзіць скрозь яго, у яго няма сэрца. Яно заменена лірай. Калі ён кранае яе струны, ён кранае прастору, дзе было сэрца. Ён іграе безнадзейна, трагічна, увасабляючы адначасова сілу і страту кахання. Можа быць, гэта аўтапартрэт самога мастака? Урэшце, такіх «аўтапартрэтаў» у творчасці Цадкіна шмат. А можа, гэта Гіём Апалінэр? Ці не сучасны ён Арфей? Праз дваццаць гадоў пасля першага «Арфея» скульптар адмаўляе самога сябе: «Арфей штосьці іншае, чым музыкант. Арфей — вялізная падзея, якая склалася ў глыбіні чалавечага часу і паразіла чалавека як ударам. Падзея чалавечага ўяўлення...» Так з'явіўся новы Арфей — чалавек, пераўвасоблены ў інструмент. «Я прадставіў агонь, як неад'емную і істотную частку гэтага героя, — пісаў Цадкін. — Ён тут, перад намі, жахлівы ў сваёй грандыёзнасці, як чалавечая фігура, якая здаецца абпаленай агнём, што яна сама нясе... Калі я завяршыў сваю работу, прыйшла восень, а з ёю з'явіўся вугальшчык, якому я заказаў дровы для ацяплення маёй майстэрні. Як жа я здзівіўся, калі сярод дроваў знайшоў кавалак дрэва ў выглядзе двайной рагаткі: верхняя частка яго, падзеленая на дзве галіны, нагадвала дзве ўскінутыя да неба рукі, ніжняя частка дзіўна нагадвала ногі, што крочаць, у духу адлюстравання егіпецкіх фараонаў з галавой ястраба. Я доўга разглядаў гэты найцікавейшы прадмет, у якім утрымлівалася ЎСЁ. Гэты боскі кавалак дрэва жыве побач з маімі скульптурамі, і я часта звяртаюся да яго па дапамогу... Калі я ўваходжу ў сваю майстэрню, я шукаю вачамі і адразу знаходжу той кавалак дрэва, які сам па сабе ўжо з'яўляецца АРФЕЕМ; я доўга разглядаю яго... У гэтым кавалку дрэва цалкам адсутнічае нашае маладушша, якое выяўляецца ў перайманьніцтве егіпцян або грэкаў, або адлюстраванні на іх манер...».

Работа над «Арфеем» прыводзіць Цадкіна да стварэння выдзеўбаных перфарыраваных форм, да аформленасці прасторавых цэзур і разрываў усярэдзіне кампазіцыі. «Разбураны горад» непасрэдна працягвае «Арфея». Тут зноў шчыліна, выдранае сэрца, шырокая прастора, што ўключана ў скульптуру ў якасці пластычнага элемента.

Але вернемся назад у перадваенны час. У студзені 1934 г. Цадкін піша свайму сябру А.Рыдэру: «Мы, інтэлектуалы, у такім стане, што не пазбегнем трагедыі. Мы адчуваем крохкую структуру сацыяльных граней болей, чым іншыя». Сапраўды, скульптар прадчуваў навальніцу, якая збіралася над Еўропай. Мастацтва Цадкіна напаўняецца з таго часу трывогай і пакутамі. Кульмінацыяй перадваеннай творчасці сталі праекты манументаў Рэмбо, Апалінэру, Жары і Лотрэамону. Экспрэсія разбурыла статычнасць манументальнага аб'ёму, прастату зместавых адносін да жыцця на пачатку шляху. Агрэсіўнасць пластыкі выказвае не толькі трывогу майстра, але высокі дух супраціўлення антыгуманным тэндэнцыям, што развіваліся ў свеце.

Нямецкая акупацыя Францыі прымусіла Цадкіна эмігрыраваць у ЗША. У Нью-Ёрку ён стварае каля пяцідзесяці работ, у якіх адлюстравана горыч пачуццяў. Кампазіцыя «Вязень» — прамая алегорыя Францыі за кратамі, якая страціла свабоду, але не надзею. Сімвалам пачуццяў, якія авалодалі мастаком, стаў ягоны «Арлекін, які вые». «У маёй адзіноце, — успамінае скульптар, — я выў, як «Арлекін», і ніхто не чуў мяне. Мой крык тугі знайшоў адлюстраванне ў гэтай скульптуры, якую я ніколі не хацеў ад сябе адпусціць, бо яна для мяне ключ, які можа адкрыць дзверы ўспамінам».

У канцы вайны Цадкін пакідае ЗША з першым параходам, які ідзе ў Гаўр. Яго сустрэла разбураная краіна, спапялёная Еўропа. Завыванне руінаў Ратэрдама не дае магчымасці спяваць пра шчасце. У душы майстра спее рашучасць страсянуць нацыю, не даць паўтарыцца злачынству. Так з'явіўся «Разбураны горад». Урэшце, трывога за лёсы чалавека і чалавецтва ўласцівая і іншым пасляваенным творам, сярод якіх асаблівае месца займае серыя вобразаў Ван Гога: «Партрэт Ван Гога», «Ван Гог, які крочыць праз палі», «Ван Гог, які малюе», «Два браты Ван Гог» і, нарэшце, знакаміты помнік мастаку. Па словах Цадкіна, з Ван Гога «пачалося сапраўды новае бачанне прадмета... тое мастацтва, якое называецца сучасным...» Скульптар стварыў у гэтым мануменце вобраз просты, сур'ёзны і ясны. З дапамогай сяброў ён усталяваў помнік каля могілак, дзе быў пахаваны жывапісец. Ван Гог рухаецца вельмі проста, горда, насустрач сонцу. Ён закаваны ў латы сваіх палотнаў, складных крэслаў і папак, якія ўтвараюць вакол торса нібы разарваныя путы. Уцякач з турмы, ён скіраваўся ў шлях са сваімі кратамі, ён урачыста нясе сувеніры свайго закабалення.

Сёння мы вяртаемся да спадчыны ўсіх выгнаннікаў Беларусі, да твораў якіх мы захоўвалі заўсёды падпольны піетэт і нястомную цікаўнасць. Прыйшоў у рэшце рэшт час не толькі дазволенай цікавасці да іх, але і разумення таго, што яны — наш патэнцыял, рэабілітацыя нашага сораму за перажыты тупік. Прыйшла, урэшце, пара ўсвядоміць рэальную іх колькасць, гэта значыць — адкрыць для сябе з'яву цэласнай школы на Беларусі па-за гэтай краінай, насуперак геаграфічнай разгалінаванасці і стракатасці іх індывідуальных почыркаў.

Імя Восіпа Цадкіна для нас сёння — адно з першых сярод іх. Пакідаючы радзіму, ён не думаў развітвацца з ёй; Цадкін ехаў у Парыж вучыцца, як сотні іншых мастакоў. У яго ўспамінах пра дзіцячыя гады жыцця ў Смаленску і Віцебску ярка прагучала шчымлівая нота любові да сваёй вечна абяздоленай Бацькаўшчыны, настальгія па роднай прыродзе, па віцебскіх сябрах і першых настаўніках.



«Я не памятаю, у якім музеі — можа быць, гэта музей Сэн-Жэрмен — выстаўлены адбітак ступні дагістарычнага чалавека, — гаварыў Цадкін. — Дык вось, неабходна, каб да канца сваіх дзён чалавек пакідаў сляды босых ног на пяску жыцця з такой жа нязменнасцю, і каб потым, калі ўсё дойдзе да свайго лагічнага канца, гэтыя сляды сталіся б прыкладам для ўсіх, хто пажадае ісці за імі...».

Яго любімым філосафам быў Платон. Адзінае, аб чым ён шкадаваў, што не спасцігнуў грэчаскага і латыні, каб мець магчымасць чытаць старажытных аўтараў у арыгінале. Яго таямнічы пантэізм нарадзіў ягоную універсальнасць. На заканчэнне прывяду сімвалічныя словы Цадкіна: «... Але цудоўны лёс нават тых, хто здолее памерці з разцом і малатком у руках».

Восіп Цадкін пражыў семдзесят сем гадоў і памёр, як і марыў памерці, з разцом і малатком у руках. Цудоўны лёс!

*На здымках:*

1. В.Цадкін у двары майстэрні працуе над «Дзяўчынай з птушкай». 1930.
2. Тры сястры. Бронза. 1926.
3. Разбураны горад (Ратэрдам). Бронза. 1951—1953.
4. Ван Гог, які ідзе па полі. Бронза. 1956.
5. Музычны нацюрморт. Бронза. 1964.
6. Браты Ван Гог. Бронза. 1963.

# НА МОВЕ СТАРАЖЫТНАЙ ІНДЫІ

У студзені г.г. у Мельбурне (Аўстралія) адбылася IX Сусветная канферэнцыя санскрытолагаў, на якой адзіным прадстаўніком ад краін СНД быў выкладчык гісторыі культуры з Беларускай сельгасакадэміі ў Горках Міхась Міхайлаў. Ніжэй мы змяшчаем ягоны аповяд пра гэтую падзею.

Міжнародная Асацыяцыя санскрыталагічных даследаванняў, што арганізуе гэтыя канферэнцыі з перыядычнасцю ў 2-3 гады, утварылася на XXIX Міжнародным кангрэсе ўсходазнаўцаў у 1973г. (Парыж) — акурат на 100-я ўгодкі ўтварэння самога Кангрэса. Афіцыйным органам Асацыяцыі з'яўляецца часопіс «Індалогіка Таўрынензія», які выдаецца ў Турыне (Італія) і змяшчае матэрыялы канферэнцый.

У нашае імклівае стагоддзе кожны можа здзіўляцца, які сэнс у вывучэнні старажытнага і шляхетнага санскрыту. Апрача ўсяго іншага веданне гэтай мовы не толькі дае магчымасць пранікнуць у гісторыю, культуру, рэлігію і філасофію Індыі, але таксама дазваляе сучасным навукоўцам судакрануцца з узнёслымі думкамі і элеганцкім стылем, уласцівымі гэтай мове, і спазнаваць вытокі культур і веравызнанняў мільярдаў людзей, што жывуць ва ўсім свеце. Санскрыт мае не толькі цудоўна распрацаваныя рэлігійныя і духоўныя паняцці ды тэорыі, але і найбагацейшы навуковы слоўнік і велізарную літаратуру па матэматыцы, астраноміі, медыцыне, палітыцы, драматургіі, лінгвістыцы і г.д. Вялікі ўплыў зрабіла гэтая старажытная мова на шмат якія культурныя традыцыі і таму, сапраўды, з'яўляецца адной з базавых скарбніц чалавецтва, якія непасрэдна ці ўскосна апладняюць некаторыя з найпрыгажэйшых розумаў і плыняў культуры.

Работа канферэнцыі ў Мельбурне была пабудавана вакол штодзённых пасяджэнняў секцый, якія калі-нікалі перапыняліся пленарнымі пасяджэннямі, лекцыямі, паэтычнымі ці іншымі культурнымі імпрэзамі. Увогуле працавалі 18 секцый: граматыка, лінгвістыка, сучасны санскрыт, ведыйскія даследаванні, санскрыт і камп'ютэр, эпічныя і пуранічныя штудыі, індуізм, будызм, джайнізм, Агама і Тантра, кав'я, навука і медыцына, гісторыя, філасофія, этыка (дхармашастра), мастацтва і археалогія, рытуал, археаграфія. Прысутнічала каля 300 дакладчыкаў амаль з усяго свету. Нашае спавешчанне «Каляндарная мадэль ведыйскай адукацыі» было сканцэнтраванае вакол астранамічна-каляндарнай гіпотэзы паходжання «Рыг-веды» з ілюстрацыяй галоўных палажэнняў у серыі астранамічных табліц і разлікаў.

Трэба сказаць, работа канферэнцыі была арганізавана на вышэйшым узроўні: гарадскія ўлады і арганізатары стварылі надзвычай зручныя ўмовы для дэлегатаў — часам нават коштам асабістых нягодаў і не без шкоды для сваёй універсітэцкай работы. Дзякуючы гэтаму знаходжанне сярод небачосаў касмапалітычнага Мельбурна было не проста прыемным, але і ў найвышэйшай ступені плённым і карысным. Як адзначыў у сваёй прамове вышэйшы ўпаўнаважаны па справах Індыі пан А.М.Кхалеелі, хоць санскрыцкая канферэнцыя не можа прыцягнуць такую ж увагу, як Сідней, што рыхтуецца быць цэнтрам Алімпіяды — 2000, усё ж такі ладжанне Сусветнай санскрыцкай канферэнцыі ў Аўстраліі ёсць сведчаннем павагі да гэтай краіны, прызнаннем яе арганізацыйных здольнасцяў і навуковых дасягненняў.

Прыемна адзначыць, што санскрыцкія даследаванні распачаліся і на Беларусі, і будзем спадзявацца, што неўзабаве адна з найважнейшых класічных моваў будзе вывучацца і ў нашых універсітэтах. Індыя з гатоўнасцю прадаставіла б сваю дапамогу ў падрыхтоўцы спецыялістаў па мове і аспірантаў.

**Міхась МІХАЙЛАЎ.**

г.Горкі.

## Мішэль Турнье
# ПСІХАЛОГІЯ БЕДНЯКА

1. Бедны есць у два-тры разы больш, чымсьці багаты. Напачатку я меркаваў — гэта патрэбна, каб кампенсаваць больш высокі расход энергіі ў тых, хто працуе рукамі і мускуламі.Нічога падобнага: гэты рэжым харчавання тлумачыцца агульнапрынятым атлусценнем, і я жыву ў атачэнні азызлых кабецін і пузатых, мардатых мужчын. Праўда палягае ў тым, што бедны —калі нават яго ні ў чым не абмяжоўваюць — не можа вызваліцца ад брушнога страху прапусціць час яды — страху, замацаванага ў чалавецтве стагоддзямі напаўгалоднага існавання. Бядняк, да таго ж, захаваў вернасць эстэтыцы немаёмных, якім падаюцца прывабнымі і жаданымі поўныя кабеты, а пузатыя мужчыны — мужнымі і велічнымі.

2. Бедны апранаецца куды больш цёпла, чым багаты. Халадэча, пасля голаду — найжудаснейшае бедства для людзей. Бедны церпіць ад атавістычнага страху перад холадам і бачыць у ім прычыну мноства хваробаў: прастудзіцца — значыцца, абавязкова захварэць. Есці мала і хадзіць напаўаголенымі — гэта прывілеі багатых.

3. Бядняк — прыроджаны дамасед. Вясковае паходжанне прымушае яго бачыць ва ўсялякай паездцы нейкі абрыў каранёў, выгнанне, валацужніцтва. Ён не здольны ездзіць улегцы. Яму патрэбна да ўсяго падрыхтавацца, усё прадугледзець і заваліць сябе бескарысным багажом. Найменшае перамяшчэнне набывае ў яго размах пераезду.

4. Бядняк бясконца соўваецца па лекарах. Трэці страх, з якім ён не можа даць сабе рады, — хвароба. У бядняцкіх кварталах дактары закатаваныя пацыентамі з насмаркам або разладжаным страваваннем. Іншым разам бедны пытае сябе, якім гэта чынам багатаму шчасціць ніколі не хварэць. Адказ просты: справа ў тым, што той аб гэтым проста не думае.

5. Паколькі ягоная праца марудная і нецікавая, бедны ўсё жыццё лашчыць у сабе дзве мары, якія, па сутнасці, з'яўляюцца адной і той самай: гэта штогодні адпачынак і выхад на пенсію. Трэба прыналежаць да касты паноў, каб не звяртаць аніякай увагі на гэтыя два міражы.

6. Бедны прагне пашаны. Ён не зусім упэўнены, што прыналежыць да чалавечага супольніцтва. Што, калі ён не больш чым жывёла? Адсюль — патрэбнасць кідка апранацца, насіць капялюш, трымацца за сваё — якім бы сціплым яно ні было — становішча ў грамадстве. Адсюль таксама ягоная сарамяжлівасць. Даць азначэнне пашане не цяжка: гэта выраджанае паняцце гонару, якое займала месца маралі ў арыстакратаў. Калі ў 1789 годзе трэцяе саслоўе замяніла арыстакратыю на чале нацыі, гонар саступіў месца пашане і яе двум апірышчам: сарамяжлівасці і культу ўласнасці — тым паняццям, на якія арыстакратыя не звяртае ўвагі.

7. У палітыцы бядняк — закаранелы кансерватар, паколькі прымае грамадства такім, якім яно ёсць, і разлічвае зрабіць у ім кар'еру. Ён не паднімае вачэй вышэй, чым на дробную буржуазію, да шэрагаў якой ён марыць далучыцца як мага хутчэй. Адсюль вынікае, што аніводную рэвалюцыю не спарадзіў народ. Дрожджы рэвалюцыі ва ўсякім грамадстве бродзяць толькі ў асяродку студэнцкай моладзі, г.зн. сярод атожылкаў арыстакратыі ды буйной буржуазіі. Гісторыя рэгулярна дае прыклады жорсткіх сацыяльных крызісаў, справакаваных моладдзю найбольш прывілеяванага класа. Тым не менш народныя масы, якія трапілі падобным чынам на кручок рэвалюцыі, карыстаюцца ёю, каб дамагчыся падвышэння заработку, скарачэння працоўнага часу, ранейшага выхаду на пенсію — г.зн. каб на крок наблізіцца да дробнай буржуазіі. Такім чынам, падчас грамадскіх узрушэнняў бедныя масы народу абцяжарваюць эканамічную сістэму, але ўмацоўваюць сацыяльны парадак, робяцца ягоным апірышчам з яшчэ большай ахвотай. Дзякуючы ім рэвалюцыйныя ўрады змяняюцца тыранічнымі вартаўнікамі новага рэжыму.. Мірабо наступнічае Банапарт, а Леніну — Сталін.

**Пераклаў з французскай Юрась БАРЫСЕВІЧ.**

# «А КАХАННЕ ЗНІКЛА...»

...Я не ўпэўнена, што правільна зрабіла, напісаўшы гэты ліст у газету «Культура», але спадзяюся, што праблемы, якія турбуюць і засмучаюць мяне, не пакінуць абыякавымі і іншых жанчын-чытачак вашай газеты. Бо, культура, на маю думку, гэта не толькі канцэрты ды фестывалі, гэта ў першую чаргу — культура адносін, тое, што павінна існаваць у нашых сэрцах...

Пачну з пачатку. Мы пажаніліся зусім маладымі, яшчэ ў студэнцкія гады. Нягледзячы на матэрыяльныя цяжкасці, якія сталі асабліва вострымі з нараджэннем дачкі, на адсутнасць свайго жылля, на няпростыя адносіны з бацькамі мужа, я ўсё ж адчувала сябе шчаслівай, бо каханы быў побач, разумеў, імкнуўся дапамагчы і падбадзёрыць. Бяссонныя ночы ля калыскі, бясконцыя дзіцячыя хваробы, канспекты па начах — усё гэта здаецца зараз далёкім і ўжо напаўзабытым сном... Бо нам было добра разам.

І раптам усё змянілася. Муж кінуў працу інжынера (маўляў, надакучыла існаваць па-жабрацку) і разам з сябрам пачаў займацца такой моднай зараз камерцыяй. Разам яны заснавалі так званую «камерцыйную» фірму — нешта набывалі, потым прадавалі, атрымліваючы прыбытак. Цяпер гэтая «дзейнасць» займае ўвесь час мужа — і працоўны, і вольны, і я ўжо забылася нават, калі мы разам наведвалі тэатр, кіно ці проста гулялі ўтраіх... Наш тата заўсёды заняты. Вяртаючыся дадому пасярод ночы, ён не мае сіл нават каб пагутарыць са мною, даведацца, ці здаровая Леначка. Мы амаль не размаўляем. Калі ў нас збіраюцца сябры (такія ж «камерсанты»), дык чуеш толькі: «падаткі», «прыбыткі», «страты», «танней-даражэй»... Быццам бы іншых тэмаў не існуе або ім больш нічога не цікавае...

Калі я неяк пачала сварыцца з мужам, даводзячы яму, што так жыць далей нельга і нам з дачушкай не хапае ўвагі і разумення, у рэшце рэшт проста мужчыны і бацькі ў хаце, ён шырока адкрыў вочы: «Якія праблемы? Табе грошай бракуе ці што?..». Ніхто з блізкіх не разумее мяне. Сяброўкі смяюцца, маўляў, жывеш каралевай, як сыр у масле катаешся, кватэра шыкоўная ў цэнтры горада, абстаноўка, «BMW» ля пад'езда. І маці мая таксама кажа: «Што табе яшчэ трэба? Сама не ведаеш, чаго хочаш.»

Не, няпраўда, я ведаю, чаго хачу. Хачу, каб не толькі прыбытак ды падаткі турбавалі нашых мужчын, каб не знікала з нашых сэрцаў тое юнацкае каханне, якое саграваўа калісьці, дапамагаючы перанесці ўсе жыццёвыя навальніцы. Каб грошы не ператвараліся ў сэнс і мэту жыцця...

Я прадбачу ўжо нядобрыя ўсмешкі ў мой адрас, маўляў, «і багатыя таксама плачуць», але сапраўды — плачуць. Бо самота ўдваіх — здаецца, самае вялікае няшчасце. Адзінота, якую ніхто не бачыць.

...Учора мне раптам падумалася, што трэба нешта неадкладна рабіць, трэба паспрабаваць вярнуць у наш дом адчуванне шчасце, кахання, што, здаецца, ужо страчана. Ці атрымаецца гэта ў мяне?..

**Аксана БЯЛЯЕВА.**

г.Мінск.

# «МАЯ ПРАЦА НІКОМУ НЕ ПАТРЭБНАЯ...»

... Калі ў N8 вашай газеты за 23 лютага г.г. я прачытала артыкул «Былі абвалы, былі патопы...», прысвечаны Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, у якім яе супрацоўніцы з трывогай і болем распавядалі пра праблемы галоўнай бібліятэкі краіны, мне падумалася: «Як дзіўна — кніжны фонд Нацыянальнай бібліятэкі, мабыць, у тысячы разоў перавышае збор маёй маленькай вясковай бібліятэкі, але праблемы ў абедзвюх падобныя, амаль аднолькавыя». І сапраўды, у артыкуле ішла гаворка пра цяжкасці з захаваннем і папаўненнем фондаў, гучаў непакой за будучыню бібліятэчнай справы ў нашай дзяржаве наогул. Пра ўсё гэта ведаю я не па чутках.

... Хацелася б троху расказаць пра сябе. Дзесяць гадоў таму пасля заканчэння бібліятэчнага тэхнікума я трапіла па размеркаванні ў вёску. Неўзабаве выйшла замуж, нарадзіліся дзеці і, калі яны падраслі, зноў пайшла працаваць па спецыяльнасці — у бібліятэку. Работу сваю лічу прызваннем, бо даўно, з самага ранняга дзяцінства захаплялася кнігамі, якіх у нашай хаце было шмат (бацькі-настаўнікі мелі добрую бібліятэку класічнай літаратуры). Чытала ўсё: ад Тургенева і Дастаеўскага да прыгодніцкіх раманаў і фантастыкі. Я рана навучылася самастойна пераплятаць кнігі, ніколі не дазваляла малодшай сястрычцы маляваць у кнігах ці псаваць іх. Мабыць, таму маё рашэнне стаць бібліятэкарам было ўспрынята ў сям'і як лагічнае і натуральнае.

Так, я люблю сваю справу. І мне вельмі балюча і крыўдна заўважаць, як гіне, канае бібліятэка ў нашай вёсцы, як праца мая становіцца нікому не патрэбная. Чаму так сталася? Дзе вытокі сённяшняй абыякавасці маіх аднавяскоўцаў да кнігі, наогул да друкаванага слова?

Так, я разумею — час зараз такі. Усім складана. Нестабільнасць у палітыцы, эканамічныя цяжкасці, якія ў вёсцы, на маю думку, яшчэ больш адчувальныя, чым у горадзе, несупынны рост цэнаў — усё гэта прымушае людзей болей думаць пра хлеб надзённы, чым пра духоўныя патрэбы. Але ж ці можна з гэтым прымірыцца? Ці добра, што зараз да мяне ў бібліятэку на тыдні прыходзіць столькі ж наведнікаў, колькі раней, яшчэ некалькі гадоў таму, прыходзіла за дзень? Бываюць дні, калі я самотна сяджу ў сваім пакоі да вечара, так і не дачакаўшыся нікога... Ды і каму прыходзіць? Моладзі ў нас амаль што няма, і дзіцячыя галасы чуваць толькі ўлетку, падчас канікулаў, калі малых прывозяць да бабуль. А старым сёння — не да чытання... Зрэдку зойдзе хто-небудзь з вяскоўцаў пагартаць газеты.

Горка адчуваць, што твае веды, тваё жаданне працаваць для людзей — незапатрабаваныя. Я не кажу ўжо пра жабрацкі заробак, на які, калі б не зарплата мужа-механізатара ды прысядзібная гаспадарка, і тыдня немагчыма было б пражыць. Мяне больш непакоіць іншае: людзі пераcталі цікавіцца кнігамі, прэсай, наогул культурным жыццём, а гэта — нядобрая прыкмета. Так, нас зараз больш турбуюць іншыя праблемы: як выжыць, як выгадаваць дзяцей і дачакацца лепшых часоў. Але ж гэта не павінна ператварацца ў сэнс і мэту жыцця. Нягледзячы на сённяшні стан грамадства, дзе пануе бязвер'е, разгубленасць, зласлівасць, нам нельга страчваць нашыя духоўныя здабыткі, нельга дапусціць, каб дзеці нашыя, навучыўшыся добра лічыць грошы розных колераў, не навучыліся разумець і цаніць мастацкае слова, прыгажосць вершаў, не ведалі сваёй літаратурнай спадчыны...

...Сёння раніцай мяне спыніла на вуліцы старэнькая бабулька ў вялізных валёнках: «Можа, ты б прынесла мне, дзетка, якую газету пачытаць?» І, ведаеце, я ўзрадавалася...

**Ірына СІДАРУК.**

Стаўбцоўскі раён.

# ЖАДАЮ ЛЁГКАЙ РУКІ!

На кубачак гарбаты

*(Працяг. Пачатак у N12)*

Перш за ўсё — прабачце, што не далі, як абяцалі, другую і трэцюю энергетычныя праграмы ў наступным нумары. Справа ў тым, што адразу ж пасля надрукавання артыкула «Жадаю лёгкай рукі» пайшлі званкі. Чытачы раздзяліліся на дзве катэгорыі — тую, якая не адчувала ніякіх кропак і катэгарычна сцвярджала, што іх знайсці немагчыма (і ўвогуле сумнявалася, ці яны ёсць), і другую, якая адразу ж уключылася ў работу і села працаваць. Мы вырашылі даць магчымасць другой катэгорыі прайсці ўвесь першы цыкл і падзяліцца ўражаннямі. А першай... пашукаць свае балючыя месцы. І вось водгукі:

Марыя Фёдараўна (званок): «Вашу газету мне прынесла суседка. Прачытала — гэта ж усе мае сімптомы! Кропкі стала адчуваць адразу ж. Толькі вось задача — колькі разоў на дзень іх масіраваць і з якой сілай?»

Фёдар Фёдаравіч (званок): «Кропка шаа-хай аказалася вельмі балючай. Але вы далі адну, а ў мяне баліць уся рука. Як выдзеліць патрэбнае?»

Спадарыня Бурак (званок): «Я ведаю, што трэба пачынаць з пазваночніка. А вы прапануеце з рук. А ногі? У мяне страшэнна баляць і ногі. Дык што рабіць?»

Жанчына, якая не паставіла сваё прозвішча на лісце, прысланым у рэдакцыю: «Дарагая Тацяна! У мяне часта бываюць вельмі напружаныя плечы. Ад гэтага, я думаю, баліць галава, бо, калі памасірую плечы, боль трохі адступае, але трохі. Можа, масіраваць трэба больш?»

Наталля Сцяпанаўна Ходзька адказала на тры першыя пытанні так:

«Я масіравала спачатку, «з гарачкі», па тры разы. Гэтак рабіць можна. Але навошта спяшацца? Можа проста не хапіць сіл. Таму, на маю думку, найлепей рабіць масаж двойчы ў дзень. А сілу прыкладаць такую, каб было балюча, але настолькі, наколькі можна цярпець. Спадарыні Бурак я не магу прапанаваць лячыць ногі, для гэтага ёсць выдадзены цэнтрам народнай медыцыны «Сантана» пераклад кнігі Ф.М.Хаўстона «Исцеление с помощью акупрессуры» — 1992 г., дзякуючы якой мая сяброўка пазбавілася апухання ног, але для мяне гэтая кніга была цікавай толькі напачатку, бо яна не дае тлумачэння — што і як адбываецца ў арганізме. Мне ж для работы хацелася зразумець, што іменна я раблю, чаму работа з той ці іншай кропкай павінна даць пэўны вынік. Да таго ж, пра кропкі на нагах гаворка пойдзе ў апісанні трэцяй энергетычнай праграмы — але толькі выключна тых, якія дапамагаюць «разгружаць сэрца».

А што тычыцца званка Фёдара Фёдаравіча, то якраз пра гэту — «разгрузачную» работу на руках і пойдзе сёння гаворка. Дзеля чаго мы пачынаем гэтую працу?

Прафесар Рыго піша, што праца на руках мае за мэту прывесці да нормы перыкард, а значыць, і застрахаваць сэрца. Па-другое, энергетыка цела будзе прыведзеная да мінімуму, які гарантуе бяспеку, з дапамогай вельмі папулярнай на Усходзе сістэмы «малая інь» (пра яе пазней).

Пра перыкард гаворыцца наступнае: «гэта надзейны шчыт, гэта своеасаблівы мяшок, у якім знаходзіцца сэрца. У яго шмат функцый — ён, напрыклад, адказны за энергазабеспячэнне грудных полавых залозаў і тым кантралюе важнейшую эндакрынную сістэму — гіпофіз, гіпаталамус, наднырачнікі... Калі перыкард у парадку, ён прапускае да сэрца роўна столькі энергіі і інфармацыі, колькі яно здольнае ўспрыняць без напружання».

Вось чаму, працуючы з кропкамі, трэба рабіць гэта ўсвядомлена і не «халтурыць» — не спяшацца, не прапускаць дні, а ўслухоўвацца ў сябе і адчуваць, калі вы «прабілі» кропку — гэта ні з чым не параўнальнае адчуванне ў вашым целе, якое можна апісаць хіба толькі паэтычна — нібы лопаецца тоненькая сярэбраная струна і цячэ па целу цёплым струменьчыкам...

Другая энергетычная праграма пачынаецца з кароткай «атакі» на кропкі, якія лепей як бы «калоць» пазногцем:

Шаа-чун — на мезенцы, ледзь-ледзь ніжэй унутранага вугла пазногця; чжун-чун — на падушачцы сярэдняга пальца, адступіўшы на 0,3 мм ад вяршыні пазногця.

Гэтыя дзве кропкі дапамагаюць пры псіхозах і дэпрэсіўных станах. Выкарыстоўваюць іх і для «хуткай дапамогі», калі з сэрцам блага. Кожную кропку трэба калоць сама меней 50, а лепей — 100 разоў.

Наступная кропка — да-лін. Яна знаходзіцца на запясці, пасярэдзіне складкі, вельмі важная пры астэніі і супакойвае, пасля нашай атакі, перыкард. На ёй трэба працаваць не меней за 3 хвіліны.




Ян чы — такая ж, як і «да-лін», але — не з боку далоні, а на вонкавым баку. Працаваць на ёй, пасля таго як адчулі боль, не меней адной хвіліны. (Трэба сказаць, што для нашай чытачкі Наталлі Сцяпанаўны самым цяжкім было адшукаць гэтую кропку, але яна не разгубілася — шукала яе не адным, а адразу трыма пальцамі, і, толькі папрацаваўшы на ёй тры дні, стала адчуваць боль, настолькі глыбока схаванай аказалася гэтая хітрая кропка).

Затым — вядомая нам па першай праграме «нэй-гуань» — яна на 2,5 см вышэй за «да-лін».

Цзянь-шы — яна вышэй за «нэй-гуань» на 1,5 см. Гэтая кропка асабліва важная — яна знаходзіцца на злучэнні трох мерыдыянаў, якія ідуць з грудзей у руку — лёгкіх, перыкарда і сэрца. На ёй трэба працаваць 1 — 2 хвіліны. Калі вы не адчуваеце гэтую кропку, можна (як рабіла Наталля Сцяпанаўна) працаваць трыма пальцамі — адзін з іх абавязкова «зачэпіць» кропку. Яшчэ яна рабіла так — малявала ручкай гэтую кропку, адшукаўшы ці «прабіўшы» яе на папярэднім сеансе.

Шаа-хай — знаёмая вам кропка, яна знаходзіцца на локцевай складцы, там, дзе яна ўпіраецца ў локцевы сустаў.

Цюй-цзэ — пасярэдзіне локцевай складкі. Яна — галоўная пры барацьбе з астэніяй. (Аднак, насуперак гэтай рэкамендацыі прафесара, балючая кропка цюй-цзэ аказалася ў Наталлі Сцяпанаўны лявей, бліжэй да «шаа-хай», так што лепей давярыцца ўласнаму адчуванню болю, шукаючы яе на локцевай складцы.) Працаваць на ёй роўна 3 хвіліны. Менавіта гэтая кропка лепей за ўсё аднаўляе энергетыку цела, і ў час работы менавіта пры яе масажы тройчы праходзіў у Наталлі Сцяпанаўны дзікі галаўны боль...

А далей дзве таксама ўжо вядомыя кропкі — «тань-чжун» і «юй-тан».

І, нарэшце, апошняя — цюй-цюань. Яна знаходзіцца з унутранага боку каленнага сустава і таксама адшукваецца даволі цяжка. Не шкадуйце часу — асцярожна, але настойліва прамасіруйце альбо прапальпіруйце калена з унутранага боку. Вы знойдзеце там, несумненна, яшчэ больш балючых зоны, але аб іх мы раскажам вам пазней.

А цяпер яшчэ падрабязней пра методыку працы.

Наша цела не павінна балець нідзе, ні ў адной кропцы, і калі боль узнік — значыць, унутры развіваецца хвароба, арганізм не спраўляецца з ёю сам і нібыта просіць цябе «Дапамажы!». Балючае месца — гэта праекцыя хваробы на паверхню цела.

Калі вы працуеце, толькі напачатку «слухайце» боль. Гэта патрэбна, каб знайсці хворае месца. Але пазней, падчас працы, думайце аб тым, што вы пасылаеце хвораму месцу энергію, і адчувайце — прынамсі, пастарайцеся адчуваць! — цяпло пад вашым пальцам. Не механічна «давіце» на кропку, але пастарайцеся засяродзіцца на гэтым цяпле, на тым, як яно пранікае ў цела. Дарэчы, менавіта па гэтай прычыне прафесар Рыго раіць рабіць масаж самому. Чаму? Таму што ён вельмі сур'ёзна піша пра «энергетычных вампіраў», якімі могуць быць і самыя блізкія людзі. Дадзім, зрэшты, слова яму і яго памочніку Уладзіміру Шыну, якія пішуць пра гэта так: «Калі вы адчулі, што ваша жыццёвая сіла змяншаецца ад прысутнасці таго ці іншага чалавека, старайцеся трымацца ад яго далей... Несумяшчальнасць можа мець эндакрынную прыроду, альбо можа быць несумяшчальнасць біялагічных палёў. Нарэшце, залозы вашага партнёра могуць выпрацоўваць такія эфіры (яны ўспрымаюцца слізістымі), якія ў закрытым памяшканні за адну ноч могуць зрабіць вас хворым. Энергетычны вампірызм лідзіруе ў гэтым шэрагу... і таму пасля дапамогі «вампіра» хвораму можа стаць горш».

Наталля Сцяпанаўна рабіла свае масажы сама, але часткова ёй дапамагала сяброўка, якую яна любіць. І таму «будзем прымаць дапамогу толькі ад тых, да каго адчуваем унутраную сімпатыю».

Прафесар Рыго і яго памочнік далі яшчэ дзве парады для працы — не прымаць дапамогу ад энергетычна аслабленых людзей, таму што «калі ў яго меней энергіі, чым у вас, пры кантакце ваша энергія пацячэ да яго. Лекар і пацыент пры кантактным лячэнні — гэта як сазлучаныя сасуды, з якіх вадкасць свабодна перацякае туды-сюды». І яшчэ — бывае, што той, хто робіць масаж, «свядома экраніруецца ад хворага. Тэхнічна ён выконвае ўсё добра, аднак у ягонай працы няма асноўнага — засяроджанасці на адчуваннях пад пальцамі». Правільная работа вельмі стамляе, таму прафесіяналы-масажысты часта як бы «адключаюцца» ад хворага, а іх уздзеянне становіцца чыста механічным, што ў нашу сістэму не ўкладваецца. Наш масаж — энергетычны, і гэта трэба памятаць.

А цяпер адкажам на ліст. Я, вядома, не ўрач, але маю ўласную бібліятэчку і дапамагаю сабе ў патрэбных выпадках без лекаў. Вось што піша, напрыклад, спецыяліст па акупрэсуры Такуіра Намікошы ў сваёй кнізе «Шыацу, японская тэрапія надаўліваннем пальцамі», перакладзенай на рускую мову кандыдатам медыцынскіх навук В.Лысенюком (Мн., «Беларусь», 1990): «Парушэнне абмену рэчываў, цукровы дыябет, клімактэрычныя парушэнні могуць выклікаць тугаплечасць, балючасць мышц верхніх канечнасцей і верхняй часткі спіны. Калі гэтая з'ява ўзнікае без бачнай прычыны, звычайна дапамагае наступнае лячэнне. Той, хто дапамагае, павінен двума вялікімі пальцамі рук на працягу трох секунд надавіць на верхнюю частку лапатак пяцьшэсць разоў. Затым тры разы націснуць на кропкі міжлапатачнай вобласці з правага і левага боку (глядзіце на малюнку 1).

Затым, размясціўшы вялікія пальцы рук на першую кропку справа і злева, а астатнія пальцы на ключыцы (глядзіце на малюнку 2), памагаты павінен націснуць усімі пальцамі аднačасова, затым сціснуць мышцы над лапаткамі і пацягнуць іх уверх на працягу адной секунды. Паўтараюць гэты прыём тры разы.

За выцягнутыя ўверх рукі памагаты тры секунды прагінае цела назад (малюнак 3). Затым тры разы за плечы прыўзнімае тулава ўверх (малюнак 4). Пасля трэба пагладзіць грудную клетку зверху ўніз, а таксама ўздоўж пазваночніка».

Таму, каму гэты спосаб падасца складаным, варта ўспомніць, што праглынутая вамі таблетка дасць вам, як мінімум, удар па печані і нырках, а прычыны галаўнога болю не здыме. Не раім толькі карыстацца апісаным спосабам тым, у каго тугаплечасць узнікла па прычыне парушэння асанкі ці скрыўлення пазваночніка і з'яўляецца пастаяннай.

Хаця тут вам не абысціся без памагатага, жадаю і вам, і яму таго, што пісаў у канцы сваіх парад прафесар Рыго — лёгкай рукі!

**Тацяна ДАЛГОВА.**

Культура

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара —
Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП,
Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ,
А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ,
В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ,
В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД,
Барыс ШУЛЬМАН
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ
Набор і вёрстка кампутарнага цэнтра
газеты «Культура»

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.

Тэлефон: 76-94-66
Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

©
Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 7000
Замова 50
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

